# NEW LIFE IN CHRIST

by George Repetski

in Belorussian

Printed in Poland

## РАЗЬДЗЕЛ ПЕРШЫ:
## ЯК СТАЦЦА ХРЫСЬЦІЯНІНАМ ПАВОДЛЕ ЕВАНГЕЛЬЛЯ?

Што трэба зрабіць, каб стацца хрысьціянінам паводле Евангельля? Гэта надта важнае пытаньне, бо адказ на яго вызначае нашае цяперашняе зямное жыцьцё і нашае будучае замагільнае, вечнае існаваньне. Сьвятая Біблія, Слова Божае, дае чалавецтву правільны адказ на гэтае пытаньне. Яна вучыць, што пасьля сьмерці душа чалавека працягвае сьвядома існаваць і што тыя, хто ў зямным жыцьці стаўся хрысьціянінам ці хрысьціянкай і жыў паводле вучэньня Бібліі, атрымаюць шчасьлівае вечнае жыцьцё. Так вучыў Ісус Хрыстос, Сын Божы, Чые словы запісаны ў Евангельлі (другой частцы Бібліі, якая таксама называецца «Новым Запаветам»).

Што да зямнога жыцьця веруючых Хрыстос сказаў: «Я прыйшоў дзеля таго, каб мелі жыцьцё ды жыцьцё з здабыткам» (Іаан. 10:10). Інакш кажучы, Хрыстос прыйшоў на зямлю дзеля таго, каб даць тым, хто ўверуе ў Яго, поўнае і мэтанакіраванае жыцьцё. У дачыненьні да чалавечага будучага замагільнага жыцьця Ён сказаў: «Хто верыць у Сына (гэта значыць, у Самога Хрыста), той мае вечнае жыцьцё, а хто ў Сына ня верыць, той ня ўбачыць жыцьця, але гнеў Божы прабывае на ім» (Іаан. 3:36).

Пасьля ўзьнясеньня Хрыста на неба да Бога Айца вучні сталі прапаведаваць і распаўсюджваць добрую вестку пра збаўленьне чалавечых душаў, якое, як яны сьцьвярджалі, атрымліваецца праз веру толькі ў Ісуса Хрыста як Збаўцеля і Госпада: «Ні ў кім іншым няма збаўленьня, бо і няма іншага імя (апрача імя Хрыстовага) пад небам, дадзенага людзям, якім бы нам збавіцца» (гэта значыць, якім бы атрымаць вечнае жыцьцё – Дзеянь. 4:12).

У пытаньнях аб тым, што трэба зрабіць, каб стацца хрысьціянінам ці хрысьціянкай паводле Евангельля, ёсьць два бакі: тое, што Бог учыніў, і тое, што вымагаецца ад чалавека.

## ШТО ЎЧЫНІЎ БОГ?

Бог шмат учыніў для чалавецтва, каб людзі маглі стацца хрысьціянамі ды атрымаць шчасьліваe вечнае жыцьцё. Тут мы прыгадаем толькі некалькі з Божых учынкаў для людзей. Евангельле паказвае, што Бог учыніў тое, чаго сам чалавек ніколі ня мог бы зрабіць для свайго збаўленьня.

1. Бог аддаў Свайго Сына Ісуса Хрыста на ахвяру для нашага адкупленьня ад грахоў. Будучы бязгрэшным, Ён нявінна памёр на крыжы за нас, грэшнікаў. Цела Ягонае было пахаванае, але Хрыстос уваскрэс з мёртвых. Крыжовая сьмерць Хрыстова – гэта ахвярная сьмерць дзеля нашага збаўленьня.

2. Бог цяпер прапануе кожнаму чалавеку магчымасьць атрымаць вечнае жыцьцё, пры чым шлях да атрыманьня вечнага жыцьця Ён дакладна адкрывае нам у Евангельлі.

3. Бог прылучае нас да Сваёй Царквы, калі мы выконваем патрабаваньні Евангельля. У кнізе Дзеяньняў апосталаў мы чытаем: «Тыя, хто прыхільна прыняў словы ягоныя (апостала Пятра), ахрысьціліся, ды ў гэты ж дзень далучылася каля трох тысяч душаў... Гасподзь штодня дадаваў Царкве тых, хто збаўляўся» (Дзеянь. 2:41-47).

4, Бог робіць нас Сваімі дзецьмі, калі мы верым ды прымаем Хрыста як свайго асабістага Збавіцеля ды слухаемся Яго. У Евангельлі паводле Іаана гаворыцца: «А тым, хто прыняў Яго (Сьвятло, гэта значыць Ісуса Хрыста), веруючым у імя Яго, дало Яно ім сілу дзецьмі Божымі стацца, тым, хто верыць у імя Ягонае» (Іаан. 1:12).

5. Бог абяцае ўсім, хто ўвераваў і прыняў Хрыста, вечнае жыцьцё і нябесны дом. Сваім вучням Хрыстос сказаў: «Іду падрыхтаваць вам месца. І калі пайду і падрыхтую вам месца, прыйду зноў і вазьму вас да Сябе, каб і вы былі, дзе Я» (Іаан. 14:2-3).

## ШТО ВЫМАГАЕЦЦА АД ЧАЛАВЕКА?

У Евангельлі яскрава і дакладна гаворыцца, што чалавеку трэба зрабіць, каб стацца сапраўдным хрысьціянінам ці хрысьціянкай.

1. Першае патрабаваньне – слуханьне Слова Божага. Чалавек павінен слухаць Слова Божае. Чаму? Таму, што вера ўзьнікае ў чалавека тады, калі ён чытае ці слухае Слова Божае. Як сказана ў Лісьце да рымлянаў, у дзесятым разьдзеле, семнаццатым вершы: «Вера ад слуханьня, а слуханьне ад Слова Божага». Значыцца, вера прыходзіць да чалавека, калі ён знаёміцца са зьместам Евангельля.

2. Другое патрабаваньне – увераваньне ў Ісуса Хрыста ды асабістае прыняцьце Яго за свайго Збавіцеля і Госпада. Сапраўдная вера – гэта вера ў тое, што Слова Божае кажа пра Бога, Хрыста і збаўленьне чалавека. З усіх нашых крокаў да Бога і Хрыста найважнейшы – увераваньне. Яно – ключ да ўсіх іншых крокаў. Сьвятое Пісаньне кажа: «Бяз веры дагадзіць (Богу) немагчыма, бо хто прыходзіць да Бога, мусіць верыць, што Ён ёсьць і што тым, хто шукае Яго, дае ўзнагароду» (Яўр. 11:6).

Евангельле паведамляе аб тым, як Бог паслаў на сьвет Ісуса Хрыста. Пры зямным жыцьці Хрыстос шмат добрага зрабіў людзям. Ён навучаў Сваіх вучняў пра Царства Божае, памёр на крыжы ахвярнай сьмерцю, уваскрэс з мёртвых ды ўзьнёсься да Бога, Свайго Нябеснага Айца. Усё гэта мы прымаем за праўду.

Але толькі розумам прыняць усе гэтыя факты недастаткова. Кожны з нас мусіць уверававаць у Хрыста ды прыняць Яго ў сэрца асабіста – як свайго асабістага Збавіцеля. У Адкрыцьці, у трэйцім разьдзеле, дваццатым вершы запісаны такія Хрыстовы словы: «Вось стаю пры дзьвярах і стукаюся; калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзьверы, Я ўвайду ў яго ды буду вячэраць з ім». Гэтыя словы паказваюць, што Хрыстос стаіць пры дзьвярах чалавечага сэрца

ды стукаецца, жадаючы ўвайсьці. Калі чалавек адчыніць дзьверы свайго сэрца Хрысту, дык Ён увойдзе і з гэтага пачнецца блізкая лучнасьць паміж Хрыстом і веруючым. Евангельле вучыць, што Хрыстос уваходзіць і жыве ў чалавечым сэрцы Духам Сьвятым (Рым. 8:9-11), а Духа Сьвятога чалавек прымае праз веру (Гал. 3:14).

Евангельле таксама вучыць, што чалавек атрымлівае збаўленьне праз веру. У Дзеяньнях апосталаў сказана пра аднаго вартаўніка, які аднойчы прыбег да апостала Паўла і ягонага супрацоўніка, Сілы, ды папытаўся ў іх: «Уладары мае, што трэба рабіць, каб збавіцца?», на што яны адказалі: «Уверуй у Госпада Ісуса Хрыста, і будзеш збаўлены ты і ўвесь дом твой» (Дзеянь. 16:30-31). У іншым месцы Евангельля апостал Павал кажа, што чалавек ня можа атрымаць збаўленьне сваімі добрымі ўчынкамі, а вераю: «Бо вы збаўлены ласкаю (Божаю) праз веру, і гэта не ад вас – Божы дар, не ад учынкаў, каб ніхто не хваліўся» (Эфес. 2:8-9).

3. Трэйцяе патрабаваньне – каяньне ў грахах перад Богам Айцом і Хрыстом. Можна шкадаваць аб учыненых грахах і адначасна далей весьці грэшнае жыцьцё. Гэта ня ёсьць і ня можа быць сапраўдным каяньнем. У Дзеяньнях апосталаў мы чытаем: «Дык вось, Бог, не зважаючы на час няведаньня, загадвае цяпер усім людзям усюды пакаяцца» (Дзеянь. 17:30). Кожны павінен пакаяцца перад Богам і Хрыстом. Пакаяцца – гэта значыць прызнаць сябе грэшнікам, адмовіцца ад усякага грэшнага жыцьця і шчыра зьвярнуцца да Хрыста за дапамогай у змаганьні з грахом.

Слова Божае сьцьвярджае, што кожны чалавек зграшыў і ён – грэшнік, якому неабходна Божае прабачэньне (Рым. 3:10 і 3:23), таму кожнаму трэба па-сапраўднаму пакаяцца перад Богам і Хрыстом ды папрасіць Божага прабачэньня і духоўнае сілы для перамогі над грахамі. У Першым лісьце Іаана Багаслова сказана гэтак: «Калі вызнаём мы грахі нашыя, дык Ён – верны і справядлівы, каб дараваць нам грахі нашыя і ачысьціць нас ад усякае няпраўды» (1 Іаан. 1:9).

4. Чацьвёртае патрабаваньне – вызнаваньне перад людзьмі свае веры ў Ісуса Хрыста як у Госпада і Збавіцеля. Слова Божае кажа: «Бо калі вуснамі сваімі будзеш вызнаваць Ісуса за Госпада і сэрцам сваім верыць, што Бог уваскрэсіў Яго з мёртвых, дык збавішся, бо сэрцам верыцца дзеля праведнасьці, а вуснамі вызнаецца дзеля збаўленьня» (Рым. 10:9-10). Пра тое, што мы абавязаны вызнаваць Хрыста перад другімі, Сам Хрыстос сказаў: «Восъ кожнага, хто Мяне будзе вызнаваць перад людзьмі, таго Я вызнаю перад Айцом Маім, што ў нябёсах» (Мацьв. 10:32).

5. Пятае патрабаваньне – вадзяное хрышчэньне. У другім разьдзеле Дзеяньняў апосталаў паведамляецца аб тым, як Пётр прапаведаваў пра Хрыста. Слухачы запыталіся ў апосталаў: «Што нам рабіць, мужы-браты?». Пётр адказаў: «Пакайцеся, ды няхай кожны з вас ахрысьціцца ў імя Ісуса Хрыста дзеля адпушчэньня грахоў, і вы атрымаеце дар Сьвятога Духа» (Дзеянь. 2:38). Мы таксама знаходзім такія словы ў Евангельлі паводле Марка: «Хто ўверуе і ахрысьціцца, збаўлены будзе; хто ж ня ўверуе, засуджаны будзе» (Марк. 16:16). Згодна з Новым Запаветам веруючы павінен праявіць сваю веру і пакаяньне прыняцьцем вадзянога хрышчэньня. У апостальскія дні людзі сьпярша верылі ў Хрыста і каяліся, а пасьля гэтага толькі прымалі вадзяное хрышчэньне. Мы перакана期 ны, што трэба трымацца такога самага парадку і ў нашы дні.

Варта таксама тут жа заўважыць, што вадзяное хрышчэньне ў апостальскія дні заўсёды выконвалася поўным занурэньнем веруючага ў ваду. У грэцкім арыгінале Новага Запавету слова «баптызмо» даслоўна азначае «занурэньне» ці «акунаньне» ў нешта. У пачатку хрысьціянскае эры акт хрышчэньня выконваўся занурэньнем веруючага ў ваду. На падставе апостальскай практыкі і вучэньня Евангельля мы верым, што толькі пасьля ўвераваньня і пакаяньня чалавек можа і павінен прыняць сьвятое вадзяное хрышчэньне занурэньнем яго ў ваду.

У апостальскія дні гэты акт меў асаблівае духоўнае значэньне для нованаверненага. У хрышчэньні веруючы поўпасьцю аддаваўся Хрысту: ён паміраў для старога грэшнага жыцьця ды ўваскрасаў для новага жыцьця з Хрыстом, Які цяпер жыў у ягоным сэрцы ў відзе Духа Сьвятога. Апостал Павал пра гэта напісаў: «Мы пахавалі сябе з Ім (Хрыстом) хрышчэньнем у сьмерць, каб, як Хрыстос уваскрэс з памёршых славай (Бога) Айца, так і нам хадзіць у абноўленым жыцьці» (Рым. 6:4).

6. Шостае патрабаваньне – заўсёднае і пасьлядоўнае хрысьціянскае жыцьцё. Стацца хрысьціянінам паводле Евангельля – гэта яшчэ ня ўсё. Неабходна заўсёды жыць сапраўдным хрысьціянскім жыцьцём паводле Евангельля. Бог ад пасьлядоўнікаў Хрыста патрабуе вернасьці Яму, гэта значыць Ён хоча, каб кожны хрысьціянін заўсёды і пасьлядоўна жыў хрысьціянскім жыцьцём ажно да самой сьмерці. У кнізе Адкрыцьця запісаны такія Словы Божыя: «Будзь верны да сьмерці і дам табе вянок жыцьця (гэта значыць шчасьлівае вечнае жыцьцё – Адкр. 2:10).

Евангельле паказвае, як чалавек можа стацца хрысьціянінам. Аднак у большай сваёй частцы яно павучае веруючага, як жыць правільна па-Божаму. Інакш кажучы, Бог кліча нас да Сябе ня толькі дзеля таго, каб мы маглі атрымаць шчасьлівае вечнае жыцьцё пасьля сьмерці, але і дзеля таго, каб мы сталі жыць прыкладным хрысьціянскім жыцьцём яшчэ тут на зямлі. Пасьля таго, як апостал Павал напісаў эфесцам, што чалавек атрымлівае збаўленьне верою, ён дадаў такія важкія словы: «Мы – Яго (Божае) стварэньне, створаныя ў Хрысьце Ісусе на добрыя ўчынкі, якія Бог загадзя прызначыў, каб мы ў іх хадзілі» (Эфес. 2:10). Сапраўднае хрысьціянскае жыцьцё ў добрых учынках магчыма толькі тады, калі веруючы застаецца верным Богу і Хрысту да канца свайго зямнога жыцьця.

Хрыстос ніколі не казаў, што хрысьціянскае жыцьцё будзе надта лёгкім. Аднаго разу Ён нават сказаў Сваім

вучням, што на сьвеце яны будуць мець гора, але пра гэта, як Ён казаў, турбавацца ня трэба. Чаму? Таму, што Ён перамог сьвет (Іаан. 16:33). Значыцца, Хрыстос перамог усе спакусы зямнога жыцьця, якія вядуць да граху, і гэтым Ён паабяцаў даць Сваім пасьлядоўнікам неабходную моц вытрываць да самага канца. Усё сваё жыцьцё веруючаму трэба жыць у цеснай лучнасьці з Хрыстом. Паводле Ягоных слоў: «Калі будзеце ўва Мне, і словы Мае ў вас будуць, то, чаго хочаце, прасіце і збудзецца вам... Гэта сказаў Я вам, каб радасьць Мая ў вас была, і каб радасьць ваша была поўная» (Іаан. 15:7 і 11).

Веруючаму, які паслухмяны Богу, абяцаецца дар Сьвятога Духа (Іаан. 14:15-18; Дзеянь. 5:32); Ён дапаможа яму жыць хрысьціянскім жыцьцём. Хаця Дух Сьвяты шмат дапамагае веруючаму, веруючы мусіць таксама прымаць неабходныя захады для сталага росту ў праведнасьці і пабожнасьці. У гэтым дачыненьні апостал Павал напісаў: «Са страхам і дрыжэньнем пра збаўленьне сваё старайцеся, бо Бог – гэта Той, Хто выклікае ў вас і жаданьне і дзеяньне паводле Сваёй добрай волі» (Філ. 2:12-13).

## ШТО РАБІЦЬ?

Дарагі чытач, у якім стане вы цяпер перад Богам? Можа вы яшчэ ня ўпэўнены ў сваёй веры ў Бога і Хрыста? Мы раім вам, калі гэта магчыма, сур'ёзна ўзяцца за ўважлівае чытаньне Евангельля. А калі Евангельле для вас недаступна, дык раім пашукаць радыёперадачы на кароткіх хвалях, у якіх Евангельле займае самае галоўнае месца, гэта значыць яно чытаецца і растлумачваецца.

Можа вы, дарагі чытач, ужо ў Бога і Хрыста верыце, але з упэўненасьцю ня можаце сказаць, што вы па-сапраўднаму пакаяліся перад Імі ў грахах і асабіста прынялі Хрыста ў сэрца за свайго Збавіцеля і Госпада. У самай простай малітве вы можаце гэта зрабіць цяпер. Калі вы ня ведаеце, што сказаць Богу і Хрысту, дык вось тут жа прапануем наступную малітву: «Літасьцівы Божа, я прыз-

наюся, што зграшыў (зграшыла) супраць Цябе і я – грэшны (грэшніца) перад Табой. Ласкава прашу Твайго дараваньня ўсіх грахоў і дапамогі ў змаганьні з грахом. Ад глыбіні душы я дзякую Табе за вялікую любоў, за тое, што Ты паслаў Хрыста на зямлю, каб Ён памёр за мяне, прыняўшы кару за мае грахі. Я шчыра веру, што Ён памёр за мяне, і цяпер прымаю Яго за свайго адзінага Збавіцеля і Госпада. Прашу, дарагі Хрыстос, увайдзі ў маё сэрца праз Духа Сьвятога. Дапамажы мне, Госпадзе, жыць для Тваё славы ўсе дні майго жыцьця. Усё гэта я прашу са шчырай удзячнасьцю ў імя Бога Айца, Сына і Духа Сьвятога. Амін».

Ці гэтая кароценькая малітва выказвае вашае шчырае жаданьне, дарагі чытач? Калі так, дык раім паўтарыць яе Богу і Хрысту. Бог бачыць ваша сэрца; Ён ведае і разумее вашыя думкі і жаданьні. Калі вы зьвернецеся да Яго з такой простай і шчырай малітвай, я ўпэўнены, што Гасподзь адкажа вам і ўчыніць тое, чаго вы просіце.

Як мы ўжо чыталі, пасьля пакаяньня, увераваньня і прыняцьця Хрыста за свайго Збавіцеля і Госпада трэба вызнаць Яго за свайго Госпада перад іншымі людзьмі. Вы можаце гэта зрабіць рознымі спосабамі. Скажыце каму-небудзь са сваіх сваякоў, прыяцеляў ці знаёмых, што вы прынялі Хрыста і што Ён цяпер – ваш Уладар. Таксама, пастарайцеся пашукаць гурток евангельскіх веруючых і раскажыце ім пра ваша вераваньне і прыняцьце Хрыста. Папрасіце, каб яны дапамаглі вам прыняць сьвятое вадзяное хрышчэньне. І старайцеся рэгулярна наведваць іхнія багаслужбы і гэтым мець духоўную лучнасьць з імі; таго Слова Божае вымагае ад пасьлядоўнікаў Хрыстовых.

Ва ўсім гэтым давярайце Богу, Хрысту і Духу Сьвятому. Вам будзе паслана Божая дапамога для праведнага хрысьціянскага жыцьця. Таксама раім вам уважліва прачытаць гэтую кнігу, бо яна дапаможа вам у духоўным росьце. Няхай блаславіць вас Гасподзь у новым хрысьціянскім жыцьці.

## РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ:
## СУТНАСЬЦЬ ЕВАНГЕЛЬСКАЕ ВЕСТКІ

Ці вы, дарагі дружа, прачыталі першы разьдзел гэтай кнігі? Спадзяюся, што так. У ім прыводзяцца і коратка растлумачваюцца паасобныя крокі, якія трэба прыняць дзеля таго, каб стацца хрысьціянінам ці хрысьціянкай паводле Евангельля. Мая надзея, што вы ня толькі прачыталі першы разьдзел, але і зрабілі тое, што там жа раіцца. Спадзяюся, што вы ўжо сапраўды пакаяліся, уверавалі і прынялі Ісуса Хрыста за свайго асабістага Збавіцеля і Госпада.

Калі вы прынялі Хрыста за свайго Збавіцеля і Госпада, штосьці вельмі важнае здарылася з вамі. Вы перажылі тое, што Хрыстос аднойчы назваў новым нараджэньнем ці нараджэньнем звыш, якое Ён далей растлумачыў, як нараджэньне ад вады і Духа (Іаан. 3:3-5). Вы сталіся новым духоўным стварэньнем у Ісусе Хрысьце, бо перажылі новае духоўнае адраджэньне і цяпер вы – дзіця Божае.

Мы можам параўнаць вашае духоўнае нараджэньне з фізічным нараджэньнем. Пасьля таго, як вы нарадзіліся на сьвет, бацькі, асабліва маці, пачалі карміць і даглядаць вас. З цягам часу вы дасягнулі сьпярша фізічнага, а потым разумовага сталага ўзросту. Падобна да таго, вы цяпер і павінны расьці духоўна і імкнуцца да блізкай і сардэчнай лучнасьці з Госпадам.

Біблія, Слова Божае, ня толькі растлумачвае, што трэба зрабіць, каб стацца хрысьціянінам ці хрысьціянкай, яна таксама паказвае, што трэба рабіць, каб расьці духоўна ў новым хрысьціянскім жыцьці. Апостал Пётр заахвочвае новых хрысьціянаў узрастаць «у ласцы і пазнаньні Госпада нашага і Збавіцеля Ісуса Хрыста» (2 Пятр. 3:18). Калі апостал Павал разьвітваўся з веруючымі ў Эфесе, дык сказаў ім: «Цяпер я даручаю вас, браты, Богу і слову міласьці Ягонай, Які можа збудаваць і даць вам спадчыну з усімі пасьвячонымі» (Дзеянь. 20:32). Гэтыя настаўленьні

паказваюць, што пасьля новага духоўнага нараджэньня веруючы павінен разьвівацца і расьці ў хрысьціянскім жыцьці.

Што патрэбна для духоўнага росту? Для фізічнага разьвіцьця чалавек сілкуецца здаровай ежай. І падобна да таго, веруючы расьце духоўна, калі падмацоўваецца Словам Божым, гэта значыць рэгулярна і ўважліва чытае Біблію, бо яна – духоўны пажытак для веруючага. Чым болей веруючы чытае Слова Божае, тым глыбей ён спазнае Бога і расьце духоўна. Біблія зьмяшчае ўсё, што веруючаму трэба ведаць пра Бога, Духа Сьвятога, хрысьціянскае жыцьцё і іншыя важныя духоўныя справы. Значыцца, веруючы штодня павінен чытаць Слова Божае, гэтым і патроху прымаць часткі біблейнага вучэньня, бо духоўны рост адбываецца тады, калі веруючы чытае і паводзіць сябе ў жыцьці згодна са Словам Божым.

## СУТНАСЬЦЬ ЕВАНГЕЛЬЛЯ

Для духоўнага росту, перш за ўсё, трэба дакладна засвоіць асновы евангельскай весткі. Таму мы перагледзім самыя галоўныя пункты Евангельля, каб мець яснае ўяўленьне таго, што менавіта здарылася з намі, калі мы паверылі ў Евангельле і прынялі Хрыста ў сэрца. Гэта асабліва важны крок для вас, дарагі чытач, калі вы нядаўна прынялі Хрыста. Мы перагледзім Божы плян збаўленьня дзеля таго, каб высьветліць у сваім розуме і паняцьці тое, што Бог зрабіў праз Хрыста ў мінулым для нашага збаўленьня і ў нашых сэрцах, калі мы прынялі Хрыста за свайго Збавіцеля. Гэты перагляд таксама дапаможа нам упэўніцца ў тым, што мы, веруючыя, – дзеці Божыя, і што Хрыстос сапраўды жыве ў нашых сэрцах.

Евангельле – гэта добрая вестка аб Божым збаўленьні для грэшнікаў, якія гэтага не заслужылі. Божае збаўленьне даецца нам праз Збавіцеля сьвету, Сына Божага, Ісуса Хрыста. Апостал Павал напісаў: «Я не саромеюся Евангельля Хрыстовага, бо яно – моц Божая на збаўленьне

кожнаму, хто верыць, сьпярша яўрэю, а потым – грэку» (Рым. 1:16). Асабліва важная тут думка, што Евангельле – гэта Божая моц на збаўленьне кожнаму, хто паверыў у Хрыста. Апостал Павал абвяшчаў гэтую евангельскую праўду ў шматлікіх месцах тагачаснага цывілізаванага сьвету. Пішучы да веруючых ў Карыньфе, ён выказаў, можна сказаць, самую істотную праўду Евангельля: «Бо я сьпярша пераказаў вам тое, што і сам пераняў, што Хрыстос памёр за грахі нашы паводле Пісаньня, і што Ён быў пахаваны і ўваскрэс на трэйці дзень паводле Пісаньня» (1 Кар. 15:3-4).

У гэтых словах апостал сказаў, што Хрыстос памёр, быў пахаваны і ўваскрэс з мёртвых за нашыя грахі. Кожны чалавек пражывае свой час на зямлі і ў канцы памірае, але сьмерць Хрыста мела асабліва важнае і цалкам унікальнае значаньне. Хрыстос памёр дзеля незвычайнай мэты: Ён памёр за нашыя грахі. Што гэта значыць? Гэта значыць, што Хрыстос стаўся нашым Заступнікам. Ён узяў на Сябе нашыя грахі і прыняў за іх пакараньне, на якое мы заслужылі, бо Ён Сам ніколі не зграшыў. Хрыстос памёр за мае і вашыя грахі, дарагі дружа. Але на трэйці дзень Ён і ўваскрэс у знак таго, што Ягоная сьмерць была прынята Богам як дастатковае пакараньне за чалавечыя грахі.

Калі Евангельле растлумачваецца няверуючаму, што як раз трэба напомніць яму? Неабходныя пункты даюцца ніжэй:

1. Наяўнасьць граху. Біблія адкрыта і ясна сьцьвярджае, што ўсе людзі – грэшнікі, і што непамілаваны Богам грэшнік – загінуўшы чалавек. Гэта значыць, што непамілаваны грэшнік поўнасьцю адлучаны ад Бога і, калі ён не пакаецца і ня ўверуе ў Хрыста, то застанецца адлучаным ад Бога назаўсёды. Шмат хто ня верыць, што ён – загінуўшы чалавек, адлучаны ад Бога, і што ён ідзе па шырокім шляху да вечнай загубы. Аднак Біблія кажа, што перад Богам людзі без Хрыста – грэшнікі, якія маюць патрэбу ў Збавіцелю, што Бог можа дараваць ім грахі і вызваліць іх

з-пад улады граху. Апостал Павал напісаў: «Усе зграшылі і пазбаўлены славы Божай» (Рым. 3:23). Апрача Хрыста ніхто з людзей належна не выконвае Божага маральнага закону, таму кожны – грэшнік перад сьвятым Богам. Зразумела, гэта ня значыць, што людзі ніякага дабра ня робяць. Дабро яны робяць, але справа ў тым, што яны парушылі Божы маральны кодэкс, у выніку чаго сталіся грэшнікамі.

Прарок Ісаія апісвае наш духоўны стан такімі словамі: «Усе мы, як авечкі, заблудзілі; кожны зьвярнуў на сваю дарогу» (Іс. 53:6). Інакш кажучы, мы наўмысна грашым з поўным усьведамленьнем аб няправільнасьці сваіх учынкаў. У гэтым сэньсе мы выбралі і выйшлі на свой уласны шлях. Паводле словаў прарока – мы заблудзілі. У каго б мы ў сьвеце ні папыталіся, кожны скажа, што ён не заўсёды чыніць праўду. Часта мы разумеем, што трэба рабіць, а нават супраць свайго сумленьня ўчыняем як раз супрацьлеглае. Грэх у сапраўднасьці закрануў кожнага з нас. У трэйцім разьдзеле Ліста да рымлянаў мы чытаем: «Няма праведніка ніводнага... усе зьбіліся з дарогі» (Рым. 3:10-12). Да галацкіх веруючых апостал напісаў: «Пісаньне ўсё замкнула пад грахом» (Гал. 3:22). Мы ўсе грэшнікі і маем вялікую патрэбу ў дараваньні сваіх грахоў і ў вызваленьні ад улады граху.

2. Пакараньне. Біблія ня толькі раскрывае наяўнасьць граху ў чалавецтве, яна таксама перасьцерагае аб пакараньні за грэх. Апостал Павал напісаў: «Заплата за грэх – сьмерць, а дар Божы – жыцьцё вечнае ў Хрысьце Ісусе Госпадзе нашым» (Рым. 6:23). Якая ж тут велізарная розьніца! З аднаго боку, нераскаянага грэшніка чакае сьмерць, а з другога боку Бог прапануе цудоўны дар шчасьлівага вечнага жыцьця таму, хто ўверуе ды прыме Хрыста за свайго асабістага Збавіцеля і Госпада.

Сьмерць увайшла ў чалавецтва ў выніку людскога грашэньня. Апостал Павал растлумачвае гэтую зьяву так:

«Як праз аднаго чалавека ўвайшоў у сьвет грэх і праз грэх – сьмерць, гэтак і сьмерць перайшла праз усіх людзей, бо ў ім усе зграшылі» (Рым. 5:12). Як павінны мы зразумець сьмерць у такім значэньні? Як пакараньне за грэх, сьмерць у Біблії найчасьцей разумеецца ў значэньні духоўнай сьмерці. Адам і Ева, першыя людзі і продкі ўсяго чалавечага роду, памерлі духоўна, калі парушылі Божы загад. Бог забараніў ім каштаваць плод з дрэва пазнаньня дабра і зла (Быць. 2:17), а яны ўсяроўна зьелі з гэтага дрэва (Быць. 3:6), таму і духоўна памерлі. Значыцца, іхнім непаслушэнствам блізкая духоўная лучнасьць з Богам была парваная.

Пішучы да веруючых у Эфесе, апостал Павал нагадаў ім пра той час, калі яны былі мёртвымі з прычыны сваіх праступкаў і грахоў (Эфес. 2:1). Той, хто не навярнуўся да Хрыста і цяпер не знаходзіцца ў Ім, у Божых вачах ён – духоўна мёртвы чалавек. А духоўна мёртвы чалавек не адклікаецца Богу і духоўнай праўды не разумее. Толькі Бог можа адрадзіць і вызваліць такога чалавека з граху і пакараньня за грэх, а дзеля гэтага чалавек мусіць сьпярша навярнуцца да Хрыста з пакаяньнем і верай.

Які канец чакае духоўна мёртвага чалавека? Апостал Павал адказвае, што ў сваё другое прыйсьце на зямлю Ісус Хрыстос адплаціць тым, хто ў зямным жыцьці Бога не пазнаў і Евангельлю не падпарадкаваўся. «Яны прымуць кару вечную, – ён сьцьвярджае, – ад аблічча Госпада і ад славы моцы Яго» (2 Фес. 1:8-9). Гэта значыць, што Бог назаўсёды адлучыцца ад няверуючых і больш ужо ня выратуе іх ад вечнае загубы. Гэты час для няверуючых станецца вечнай сьмерцю ў тым сэньсе, што яны назаўсёды аддзеляцца ад Бога і Ягонай прысутнасьці. У дваццатым разьдзеле кнігі Адкрыцьцё Іаан Багаслоў апісвае апошні суд пры велічным сьветлым пасадзе Госпадавым, калі будуць разгорнуты розныя кнігі і «кніга жыцьця», ды мёртвыя будуць асуджаны паводле сваіх учынкаў у зямным жыцьці. Сказана там жа гэтак: «Каго не знаходзілі запісанага ў кнізе жыцьця, кідалі яго ў возера вогненнае» (Адкр. 20:15).

3. Запатрабуецца адпаведнае пакараньне за грэх. Біблія вучыць, што Бог ненавідзіць грэх. У Сваёй сьвятасьці і справядлівасьці Ён вызначыць адпаведнае пакараньне за ўсякі чалавечы грэх. У кнізе Ісаі 13:11 запісаны такія Божыя словы: «Я пакараю сьвет за ліха і нягоднікаў за беззаконнасьць іхнюю». Усе нашыя грахі заўважаюцца Богам, і ў сваім часе яны атрымаюць сваю справядлівую адплату. Бог, будучы ва ўсім праведным і справядлівым, ня можа забыць пра чалавечыя грахі і прымаць выгляд, быццам бы нічога дрэннага людзі не зрабілі. Каб Ён так паставіўся да людскіх грахоў, дык гэта пярэчыла б Ягонай сьвятасьці і справядлівасьці.

У Лісьце да яўрэяў мы чытаем, што «людзям назначана раз памерці, а пасьля – суд» (Яўр. 9:27). Зьвярніце ўвагу на дадзены парадак здарэньняў. Прыйдзе час, калі мы памрэм, і тады станем перад Госпадавым пасадам. Ніхто не пазьбегне гэтага суда. І што адбудзецца? Бог будзе нашым Судзьдзёй і назаўсёды асудзіць грэх. Кожны грэх, учынены ўпотайку, і кожны злачынны намер нераскаянага грэшніка адкрыецца, і за гэта ён атрымае сваю заслужаную адплату.

4. Хрыстос перанёс кару за чалавечыя грахі. Хрыстос, Сын Божы, зьявіўся на сьвет для адмысловае мэты. Ён прыйшоў дзеля таго, каб адкрыць нам Бога і Яго плян збаўленьня. Зямное жыцьцё Хрыста было пражыта ў сьвятой дасканаласьці, гэта значыць Ён ніколі не зграшыў. Што важней, Хрыстос быў пасланы ад Бога Айца дзеля таго, каб памерці ахвярнай сьмерцю за людскія грахі і гэтым выратаваць людзей ад пакараньня за грэх і вызваліць іх ад улады граху. У Лісьце да рымлянаў 5:8 сказана: «Бог Сваю любоў да нас даказвае тым, што Хрыстос памёр за нас, калі мы былі яшчэ грэшнікамі». Бог так моцна палюбіў нас, што і пераканаўча даказаў Сваю любоў, калі мы былі яшчэ грэшнікамі. Хрыстос быў пасланы на зямлю дзеля таго, каб памерці за нас, няправедных і грэшных людзей. Божая любоў таму – вялікая любоў. Мы ў сапраўднасьці ня варты

яе, але Бог усяроўна паказаў Сваю любоў тым, што аддаў Свайго ўласнага Сына ў ахвяру дзеля нашага збаўленьня і апраўданьня. Хрыстос прыняў на Сябе кару за нашыя грахі; Ён дазволіў Сябе раскрыжаваць для дараваньня нашых грахоў.

У Другім лісьце да карынфянаў 5:21 чытаем гэтакія павучальныя словы: «Таго (Хрыста), Хто граху ня ведаў, Ён (Бог Айцец) зрабіў за нас грахом, каб мы ў Ім (Хрысьце) сталіся праведнасьцю Божай». Гэта значыць, што ў справе адплаты за чалавечыя грахі Бог Айцец вызначыў Хрыста нашым Заступнікам. Той, хто прабывае ў Хрысьце, перад Богам ён – праведнік, апраўданы Хрыстовым жыцьцём і крыжовай сьмерцю. Калі Хрыстос пакутаваў на крыжы, Ён зьвярнуўся да Свайго Нябеснага Айца: «Божа Мой! Божа Мой! навошта Ты Мяне пакінуў?» (Маць. 27:46). Якраз у гэты момант Ён узяў на Сябе ўсе нашыя грахі і адчуў усю жахлівасьць цяжару чалавечых грахоў і адсутнасьці Свайго Нябеснага Айца, Які ня мог глядзець на Свайго Сына з-за чалавечых грахоў. Пасьля гэтага Хрыстос усклікнуў: «Збылося!» (Іаан. 19:30) і, схіліўшы галаву, памёр. Гэтым словам засьведчыў усяму сьвету, што Ён перанёс пакараньне за чалавечыя грахі. У грэцкім арыгінале слова «збылося» мае значаньне «поўнасьцю адплачана». Значыцца, Хрыстос поўнасьцю адплаціў за чалавечыя грахі Сваім жыцьцём і сьмерцю на крыжы і адкрыў шлях да збаўленьня. Усё гэта адбылося згодна з Божым намерам і воляй. Хрыстос аднойчы растлумачыў Божую любоў гэтак: «Бо так палюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго адзінароднага, каб усякі, веруючы ў Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае» (Іаан. 3:16).

У нашыя часы шмат хто лічыць, што толькі добрымі ўчынкамі магчыма будзе атрымаць збаўленьне душы. А Біблія сьцьвярджае, што калі хто адмовіцца ад прыняцьця Хрыстовай ахвяры за свае грахі, дык Гасподзь скажа такому: «Я ніколі ня ведаў вас; адыдзіце ад Мяне вы, што чыніце беззаконнасьць» (Маць. 7:23). Уся бяда ў тым, што людзі не разумеюць, як Бог глядзіць на іх і што Ён бачыць усё ў іхніх сэрцах. Мы становімся грэшнікамі перад Богам, ка-

лі дапускаемся ўсяго толькі аднаго граху. Аднак, як вядома, кожны з нас учыніў ня толькі адзін, а мноства грахоў. Сам Бог ведае, колькі разоў мы парушылі Яго маральны закон. Гэта ня значыць, што мы ня робім дабра. Кожны з нас стараецца быць добрым. Справа ў тым, што ўсе нашыя дабрадзействы ніколі не пераважаць перад Богам нашых правінасьцяў. Ніхто ня можа апраўдацца перад Богам такім чынам, бо мы ўсё ж грэшнікі. Старазапаветны прарок Ісаія апісвае нашыя добрыя намеры і ўчынкі так: «Усе мы сталіся нячыстымі, і ўсе праведнасьці нашыя – як забруджаная адзежа; і ўсе мы зьвялі, як ліст, і беззаконнасьці нашыя, як вецер, нясуць нас» (Іс. 64:6).

Як было сказана раней, у Бога ёсьць кнігі, у якіх Ён запісвае ўсе людскія ўчынкі. Бог адзначае нашае стаўленьне да пытаньня ахвярнай сьмерці Хрыста. Ён заўважае, ці паверылі мы ў Хрыста і ў Яго ахвярную сьмерць, ці аднесьлі мы яе да сябе, ці прынялі мы Хрыста за свайго Збавіцеля і Госпада? Усё гэта адзначаецца і запісваецца. Можна тут жа запытаць: колькі грахоў дапускаецца чалавекам за ўсё сваё зямное жыцьцё? Многа, і думаецца, што старонкі Божых кнігаў перапоўнены чалавечымі праступкамі. Каб толькі няверуючыя ўсьвядомілі, што Хрыстос гатоў зьняць цяжар іхніх грахоў і дараваць ім, калі б яны толькі пакаяліся ды ўверавалі! Збавіцель узяў на Сябе чалавечыя грахі і перанёс пакараньне за іх. Старажытны прарок напісаў пра гэта так: «Усе мы, як авечкі, заблудзілі, кожны зьвярнуў на сваю дарогу і Гасподзь узлажыў на Яго (Хрыста) усе нашы беззаконнасьці» (Іс. 53:6). Інакш кажучы, Бог усклаў грахі, якія прыгняталі нас, на Хрыста, у выніку чаго нам больш ня трэба адчуваць віну перад Богам. Так сталася, дзякуючы таму, што Ісус Хрыстос «грахі нашыя Сам узьнёс у целе Сваім на дрэва, каб мы, вызваліўшыся ад грахоў, жылі дзеля праўды» (1 Пятр. 2:24).

5. Збаўленьне – гэта бясплатны дар. Збаўленьня мы ня можам заслужыць, бо веруючаму яно даецца Богам, як дар. Бог збаўляе чалавека па Сваёй вялікай ласцы. Тое ж

напісаў апостал Павал: «Бо вы збаўлены ласкаю (Божаю) праз веру, і гэта не ад вас – Божы дар, не ад учынкаў, каб ніхто не хваліўся» (Эфес. 2:8-9). «Калі ж людзям зьявілася ласкавасьць і любоў Збаўцеля нашага, Бога, Ён збавіў нас не паводле ўчынкаў праведных, якія мы зрабілі, а па Сваёй міласьці, абмыцьцем адраджэньня і абнаўленьня Духам Сьвятым, Якога выліў на нас шчодра праз Ісуса Хрыста, Збаўцеля нашага, каб, апраўдаўшыся Яго ласкай, мы сталіся паводле спадзяваньня спадкаемцамі вечнага жыцьця» (Ціт. 3:4-7). Збаўленьне і вечнае жыцьцё даюцца веруючаму дарэмна. Бог вызваляе нас ад граху і дае новае жыцьцё. Мы толькі можам падзякаваць Богу за ўсе Яго дабрадзействы. Псалмасьпявак Давід атрымаў Божую дапамогу і апісаў яе гэтак: «Ён вывеў мяне з ямы пагібельнай, з твані балотнай, і ногі мае паставіў на скале і ўзмоцніў ступні мае. І новую песьню мне ў вусны ўклаў – хвалу нашаму Богу! І многія гэта ўбачаць і пабаяцца ды ўскладуць надзею на Госпада» (Пс. 40:3-4). Як раз тое ж самае робіць Гасподзь для кожнага, хто зьвяртаецца да Яго дзеля збаўленьня.

6. Трэба прыняць Ісуса Хрыста. Мы можам ведаць і разумець усе факты аб збаўленьні праз Хрыста: што мы грэшнікі пад пагрозай сьмерці; што Хрыстос памёр за нас; што збаўленьне даецца дарэмна праз веру ў Хрыста. Але пакуль мы не адкрыем дзьверы нашага сэрца Хрысту, ня ўверуем і ня прымем Яго асабіста за свайго Збаўцеля і Госпада, то ня будзем мець збаўленьне. Мы застанемся ў нашых грахах і пад Божым асуджэньнем.

Хрыстос сказаў: «Вось, стаю пры дзьвярах і стукаюся; калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзьверы, Я ўвайду ў яго ды буду вячэраць з ім» (Адкр. 3:20). Хрыстос сілком не ўваходзіць ў чалавечае сэрца, а толькі тады, калі мы навяртаемся да Яго і запрашаем Яго да сябе. Не Хрыстос, а мы адчыняем дзьверы свайго сэрца. Хрыстос толькі стаіць пры дзьвярах нашага сэрца і стукае, жадаючы ўвайсьці. Калі мы з верай упускаем Яго, Ён Духам Сьвятым уваходзіць у нас і робіць з нас дзяцей Божых. Аб гэтым еванге-

ліст Іаан напісаў так: «Тым, хто прыняў Яго (Сьвятло, Хрыста), веруючым у імя Яго, дало Яно ім сілу дзецьмі Божымі стацца, тым, хто верыць у імя Ягонае, тым, хто не ад крыві, не ад жаданьня цела, не ад жаданьня мужа, але ад Бога нарадзіліся» (Іаан. 1:12-13).

Калі мы верым і ўпускаем Хрыста ў свае сэрца, Ён у сапраўднасьці ўваходзіць і духоўна адраджае нас, у выніку чаго мы становімся новымі стварэньнямі ў Хрысьце (2 Кар 5:17). У судны дзень, калі Бог, магчыма, папытаецца ў нас, на якой падставе можа Ён адкрыць нам Сваё нябеснае царства, мы павінны адказаць: на падставе ўсяго, што Хрыстос учыніў для нас, і нашага асабістага ўвераваньня ды прыняцьця Хрыста за свайго Збавіцеля і Госпада. Біблія сьцьвярджае, што на гэтай жа падставе мы будзем прыняты ў Божае нябеснае царства для шчасьлівага вечнага жыцьця.

## ПЭЎНАСЬЦЬ ЗБАЎЛЕНЬНЯ

Ці веруючы мае права лічыць і сьцьвярджаць, што ён без усякага сумненьня атрымаў і цяпер мае вечнае жыцьцё, што ён шчасьліва будзе жыць з Богам і Хрыстом у небе? Інакш кажучы, ці веруючы можа быць упэўнены ў сваім збаўленьні? Некаторыя адкажуць, што ніхто ня мае права быць упэўнены ў сваім збаўленьні, бо толькі Бог пастанаўляе, хто будзе і хто ня будзе збаўлены.

У такіх пытаньнях мы павінны абапірацца на Слова Божае, а не на свае ўласныя пачуцьці ці погляды. І што ж мы знаходзім адносна пытаньня асабістай пэўнасьці ў збаўленьні? Апостал Іаан дае такі адказ: «Гэта напісаў я вам, веруючым у імя Сына Божага, каб вы ведалі, што маеце жыцьцё вечнае» (1 Іаан. 5:13). Апостал Іаан тлумачыць, што ён напісаў пасланьне дзеля таго, каб веруючыя ведалі, што маюць ужо цяпер вечнае жыцьцё. У яго сьцьверджаньні мы не заўважаем ні ценю сумненьня ў тым, што веруючы атрымаў ад Хрыста і цяпер мае збаўленьне. Значыцца, веруючы можа быць упэўнены ў сваім збаўленьні не з тае прычыны, што гэта адчувае ці гэтак сам думае, а таму, што Слова Божае

запэўнівае яго ў гэтым. Заслужыць збаўленьне немагчыма, бо яно даецца веруючаму, як дар ад Бога, таму ніхто з веруючых ня можа хваліцца атрыманьнем збаўленьня добрымі ўчынкамі. Толькі на падставе Божай ласкі і жывой веры ў Хрыста мы можам упэўніцца ў сваім збаўленьні.

Але будучы чалавекам, веруючы можа страціць сваю ўпэўненасьць у збаўленьні. Мы жывём уласнымі пачуцьцямі, і гэта ня раз праяўляецца ў нашай лучнасьці з Госпадам. Пачуцьці адыгрываюць надта важную ролю ў нашых адносінах да Бога. Калі мы першапачаткова ўверавалі і прынялі Хрыста ў сэрца, то пры тым атрымалі дар збаўленьня, бо Хрыстос – крыніца збаўленьня. Пры навярненьні да Хрыста асабістыя пачуцьці веруючага прынялі вялікі ўдзел. Мы наблізіліся да Хрыста з глыбокай скрухай і жалем за сваю грэшнасьць. А пасьля таго, калі мы прынялі Збавіцеля і поўнасьцю даверыліся Яму, нашыя першыя пачуцьці цалкам зьмяніліся; яны сталіся радаснымі з-за таго, што зрабіў для нас Хрыстос. Ён зьняў з нас гнятучы цяжар грахоў і ўклаў у нашыя сэрцы новую радасьць, адчыніў наш духоўны зрок і слых, каб мы маглі зразумець духоўныя праўды. Ад усяго гэтага нашае сэрца моцна ўзрадавалася.

Але такія шчасьлівыя пачуцьці часта зьмяняюцца і надыходзяць моманты, калі мы больш не адчуваем сябе як новыя стварэньні ў Хрысьце. Справа ў тым, што нашыя пачуцьці ў сапраўднасьці не зьмяняюць нашага стану перад Богам, таму і ўпэўненасьці ў сваім збаўленьні не павінны мы апіраць на свае пачуцьці. Самае галоўнае тут – гэта наша ўсьведамленьне, што мы перайшлі ад духоўнай сьмерці да жыцьця, калі навярнуліся да Хрыста, як сьцьвярджае Біблія ў Евангельлі паводле Іаана 5:24: «Сапраўды, сапраўды кажу вам: хто слухае слова Маё і верыць у Паслаўшага Мяне, мае вечнае жыцьцё і на суд не ідзе, але перайшоў ад сьмерці ў жыцьцё». Важней давярацца Богу, чымся сваім пачуцьцям. Калі Бог нешта кажа, дык трэба тое прыняць за праўду. А каб упэўніцца ў тым, што кажа Бог, мы павінны чытаць Яго Слова пільна і ўважліва. А дзеля ўпэўненасьці ў збаўленьні мы чытаем такія важкія словы: «Бог за-

сьведчыў аб Сыне Сваім. А гэтае сьведчаньне ў тым, што Бог даў нам жыцьцё вечнае, і гэтае жыцьцё ў Сыне Яго. Хто мае Сына – мае жыцьцё; хто Сына Божага ня мае – ня мае жыцьця» (Іаан. 5:10-12).

На якой падставе ведаем мы, што маем вечнае жыцьцё ці збаўленьне? На той падставе, што Бог гэтак абʼяўляе ў Сваім Слове. Калі вы, паважаны дружа, прынялі Хрыста за свайго Збаўцеля і Госпада, дык Біблія сьцьвярджае, што вы цяпер маеце вечнае жыцьцё. І вы можаце быць пэўнымі ў гэтым таму, што Бог тое ж сказаў праз апостала ў Сваім сьвятым і праўдзівым Слове.

Ёсьць і другое сьведчаньне, што мы атрымалі і цяпер маем збаўленьне ад Бога. Гэта нутраное пацьвярджэньне Духа Сьвятога, што мы – Божыя дзеці. У Лісьце да рымлянаў апостал Павал выказвае такую думку, калі піша: «Дух сьведчыць духу нашаму, што мы – дзеці Божыя, а калі дзеці, дык і спадкаемцы, спадкаемцы Божыя, спадкаемцы супольна з Хрыстом, калі толькі з Ім пакутуем, каб з Ім і ўславіцца» (Рым. 8:16-17).

Калі чалавек каецца і прымае Хрыста, ён атрымлівае дар Духа Сьвятога. Прыняцьце Хрыста значыць прыняцьце Духа Сьвятога, бо Дух Сьвяты ў сапраўднасьці – гэта Дух Хрыстовы. Таму Дух Сьвяты ўваходзіць у сэрца чалавека, які, пакаяўшыся ў сваіх грахах і ўвераваўшы ў Хрыста як свайго ўласнага Збаўцеля, прымае Яго. З таго моманту Дух Сьвяты ці проста Хрыстос пачынае жыць у яго сэрцы і выконваць вельмі важную і неабходную ролю. Ён робіць веруючага больш чулым да граху, дапамагае яму ў змаганьні з грахом. Часамі веруючы мае асаблівую патрэбу ў падбадзёрваньні ці духоўным ўзмацненьні, ці магчыма ў якім-небудзь сваім рашэньні ён шукае Божага кіраўніцтва. У такіх справах і пытаньнях Дух Сьвяты, прабываючы ў сэрцы веруючага, наказвае яму, што трэба рабіць і як паводзіць сябе па-Божаму. Апрача таго, Дух Сьвяты таксама запэўнівае веруючага ў тым, што ён – духоўна адроджанае дзіця Божае. Веруючы цешыцца з пацьвярджэньня, што ён належыць да Бога, да Яго сямʼі, таму ён – спадкаемец супаль-

на з Хрыстом вечных Божых узнагарод. Бяз Духа Сьвятога ў сэрцы верукчага такой нутраной упэўненасьці не было б.

Затым, мы ўпэўніваемся ў сваім збаўленьні яшчэ іншым важным спосабам, — а іменна, грунтоўнымі зьменамі ў жыцьці. У Другім лісьце да карынфянаў мы чытаем такія апосталавы словы: «Хто ў Хрысьце, той — новае стварэньне, старое мінула, вось настала ўсё новае» (2 Кар. 5:17). Значыцца, як толькі мы «ўваходзім у Хрыста», гэта значыць праз новае адраджэньне становімся членамі Хрыстовай сям'і, дык шмат што ў нашым жыцьці зьмяняецца. Напрыклад, Біблія становіцца для нас надта важнай і каштоўнай крыніцай духоўных ісьцінаў; мы пачынаем праяўляць моцнае жаданьне сур'ёзна вывучаць яе. Можа ўсяго мы не разумеем, чытаючы яе, але мы адначасова прызнаём, што яна дапамагае нам у пазнаньні Бога і ў духоўным росьце. Вось гэта і самае галоўнае. Чым больш мы чытаем Пісаньне, тым больш яно прамаўляе да нас і павучае нас у справах хрысьціянскага жыцьця і нашае лучнасьці з Госпадам. І чым болей мы прымаем і прымяняем з таго, што мы чытаем у Бібліі, тым болей зьмяняецца нашае жыцьцё. Ступень нашага зразуменьня духоўных справаў павялічваецца і ўдасканальваецца.

Тады, калі мы атрымалі нараджэньне звыш, у нас павінны былі адбыцца адпаведныя зьмены. Наш погляд на жыцьцё і на яго сэнс павінен быў зьмяніцца. Замест таго, каб толькі жыць для сваіх уласных жаданьняў, мы цяпер імкнёмся выконваць Божую волю. Нутраная перамена выяўляецца ў нашых адносінах да іншых людзей. Мы стараемся жыць у згодзе з людзьмі, якіх мы раней, мабыць, не любілі ці нават ненавідзелі. Адным словам, нашыя адносіны з іншымі, ці то будзе з мужам, жонкай, бацькамі, дзецьмі, начальнікамі, суседзямі паляпшаюцца, бо мы атрымліваем здольнасьць і сілу на гэта ад Бога. Калі б вы, паважаны чытач, такіх перамен у жыцьці не спазналі, то добра было б вам пераацаніць ваш цяперашні духоўны стан перад Богам і папытацца ў сябе: ці я сапраўды прыняў або прыня-

ла Хрыста за свайго асабістага Збаўцеля і Госпада? Ці Ён жыве ўва мне?

Наступнае сьведчаньне нашага духоўнага адраджэньня цесна зьвязана з апошнім пунктам, – менавіта, гэта той факт, што ва ўсім мы хочам жыць па-Божаму, гэта значыць згодна з Божай воляй. Чалавек ня можа сказаць, што ён прыняў Ісуса Хрыста як Збаўцеля і Госпада, і адначасова жыць нязьмененым грэшным жыцьцём. Гэта паказвала б, што ён не пакаяўся так, як трэба, бо сапраўднае пакаяньне заўсёды праяўляецца зьмененым спосабам жыцьця. Калі Дух Сьвяты ўвайшоў у сэрца веруючага і пануе там, дык Ён дае веруючаму глыбокую адчувальнасьць да граху. Духоўна адроджаны чалавек пакідае грэшнае жыцьцё і прымае новыя пабожныя звычкі.

Сапраўдны веруючы імкнецца да асабістай чысьціні перад Богам і іншымі людзьмі, як піша багаслоў і апостал Іаан: «Бо ўсякі, хто мае гэтую надзею (другога прыйсьця Хрыста), ачышчае сябе, бо Ён чысты. Усякі, хто грашыць, робіць і беззаконьне, і грэх ёсьць беззаконьне. І вы ведаеце, што Ён зьявіўся дзеля таго, каб узяць грахі нашыя, і ў Ім няма граху. Усякі, хто ў Ім прабывае, не грашыць; усякі, хто грашыць, ня бачыў Яго і не пазнаў Яго. Дзеткі, няхай ніхто з вас ня маніць. Хто ўчыняе праўду, той праведны, як і Ён праведны» (1 Іаан. 3:3-7). Я ня думаю, што гэтым апостал Іаан сьцьвярджае, што веруючы дасканалы і ніколі больш ня будзе грашыць. Да гэтага месца ў лісьце ён яшчэ дапісаў: «Хто кажа, што ня мае граху, ашуквае самога сябе» (1 Іаан. 1:8). Апостал на самай справе падкрэсьлівае думку, што сапраўдны нованароджаны веруючы заўсёды не грашыць, гэта значыць не жыве нязьменна грэшным жыцьцём. Дзякуючы Божай ласцы ці моцы, мы атрымліваем здольнасьць на цалкам бязгрэшнае жыцьцё, як мы чытаем у Лісьце да Ціта: «Бо зьявілася ласка Божая, якая збаўляе ўсіх людзей, навучаючы нас, каб мы, адцураўшыся бязбожнасьці і пажадлівасьці сьвету, разважна, праведна і богабаязна жылі ў цяперашнім веку» (Ціт. 2:11-12). Калі мы кажам, што прынялі Хрыста як свайго Збаўцеля і Гос-

пада ды надалей жывём у граху, дык толькі ашукваем самі сябе. Сапраўдны хрысьціянін ці хрысьціянка жадае і старанна імкнецца жыць праведным жыцьцём паводле біблейскага вучэньня.

Тое, што ён – духоўна адроджаны чалавек, веруючы паказвае тым, што любіць іншых веруючых, сваіх духоўных братоў і сясьцёр па веры ў Збавіцеля Хрыста. У Першым лісьце багаслова Іаана мы спатыкаем такія словы: «Мы ведаем, што перайшлі ад сьмерці ў жыцьцё, бо любім братоў; хто ж ня любіць брата, той прабывае ў сьмерці» (1 Іаан. 3: 14). Гэта значыць, што мы любім быць разам з іншымі веруючымі, мець блізкую лучнасьць з імі. Мы жадаем і шукаем падбадзёрваньня і падтрымкі іншых веруючых і любім праяўляць тое ж самае да тых, хто з іх мае асаблівую патрэбу ў гэтым. Нашая прадузятасьць да веруючых павінна была пeратварыцца ў любоў. Калі Бог духоўна адраджае чалавека, Ён укладае ў яго сэрца любоў да братоў і сясьцёр па веры ў Хрыста. Калі гэта так, то павінны мы папытацца ў сябе: ці я люблю быць з іншымі братамі і сёстрамі па веры ў Хрыста? Мы можам быць упэўнены, што былі духоўна адроджаны Духам Сьвятым і цяпер маем вечнае жыцьцё, калі любім веруючых і хочам быць з імі.

Ёсьць яшчэ адно сьведчаньне, што мы былі духоўна адроджаны Духам Сьвятым. Гэта тое, што жадаем падзяліцца евангельскай весткай з іншымі, якія Бога ня ведаюць і Хрыста не прынялі за свайго асабістага Збавіцеля і Гаспада. Калі такога жаданьня мы ня маем, дык нешта не ў парадку з нашымі адносінамі да Збавіцеля Хрыста. Хрыстос сказаў вучням, што яны павінны распаўсюджваць Евангельле сярод усіх людзей і народаў, заклікаючы іх да веры ў Яго: «Ідзіце і навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына і Сьвятога Духа, навучаючы іх выконваць усё, што Я загадаў вам, і вось Я з вамі ва ўсе дні да сканчэньня веку... Ідзіце па ўсім сьвеце і абвяшчайце Евангельле ўсяму стварэньню» (гэта значыць усім людзям - Маць. 28: 19-20; Марк. 16:15). Нашае жаданьне даць Слова Божае іншым людзям, каб яны пазналі і прынялі Хрыста, паказвае, што мы атрымалі духоўнае адраджэньне ад Бога і цяпер маем вечнае жыцьцё.

## РАЗЬДЗЕЛ ТРЭЙЦІ: ВАЖНАСЬЦЬ БІБЛІІ

У казаньні «Аб Лазару» Іаан Залатавусны сказаў:

«Як звычайна, наперад паведамляю, на якую тэму я праз тыдзень намерваюся прапаведаваць, каб перад тым, як прыйсьці на багаслужбу, вы самі для сябе змаглі б прачытаць дадзенае месца і даведацца, пра што там гаворыцца. Гэта таксама дапаможа вам прыпомніць тое, што я ўжо сказаў на даную тэму і што яшчэ трэба будзе растлумачыць. Вы гэтым будзеце гатовы пачуць, што я вам яшчэ маю сказаць. І, як заўсёды раблю і буду рабіць, заахвочваю вас ня толькі ўважліва слухаць тое, што кажа прапаведнік, але таксама ўдзяліць час для рэгулярнага чытаньня Бібліі ўдома. Вось я не перастаю заахвочваць прыяцеляў і знаёмых гэта рабіць.

Не дазваляйце нікому апраўдацца такімі заяўленьнямі: „Я надта заняты палітычнымі справамі"; „Мне трэба выконваць такія ці такія грамадзянскія абавязкі"; „Я здольны працаўнік і мне трэба займацца сваёй працай"; „Я маю жонку і дзяцей, якіх трэба карміць, таму павінен забясьпечваць сваю сям'ю". Інакш кажучы: „Я нядухоўны, ня мне дадзена чытаць Біблію, няхай яе чытаюць духоўныя як манахі, манашкі, сьвяшчэньнікі і тыя, хто багаслоўе вывучае".

Што ты гэтым кажаш? Не табе дадзена было чытаць Біблію, бо маеш зашмат заняткаў? Але менавіта з тае прычыны табе і трэба чытаць Біблію! Чым больш у цябе клопатаў, тым больш патрэбна Біблія, каб яна дапамагала табе. Такія людзі, як манахі і манашкі, якія пакінулі клопаты сьвету, знаходзяцца ў даволі бясьпечным становішчы. Яны падобныя да суднаў, якія плывуць на спакойным моры ці прышвартаваны ў ціхай гавані. Але ты знаходзішся сярод бурлівага мора бязбожнага сьвету і табе куды больш патрэбна духоўная дапамога і падмацаваньне. Яны жывуць далёка ад поля бітвы, па-за гукамі гармат, а ты — на фронь-

це, твар у твар з ворагам, і ты напэўна пацярпіш нямала ўдараў і будзеш сур'ёзна паранены. Аптэка павінна быць недалёка ад цябе.

Твая жонка раздражняе цябе; ты клапоцішся аб дзецях; твае ворагі чакаюць таго моманту, калі змогуць схапіць цябе; той, каго ты лічыў тваім сябрам, зайздросьціць табе; твой сусед распаўсюджвае чуткі пра цябе ці спрачаецца з табой; твой калега дзейнічае за тваёй сьпіной; нехта ўзбуджае іск супраць цябе; ты пакутуеш ад галечы;страчваеш свайго найбліжэйшага і найдаражэйшага; посьпех падбадзёрвае цябе, а тады цяжкасьць ізноў прыводзіць цябе ў маркоту... Дзе ж знайсьці дасьпехі або крэпасьць, скуль абараняцца? Дзе знайсьці мазь для ранаў, як толькі ня ў Бібліі?

Ці ж не заўважыў, як каваль, муляр, сталяр або іншы рамесьнік, – незалежна ад таго, як моцна прыпёрты да сьцяны, – сваіх інструментаў ніколі не прадае і не аддае ў заклад. Каб так зрабіў, дык як мог бы ён зарабляць сабе на жыцьцё? Вось менавіта гэтак і павінны мы думаць пра Біблію: як драўляныя малаткі, молаты, пілы, долаты, сякеры і сякеркі служаць інструментамі рамесьніку, так і кнігі прарокаў і апосталаў ды цэлае Пісаньне, натхнёнае Духам Сьвятым, служаць нам інструментамі для нашага збаўленьня».

Біблія – гэта, сапраўды, найважнейшая кніга для веруючага, і мы разгледзім галоўныя прычыны таго. Яна часта называецца Словам Божым таму, што зьмяшчае Слова Бога для ўсяго чалавецтва і асабліва для веруючага. Сьвятыя людзі запісалі Слова Гасподняе па настаўленьню Духа Сьвятога, бо гэта Ён – сапраўдны аўтар Бібліі. Біблія піша пра духоўныя і вечныя справы і была дадзена дзеля таго, каб каб мы маглі пазнаць Бога і жылі паводле Яго сьвятое волі, гэта значыць пабожна і справядліва.

Біблія – старажытная кніга, якая пісалася на працягу 1.500 гадоў на трох мовах: Стары Запавет быў напісаны

пераважна на старажытнаяўрэўскай мове, хаця маленькая яго частка была складзена на арамейскай мове; Новы Запавет быў напісаны на грэцкай мове. У запісваньні Слова Божага прынялі ўдзел 40 аўтараў: цары, звычайныя людзі, філосафы, рыбакі, вучоныя, паэты, сяляне, чыноўнікі і цесьляры. Хаця Біблія пісалася на працягу надта ж доўгага часу і многімі людзьмі, яна ўсяроўна прысьвечана адной найважнейшай справе: вызваленьню чалавека ад граху і яго збаўленьню для шчасьлівага вечнага жыцьця. Сьвятое Пісаньне паказвае, як Бог адкрыў шлях, каб чалавек мог пазнаць Яго і ўвайсьці ў блізкую лучнасьць з Ім. Біблія адкрывае тыя праўды, якія мы самі ніколі не маглі б пазнаць ў дачыненьні да Бога, нашага збаўленьня і хрысьціянскага жыцьця.

З усіх кніг на сьвеце Біблія найпапулярнейшая. Яна сёньня друкуецца і распаўсюджваецца па ўсім сьвеце. Сьвятое Пісаньне ўжо перакладзена на прыблізна 1.300 моваў і яшчэ перакладаецца на шматлікія мовы. Спэцыяльныя хрысьціянскія арганізацыі і місіянеры-лінгвісты займаюцца гэтай важнай працай. Веруючыя перакананы, што згодна з Хрыстовай воляй трэба распаўсюджваць добрую вестку Евангельля сярод усіх народаў і плямёнаў сьвету на іхніх родных мовах. Людзі, якія атрымліваюць Біблію на сваёй роднай мове, знаходзяць у ёй адказы на духоўныя пытаньні, супакой душы і падбадзёрваньне. Слова Госпадава адказвае на духоўныя пытаньні пра тое, адкуль мы прыйшлі, дзеля чаго жывём і куды накіроўваемся. Ніякая іншая кніга не адказвае на такія пытаньні, як Біблія.

Людзі часта ставяць пытаньне: ці мы можам быць пэўнымі, што за ўсе мінулыя стагодзьдзі запісы біблейных аўтараў не зьмяніліся, а засталіся такімі, якімі ўпершыню былі дадзены? Ёсьць доказы, што тэкст Бібліі на працягу мінулых стагодзьдзяў не зьмяніўся. Напрыклад, у 1947 годзе знайшлі ў Палестыне так званыя Скруткі Мёртвага мора, якія былі напісаны ад трэйцяга стагодзьдзя да нараджэньня Хрыста да першага стагодзьдзя пасьля нараджэньня Хрыста. Некаторыя часткі Старога Запавету зьмяшчаюцца ў гэ-

тых скрутках. У параўнаньні з Скруткамі Мёртвага мора тэкст пазьнейшага (на 1.000 гадоў) добра захаванага рукапісу Сьвяшчэннага Пісаньня па сутнасьці застаўся такім жа самым. Значыцца, за тысячагодні пэрыяд у тэксьце зьявіліся ўсяго толькі маленькія нязначныя зьмены. Бог паклапаціўся аб тым, каб Яго Слова захавалася непарушным для нашай сёньняшняй карысьці.

## ШТО БІБЛІЯ КАЖА ПРА СЯБЕ?

1. Біблія – гэта Слова Божае.

Біблія – Слова Божае для чалавецтва. Яна дае праўдзівыя адказы на духоўныя пытаньні. Мы павінны верыць ва ўсё, што кажа Біблія, і падпарадкоўвацца ёй, калі жадаем разьвівацца ў лучнасьці з Госпадам і ў хрысьціянскім жыцьці. Ісус Хрыстос сказаў: «Калі хто пачуе Мае словы і не паверыць, Я не суджу яго, бо Я прыйшоў не судзіць сьвет, але збавіць сьвет. Хто адкідае Мяне і не прымае словаў Маіх, мае судзьдзю для сябе: слова, якое Я сказаў, будзе судзіць яго ў апошні дзень» (Іаан. 12:47-48). Мы будзем асуджаны Словам Гасподнім, якое знаходіцца на старонках Бібліі.

У Старым Запавеце Бог выбраў прарокаў, якім адкрыўся і загадаў запісаць Яго словы і запаведзі. Прарокі часта запісвалі ўласныя словы Бога і ня раз мы сустракаем такія словы: «Так кажа Гасподзь». У Новым Запавеце мы чытаем аб тым, як Хрыстос выбраў апосталаў і з імі жыў прыблізна тры гады, вучачы іх Божых праўдаў. Перад Сваёй сьмерцю Ён сказаў вучням: «Я ўпрашу Айца і Ен дасьць вам другога Пацяшыцеля, каб быў з вамі давеку, Духа праўды... Ён з вамі прабывае і ў вас будзе. Не пакіну вас сіротамі, прыйду да вас... Калі ж прыйдзе Ён, Дух праўды, то навучыць вас усякай праўды, бо не ад Сябе гаварыць будзе, але гаварыць будзе тое, што пачуе і абвесьціць вам тое, што мае прыйсьці. Той уславіць Мяне, бо з Майго возьме і вам абвесьціць» (Іаан. 14:16-18; 14:13-14). Так і сталася. Вучні Хрыстовы атрымалі Духа Сьвятога, Які дапамог ім

запісаць уласныя словы Хрыста і Яго вучэньне. Той веруючы, які жыве паводле вучэньня Бібліі, мае і праяўляе поўнае, шчасьлівае хрысьціянскае жыцьцё, жыцьцё з здабыткам, як кажа Слова Божае (Іаан. 10:10).

2. Біблія дае жыцьцё.

Бяз Бібліі немагчыма было б атрымаць новае жыцьцё ад Бога. Апостал Пётр напісаў, што чалавек, які навярнуўся да Хрыста, быў «адроджаны ня з тлеючага насеньня, але з нятленнага, праз жывое Слова Бога» (І Пятр. 1:23). Зьвяртаючыся да Сваіх вучняў, Хрыстос сказаў: «Дух жывіць, цела ж нічога ня вартае; словы, якія вам кажу, – гэта дух і жыцьцё» (Іаан. 6:63). Пасьля гэтага апостал Пётр сказаў: Хрысту: «Госпадзе!... Ты маеш словы вечнага жыцьця, і мы паверылі і пазналі, што Ты – Хрыстос (Месія), Сын Бога жывога» (Іаан. 6:68-69).

Слова Божае дае новае духоўнае жыцьцё ў тым сэнсе, што Дух Сьвяты карыстаецца Словам, каб ажыцьцявіць па волі Божай нараджэньне звыш у сэрцы чалавека, які каецца, верыць і прымае Хрыста ў сэрца за Збавіцеля і Госпада. Чытаючы Біблію, чалавек даведаецца пра свой грэшны стан перад сьвятым Богам і пра вынікі грахоў. Евангельле растлумачвае яму значаньне ахвярнай сьмерці Хрыста і паказвае, як праз яе чалавек можа атрымаць дараваньне грахоў і збаўленьне. Пасьля таго, як мы прынялі Хрыста і атрымалі духоўнае адраджэньне, Слова Божае адкрывае нам шляхі да духоўнага росту. Яно падказвае нам, як мы можам заглыбляцца ў нашую лучнасьць з Госпадам і ў разуменьне духоўных праўдаў. Апостал Пётр параўнаў Сьвятое Пісаньне з духоўнай ежай, дзякуючы якой веруючы расьце ў хрысьціянскім жыцьці: «Палюбіце чыстае слоўнае малако, каб ад яго ўзрасьці вам на збаўленьне» (1 Пятр. 2:2). Калі ў пустыні д'ябал спакушаў Хрыста, Які галадаў, Хрыстос сказаў яму: «Напісана: ня хлебам адным жыць будзе чалавек, а ўсякім словам, што выходзіць з вуснаў Божых» (Мацьв. 4:4). Гэтымі словамі Хрыстос сказаў, што жыцьцё чалавечае ня толькі залежыць ад ежы, але так-

сама ад нашага духоўнага ўзрастаньня, калі мы зьвяртаем сур'ёзную ўвагу на Божыя словы і жывём паводле іх. Сьвяшчэннае Пісаньне дае нам новае жыцьцё ў Хрысьце і дапамагае нам разьвівацца ў ім.

3. Слова Божае мае сілу.

У шостым разьдзеле Ліста да эфесцаў апостал Павал апісвае зброю веруючага для духоўнага змаганьня. Ён параўноўвае асабістае ўзбраеньне рымскага жаўнера з духоўнай зброяй веруючага. Між іншым ён піша: «Шалом збаўленьня вазьміце і меч Духа, якім ёсьць Слова Божае» (Эфес. 6:17). Дух Сьвяты ўжывае Слова Божае, як меч. I калі мы жадаем мець і карыстацца Божай сілай ў хрысьціянскім жыцьці і нашым сьведчаньні аб Госпадзе, трэба добра пазнаёміцца са зьместам Слова Божага. Мы пазнаньнем Слова Божага ўзбройваемся для духоўнага змаганьня і праведнага хрысьціянскага жыцьця. Дух Сьвяты, Які жыве ў нас, мае духоўны матэрыял, з дапамогай якога Ён можа дзейнічаць цераз нас, калі мы рэгулярна і ўважліва чытаем Слова Божае. Чым больш мы чытаем і знаёмімся са Словам Божым, тым мацнейшымі жаўнерамі Хрыстовымі становімся.

У чацьвёртым разьдзеле Ліста да яўрэяў пішацца так пра сілу Слова Божага: «Слова Божае жывое і дзеючае ды вастрэйшае за ўсякі меч двусечны; яно пранікае да разьдзяленьня душы і духа, суставаў і мазгоў, і судзіць думкі і намеры сэрца» (Яўр. 4:12). Слову Божаму ўласьліва вялікая сіла. Яно адкрывае нам тое, што правільна і няправільна ў нашым жыцьці. Калі нейкая пастанова, намер або ўчынак ня згодны з Божай воляй, Слова Гасподняе асуджае нас і паказвае нам, у чым мы парушаем Божы маральны закон. Яно ня толькі раскрывае памылковыя паводзіны і намеры, але таксама падказвае нам, як паводзіць сябе, каб нашыя ўчынкі адпавядалі Божай волі. Гэта ўсё становіцца ясным і вядомым нам праз Духа Сьвятога, Які карыстаецца вучэньнем Слова Божага.

## НАТХНЁНАСЬЦЬ БІБЛІІ

Ёсьць людзі, якія цьвердзяць, што Біблія зьмяшчае толькі старадаўнія міфы і легенды, але яны памыляюцца. Вучоныя даўно даказалі, што Біблія – верагодная крыніца зьвестак аб старажытных гістарычных падзеях. Мы тут ня будзем займацца гэтым пытаньнем, але сканцэнтруемся на тым, што Біблія кажа аб справе сваёй натхнёнасьці.

Апостал Павал напісаў аб гэтым Цімафею ў наступных словах: «Усё Пісаньне натхнёна Богам і карысна дзеля навукі, дзеля выкрываньня, дзеля выпраўленьня, дзеля настаўленьня ў праведнасьці, каб дасканалым быў чалавек Божы, на ўсякую добрую справу падрыхтаваны» (2 Цім. 3:16-17). Перш за ўсё, заўважма, што «ўсё Пісаньне» натхнёна Богам. Якое значаньне гэта мае для нас сёньня? А тое, што мы ня маем права выбіраць тыя часткі Пісаньня, якія падабаюцца нам, і казаць, што яны натхнёныя, а іншыя часткі, якія нам не падабаюцца, адкідваць, лічачы іх ненатхнёнымі. Не ад нас залежыць такое рашэньне. Апостал Павал напісаў, што «ўсё Пісаньне» натхнёнае Богам і таму яно карысна для нашага духоўнага павучэньня і росту.

Да таго ж, апостал сьцьвярджае, што ўсякае Пісаньне «натхнёна Богам». Што гэта значыць? У грэцкім арыгінале гэты выраз літаральна значыць «быць удыхнутым». Інакш кажучы, Бог удыхнуў або ўклаў Свае думкі і волю ў Сьвятое Пісаньне і ў гэтым сэньсе Ён – сапраўдны Аўтар яго. Як Ён гэта зрабіў? Апостал Пётр адказвае на гэтае пытаньне, калі піша: «Ніколі прароцтва не выказвалася з волі чалавечай, але выказвалі яго сьвятыя людзі Божыя, якімі кіраваў Дух Сьвяты» (2 Пятр. 1:21). У часах Старога Запавету Бог выбіраў тых, хто запісваў Яго словы і думкі. Часта мы знаходзім у творах старазапаветных прарокаў такія выразы як: «Так кажа Гасподзь» ці «Прыйшло да мяне слова Гасподняе» і так далей. Бог адкрываўся гэтым людзям і падказваў ім, як запісваць Яго Слова. У гэтым працэсе Ён кіраваў іхнімі думкамі. Тое ж самае Ён і рабіў для апосталаў, калі яны запісвалі Слова Божае, якое ўвай-

шло ў Новы Запавет. Пра тое мы знаходзім такія словы ў Лісьце да яўрэяў: «Бог, Які шмат разоў і рознымі спосабамі здаўна прамаўляў да айцоў праз прарокаў, у гэтыя апошнія дні прамовіў да нас праз (Свайго) Сына, Якога паставіў за спадкаемца ўсяго, праз Якога і вякі стварыў» (Яўр. 1:1-2). Усім гэтым кіраваў Дух Сьвяты.

Не забудземся, што гэтыя выбраныя сьвятыя людзі не запісвалі Божых словаў і волі неяк механічна. Кожны прарок, евангеліст і апостал праяўляе свой асабісты літаратурны стыль і падкрэсьлівае найважнейшыя думкі і духоўныя праўды. З гэтага вынікае, што ў запісваньні Свайго Слова Бог не адхіляў, а карыстаўся асабістымі здольнасьцямі і характарамі прарокаў і апосталаў. Таму і заўважаем мы разнастайнасьць у стылях і прыёмах біблейных аўтараў. Але ўсюды ў іхніх творах праяўляецца Божы голас. Таму і мог апостал Павал напісаць, што «ўсё Пісаньне натхнёна Богам».

Зьвяртаючыся аднойчы да Бога Айца ў малітве, Ісус Хрыстос сказаў так пра Слова Божае: «Слова Тваё – праўда» (Іаан. 17:17). Гэта значыць, што Бог паклапаціўся пра тое, каб Ягонае Слова запісвалася без усякіх памылак. Бог гаворыць толькі праўду, таму кожнае прароцтва і ўсе словы, запісаныя ў Бібліі, поўнасьцю праўдзівы, аўтарытэтны і беспамылковы. Калі мы гаворым пра беспамылковасьць Бібліі, дык мы перш за ўсё маем на ўвазе яе арыгінал. Пры перапісваньні і перакладах памылкі, магчыма, увайшлі ў біблейны тэкст, але яны наогул невялікія і ні ў якой справе не зьмяняюць біблейнага вучэньня. Калі памылкі паяўляюцца ў біблейным тэксьце, мы павінны памятаць, што іх перапісчыкі і перакладчыкі ўнесьлі незнарок. За апошнія дзесяцігодзьдзі багасловы карысталіся і абапіраліся на вельмі раньнія рукапісы Старога і Новага Запаветаў і пасьпелі шмат чаго выправіць у тэксьце. За прыкладам першых хрысьціянаў мы верым, што Сьвятое Пісаньне было дадзена Богам, таму яно і праўдзівае і беспамылковае. Таму трэба верыць яму і слухацца яго.

## ЧАМУ БІБЛІЯ БЫЛА ДАДЗЕНА ЧАЛАВЕЦТВУ?

Бог даў чалавецтву Біблію па шматлікіх прычынах. Усё, што нам трэба ведаць пра веру і хрысьціянскае жыцьцё, зьмяшчаецца на яе старонках. Мы засяродзімся на шасьці прычынах, чаму Бог даў Біблію чалавецтву.

1. Біблія адкрывае Бога і Хрыста. Бог адкрываецца чалавеку двума спосабамі: праз прыроду і Сьвятое Пісаньне. Апостал Павал напісаў пра Божае адкрыцьцё праз прыроду наступнае: «Тое, што можна ведаць пра Бога, яўна ім, бо Бог выявіў ім; бо нябачанае Яго, вечная сіла Яго і Боства ад стварэньня сьвету праз разважаньне аб творах відочным становіцца, каб быць ім без апраўданьня» (Рым. 1:19-20). Калі чалавек глядзіць на сусьвет і на прыроду, ён заўважае ў іх парадак і мэту. Гэта наводзіць яго на думку, што па-за створаным сьветам павінен існаваць вялікі Канструктар ці Творца. Апостал тлумачыць, што сіла Божая і Яго Боства становяцца відавочнымі чалавеку, калі ён глядзіць на створаны сьвет і разважае пра тое, як усё гэта пачало існаваць.

Але ўзьнікае пытаньне: што могуць сусьвет і прырода сказаць нам пра Бога? Толькі тое, што Ён – магутны і нябачны Бог Творца, што Ён карыстаецца вялікай сілай у ствараньні. Калі б спадзявацца толькі на такія сьведчаньні існаваньня і магутнасьці Бога, дык мы нічога не маглі б даведацца пра Яго характар ці намеры ў дачыненьні да нас.Вось таму і неабходным стаўся другі спосаб у пазнаньні Бога, а гэтым было самавыяўленьне Бога праз запісанае Слова. Мы ўжо бачылі, як Бог выбраў Сваіх слуг: прарокаў, евангелістаў і апосталаў, якія запісалі словы і ўчынкі Бога. Праз тое, што Бог выказаў і зрабіў, мы пазнаём Яго, Яго волю і любоў да нас. Такім чынам Ён становіцца вядомы нам.

Біблія ня толькі адкрывае Бога, нашага Нябеснага Айца, але таксама і знаёміць нас з Яго Сынам, Ісусам Хрыстом. У Евангельлі мы чытаем пра зямное служэньне Хрыста і пазнаём Яго вучэньне. Бог загаварыў да нас праз прарокаў і Свайго Сына, каб мы ўпэўніваліся ў Божым абяцань-

ні вечнага жыцьця. Евангеліст Іаан напісаў: «Гэта ж напісана, каб вы паверылі, што Ісус ёсьць Хрыстос, Сын Божы, і мелі жыцьцё ў імя Яго» (Іаан. 20:31).

У старазапаветныя часы прарокі, па натхненьню Духа Сьвятога, прадказвалі прыйсьце Месіі. Гэтыя прароцтвы былі дадзены на многія стагодзьдзі перад тым, як Ісус Хрыстос нарадзіўся ў Віфлееме. Часта яны перадаваліся ў дакладных падрабязнасьцях. У сваіх новазапаветных запісах евангелісты часта кажуць, што дадзеная падзея ў жыцьці Хрыста адбылася як зьдзяйсьненьне прадказаньня Старога Запавету. У Евангельлі мы чытаем пра нараджэньне Хрыста ад Дзевы Марыі, пра Яго бязгрэшнае і бескарысьлівае жыцьцё і духоўнае служэньне народу. Новы Запавет растлумачвае, з якой мэтай Хрыстос перанёс крыжовыя пакуты і сьмерць. Чытаньнем Слова Божага мы знаёмімся з жыцьцём, паводзінамі і вучэньнем Ісуса Хрыста.

2. Біблія была дадзена дзеля таго, каб чалавеку адкрыць Божы плян збаўленьня. Апостал Павал напісаў, што «Сьвятое Пісаньне... зробіць цябе мудрым на збаўленьне праз веру ў Хрыста Ісуса» (2 Цім. 3:15). Нават у Старым Запавеце Бог, праз пракоракаў, адкрываў шлях збаўленьня для кожнага, хто шукаў яго. Стары Запавет рыхтаваў людзей да прыходу сапраўднага Збавіцеля Хрыста. І калі Хрыстос прыйшоў, Ён сказаў народу, што збаўленьне дасца таму, хто ўверуе ў Яго. У сваіх тлумачальных творах апосталы раз'ясьнілі, у што менавіта мы павінны паверыць у дачыненьні да Хрыста, — у тое, што Ён прыйшоў ад Бога, што Ён — Сын Божы, Які аддаў жыцьцё як ахвяру за наш грэшны стан перад сьвятым Богам.

3. Біблія таксама была дадзена дзеля таго, каб праз яе мы маглі ўзрастаць у духоўным жыцьці. Трэба, перш за ўсё, перажыць новае нараджэньне ад Духа Сьвятога ўвераваньнем і прыняцьцем Хрыста ў сэрца як асабістага Збавіцеля. Можна сказаць, што той, хто толькі што прыняў Хрыста, нарадзіўся духоўна і цяпер зьяўляецца нованароджаным дзіцём у Хрысьце. З моманту ягонага духоўнага нараджэньня яму трэба расьці ў новым хрысьціянскім жыцьці і гэтым

дасягнуць высокай ступені духоўнай сьпеласьці. Як піша апостал Пётр: «Як нованароджаныя дзеткі, палюбіце чыстае слоўнае малако, каб ад яго ўзрасьці вам на збаўленьне, бо вы паспрабавалі, што Гасподзь добры» (1 Пятр. 2:2-3).

На жаль, часта так выходзіць, што чалавек, які прыняў Хрыста, застаецца дзіцём у веры, бо не разьвіваецца так, як Бог хоча. Такі веруючы найчасьцей не зьвяртае сур'ёзнае ўвагі на Слова Божае і не паддаецца Богу ў сваіх эгаістычных пажаданьнях і пачуцьцях. Аб гэтым напісаў паўтар Ліста да яўрэяў так: «Бо вас, якія, паводле часу, павінны быць настаўнікамі, трэба зноў вучыць пачаткам слоў Божых, і вам патрэбна малако, а ня цьвёрдая ежа, бо ўсякі, хто корміцца малаком, несьвядомы ў слове праўды, бо ён дзіцятка. Дасканалым жа ўласьціва цьвёрдая ежа, тым, у якіх пачуцьці навыкам прывучаны распазнаваць дабро і зло» (Яўр. 5:12-14).

Веруючы расьце духоўна тады, калі рэгулярна чытае Біблію, сур'ёзна вывучае яе настаўленьні і выконвае яе выманьні. Калі хто перастае гэта рабіць, дык пачынае духоўна галадаць, таму і не расьце так, як ён павінен і мог бы расьці. Слова Божае служыць для нас духоўнай стравай, і калі мы жадаем глыбей пазнаваць Бога, Ягонае вучэньне і станавіцца падобнымі да Хрыста, тады неабходна жывіцца Словам Божым. Калі гэтага ня будзем рабіць, дык пачнём духоўна паміраць. Прарок Ярэма зразумеў гэтую неабходнасьць; пра тое сьведчаць ягоныя словы: «Знойдзены былі Твае словы і я прыняў іх; былі Твае словы радасьцю мне і пацехай майму сэрцу» (Ярэм. 15:16). Хрыстос сказаў, што ня можа чалавек жыць толькі адным хлебам, але ўсякім словам, якое выказаў Бог (Маць. 4:4). Веруючыя жывяць душу сваю чытаньнем і ўважлівым вывучэньнем Слова Божага.

4. Біблія была дадзена дзеля таго, каб ачышчаць нас ад грахоў. У сто трыццаць дзевятым псальме псалмасьпявак зьвяртаецца да Бога з такімі словамі: «Выпрабуй мяне, Божа, і сэрца маё Ты спазнай; мяне выпрабуй Ты і спазнай

мае думкі. І зірні, ці не іду пакручастай дарогай, і на шлях вечны накіруй Ты мяне» (Пс. 139:23-24). Усякі раз, калі мы чытаем Слова Божае, мы даём Духу Сьвятому магчымасьць загаварыць да нашых сэрцаў пра грэх, што магчыма знаходзіцца ў нашым жыцьці. Праз Слова Дух Сьвяты адкрывае нам няправільныя ўчынкі ці думкі і заахвочвае нас выспаведаць грахі перад Богам і адрачыся ад іх, просячы Божае дапамогі ў перамозе над імі. Бог даруе нам грахі, калі мы спавядаемся ў іх і падпарадкоўваемся Яму. Хрыстос сказаў вучням: «Вы ўжо ачышчаны праз слова, што Я гаварыў вам» (Іаан. 15:3). Апостал Павал тое самае меў на ўвазе, калі напісаў, што «Хрыстос палюбіў Царкву і выдаў Сябе за яе, каб асьвяціць яе, ачысьціўшы яе абмыцьцем вадзяным праз слова» (Эфес. 5:26). Праз Слова Божае мы атрымліваем прабачэньне грахоў.

5. Біблія была дадзена для кіраваньня нашым жыцьцём. Штодня нам даводзіцца вырашаць, як і што зрабіць але не заўсёды нам зусім ясна, як трэба паступіць. Слова Божае можа дапамагчы нам у жыцьцёвых рашэньнях. Чытаючы Біблію, мы пазнаём Божую волю, што і дапамагае нам у нашых асабістых рашэньнях. Бог абяцае кіраваць нашым жыцьцём, калі мы спадзяёмся на Яго. Ізраільскі цар Саламон напісаў: «Спадзявайся на Госпада ўсім сэрцам сваім і не абапірайся на розум свой. Ва ўсіх шляхах тваіх спазнавай Яго і Ён будзе кіраваць шляхамі тваімі» (Прык. 3:5-6). Мы пазнаём Бога чытаньнем і вывучэньнем Яго Слова. Апостал Іаан запэўнівае нас у тым, што Бог чуе і адказвае на нашыя малітвы, калі мы молімся згодна з Яго воляй: «І вось адвага, якую мы маем да Яго, што, калі просім чаго паводле волі Яго, Ён слухае нас, а калі мы ведаем, што Ён слухае нас ва ўсім, чаго б мы ні прасілі, – дык ведаем, што атрымаем прошанае ад Яго» (1 Іаан. 5:14-15).

Як Самога Бога мы пазнаём чытаньнем і вывучваньнем Яго Слова, так і волю Яго мы пазнаём такім жа спосабам. Тады і нашыя малітвы пачынаюць болей адпавядаць Божай волі і Бог прыхільна адказвае на іх. У трыццаць другім псальме Бог дае такое абяцаньне чалавеку, які спадзяецца

на Яго: «Навучу цябе і пакажу табе сьцежку, якой ты павінен ісьці, і дам табе раду, бо вока Маё над табой» (Пс. 32: 8-9). З гэтага мы разумеем, што Бог абяцае кіраваць нашым жыцьцём, але для гэтага нам таксама трэба жадаць і шукаць Яго волі, паддаючыся аўтарытэту Яго Слова. Калі падпарадкоўваемся Слову, Дух Сьвяты кіруе нашым жыцьцём.

6. Біблія была дадзена нам дзеля таго, каб мы маглі карыстацца ёю ў сьведчаньні аб Госпадзе. У Першым сваім лісьце Пётр кажа: «Будзьце заўсёды гатовы лагодна і з павагай даць адказ кожнаму, хто патрабуе ад вас слова аб вашай надзеі» (1 Пятр. 3:15). Гэтае слова аб нашай надзеі і веры мы пачэрпваем з Бібліі. Сёньня ёсьць людзі, якія Хрыста ня знаюць, але калі б нехта з веруючых растлумачыў ім добрую вестку Евангельля, яны аддаліся б Хрысту. Слова Божае зьмяшчае добрую вестку пра дараваньне грахоў і збаўленьне, таму і неабходна яно для евангелізацыі няверуючых. Веруючаму варта вывучыць на памяць некаторыя з галоўнейшых радкоў і месцаў Бібліі, дзе гаворыцца пра тое, у што трэба верыць і што трэба зрабіць, каб атрымаць адраджэньне ад Духа Сьвятога. Калі веруючы перадае такія месцы з Сьвятога Пісаньня і растлумачвае, як можна стацца нованароджаным дзіцём Божым, Дух Сьвяты карыстаецца гэтым ў духоўным адраджэньні таго, хто шукае Хрыста і збаўленьне. Абавязак быць гатовым да такога сьведчаньня ляжыць на кожным веруючым, які ўжо пазнаў і прыняў Хрыста. Бяз Слова Божага немагчыма было б накіраваць няверуючых да Бога і Хрыста.

## РАЗЬДЗЕЛ ЧАЦЬВЁРТЫ: ЯК ВЫВУЧАЦЬ БІБЛІЮ

У апошнім разьдзеле мы абмеркавалі пытаньне аб важнасьці і неабходнасьці Бібліі для кожнага веруючага і веруючай. Біблія становіцца карыснай кнігай толькі тады, калі мы сур'ёзна вывучаем яе зьмест і выконваем яе указаньні. Як можам мы вывучаць яе зьмест і кіравацца ёй у сваім жыцьці? На тое ёсьць розныя спосабы, і ў гэтым разьдзеле мы пазнаёмімся з галоўнымі метадамі. Разгледзім чатыры метады: слуханьне і чытаньне Бібліі; уважлівае вывучваньне Бібліі; вывучваньне біблейных урыўкаў на памяць; разважаньне і прыстасаваньне навукі Бібліі да свайго жыцьця.

1. Слуханьне і чытаньне Бібліі.

Першы спосаб пазнаньня зьместу Слова Божага – гэта слуханьне яго. Тут маецца на ўвазе тое, што мы слухаем Слова Божае, калі яго чытаюць і растлумачваюць прэсьвітэры і прапаведнікі. Такім спосабам першыя хрысьціяне пачулі Слова Божае ад апосталаў, якія ў дзень Пяцідзесятніцы першы раз выступілі з казаньнем пра Ісуса Хрыста і пра веру ў Яго. У Дзеяньнях апосталаў мы чытаем, што тыя, хто слухаў казаньне апостала Пятра, прыхільна прынялі ягоныя словы, ахрысьціліся ў знак свайго ўвераваньня ў Хрыста ды пачалі «трываць у навуцы апостальскай» (Дзеянь. 2:42). Гэта значыць, што нованаверненыя пачалі рэгулярна зьбірацца з апосталамі і слухаць іх, калі яны перадавалі і растлумачвалі Слова Божае. У сапраўднасьці Слова Гасподняе прыйшло да першых хрысьціян з апостальскіх вуснаў.

Як Божыя слугі перадавалі і растлумачвалі Сьвяшчэннае Пісаньне ў тыя дні, так і сёньня Бог карыстаецца выбранымі людзьмі ў распаўсюджваньні і растлумачваньні

Свайго Слова. Той, хто сёньня прапаведуе добрую вестку Евангельля, па праўдзе перадае Слова Гасподняе сваім слухачам. Калі ёсьць магчымасьць, веруючыя павінны стала хадзіць на богаслужэньні, дзе заўсёды чытаецца і прапаведуецца Слова Божае. Апостал Павал піша, што вера ўзьнікае ў нашых сэрцах тады, калі мы слухаем ці чуем прапаведаваньне Слова Божага (Рым. 10:17). У нашым часе Бог выбраў Сваіх слугаў: прэсьвітэраў, евангелістаў і духоўных настаўнікаў, якіх і надзяліў глыбокім духоўным зразуменьнем Свайго Слова і здольнасьцю растлумачыць яго значэньне для нашага хрысьціянскага разьвіцця ў веры.

Некаторыя людзі жывуць у такіх месцах, дзе царквы няма, таму і няма магчымасьці слухаць Слова Божага. Можа быць так, што яны таксама ня маюць свае ўласнае кнігі Сьвяшчэннага Пісаньня і ніякага доступу да яго. Што рабіць у такім выпадку? Мы раім такім людзям перш за ўсё маліцца Богу і прасіць, каб Ён дапамог ім атрымаць экземпляр Бібліі або Евангельля. Апрача таго, можа як раз у іхніх ваколіцах існуе і дзейнічае гурток веруючых, аб чым яны нічога ня ведаюць. Варта ім шукаць іх і маліцца аб тым, каб Гасподзь прывёў да групы веруючых, якія зьбіраюцца для чытаньня і разважаньня Слова Гасподняга.

Людзі бяз Слова Божага таксама могуць пашукаць у прыёмніку і слухаць евангельскія радыёперадачы, якія вяшчаюцца на кароткіх хвалях. Нямала ёсьць хрысьціянскіх арганізацыяў, якія рыхтуюць і перадаюць духоўныя перадачы па радыё. У гэтых праграмах духоўныя працаўнікі чытаюць Слова Божае і растлумачваюць ягонае вучэньне. Такія перадачы вядуцца на розных славянскіх мовах, даступных беларусам. Высылаюцца таксама ў эфір беларускія евангельскія перадачы. Іх можна знайсьці на розных кароткіх хвалях, яны перадаюцца ў розныя гадзіны дня і з розных радыёстанцыяў. Калі хто сярод нашых чытачоў пакуль што ня чуе такіх перадач, дык радзім яму прыкласьці больш намаганьняў у пошуках тых хваляў, на якіх перадаюцца евангельскія перадачы, і шукаць іх у розныя поры дня і на роз-

ных кароткіх хвалях, пакуль іх знойдзе. Паводле сьведчаньняў іншых людзей мы ведаем, што Гасподзь даводзіць шукаючых да духоўных перадачаў, калі яны старанна моляцца і шукаюць іх. Праз слуханьне такіх перадач вы пачуеце Слова Божае для свайго збаўленьня і духоўнага росту. Слова Божае абяцае наступнае: «Калі будзеш шукаць Госпада Бога твайго, дык знойдзеш Яго, калі будзеш шукаць Яго ўсім сэрцам тваім і ўсёю душою тваёю» (Друг. Зак. 4:29). Ісус Хрыстос сказаў: «Прасіце і будзе вам дадзена; шукайце і знойдзеце; стукайце і адчыняць вам, бо кожны, хто просіць, дастае, і хто шукае, знаходзіць, і хто стукае, таму адчыняць» (Маць. 7:7).

А што мы раім веруючаму, які мае Біблію ці Новы Запавет? Такому мы парадзім чытаць Сьвяшчэннае Пісаньне рэгулярна і ўважліва, бо такім чынам ён будзе расьці ў хрысьціянскім жыцьці. На жаль, нямала веруючых не чытае Бібліі рэгулярна, хаця ведаюць, што трэба яе чытаць рэгулярна для сталага духоўнага разьвіцьця. Большасьць веруючых чытае Сьвяшчэннае Пісаньне, але толькі зрэдку, асабліва тады, калі перажывае якую-небудзь непрыемнасьць ці жыцьцёвую цяжкасьць. І як толькі крызіс мінае, яны зноў забываюцца пра чытаньне Бібліі. Калі б мы гэтак жа кarміліся фізічнай стравай, дык за некаторы час паўміралі б з голаду. У духоўным жыцьці нешта падобнае здараецца, калі мы рэгулярна ня жывім душы духоўнай стравай Сьвяшчэннага Пісаньня.

Каб пазбыцца нерэгулярнага чытаньня Сьвяшчэннага Пісаньня, трэба цьвёрда пастанавіць штодзённа чытаць Слова Божае і скласьці асаблівы плян такога чытаньня. Стары і Новы Запаветы можна прачытаць за год, калі штодня прачытаеш тры разьдзелы са Старога і адзін разьдзел з Новага Запавету. Мабыць, гэта мнагавата каму-небудзь, тады лепш было б прачытаць два ці тры разьдзелы ў дзень. Нават калі веруючы пастановіць штодня прачытаць усяго толькі адзін разьдзел, то і гэтым ён зробіць больш за таго, хто

чытае Пісаньне нерэгулярна ці зусім не чытае яго. Мы радзім веруючым прачытаць штодня ўрыўкі і са Старога і з Новага Запаветаў, бо чытаньне паводле такога пляна дапаможа ім пазнаёміцца са зьместам і навукай абодвух Запаветаў. Кожны веруючы павінен сам прыйсьці да высновы, паводле якога пляна ён будзе чытаць Біблію.

2. Уважлівае вывучваньне Бібліі.

Механічнае чытаньне Сьвяшчэннага Пісаньня асаблівай радасьці ці здавальненьня не прыносіць. Трэба ня толькі чытаць, але, наколькі гэта магчыма, і ўважліва вывучаць урывак, які чытаеш. Інакш кажучы, веруючы павінен чытаць Слова Божае так, каб паглыблена пазнаёміцца са зьместам прачытанага. Мы павінны ўзяць прыклад ад веруючых, апісаных ў семнаццатым разьдзеле Дзеяньняў апостала. Апостал Павал і ягоны супрацоўнік, Сіла, наведалі хрысьціянаў у Верыі, пра якіх было напісана: «Гэтыя ж былі больш дабрамысныя, чым у Фесалоніках; яны прынялі Слова з усёй ахвотай ды кожны дзень разьбіралі Пісаньне, ці гэтак яно ёсьць» (Дзеянь. 17:11). Верыйскія хрысьціяне проста не чыталі, але вывучалі Сьвяшчэннае Пісаньне, і гэта, зразумела, патрабавала ад іх вялікага засяроджаньня і сур'ёзнага разважаньня над прачытаным. Нам таксама трэба ня толькі хуценька раз прагледзець нейкі ўрывак з Бібліі, але некалькі разоў уважліва прачытаць яго, стараючыся зразумець, чаму ён навучае і як прыстасаваць ягоную навуку да свайго жыцьця. Пра верыйскіх веруючых гаворыцца, што яны «разьбіралі Пісаньне», імкнучыся гэтым поўнасьцю зразумець Божыя праўды для свайго духоўнага росту. Тое ж самае і нам патрэбна, але гэта вымагае ад нас шчырага стараньня і шуканьня Божае волі для свайго жыцьця. Разьбіраць Слова Божае — значыць засяроджвацца з поўнай увагай над вучэньнем Бібліі і моцна стараш[illegible]а зразумець сапраўднае значэньне дасьледаванага тэкст[illegible] ды прыстасаваць яго да свайго жыцьця.

Псалмасьпявак напісаў, што шчасьлівым бывае то[illegible] хто любіць і жыве паводле закону Госпадняга, аб якім [illegible]

і разважае ўдзень і ўначы (Пс. 1:1-2). Сьвяшчэннае Пісаньне становіцца карысным веруючаму, калі ён чытае яго не павярхоўна, а ўважліва з імкненьнем пачуць у чытаных словах Божы голас.

Апостал Пётр напісаў, што прароцтва было дадзена не з чалавечай, а з Божай волі. Выбраныя слугі Божыя запісвалі Сьвяшчэннае Пісаньне пад натхненьнем Духа Сьвятога (2 Пятр. 1:21). Мы можам быць пэўнымі ў тым, што калі пры запісваньні Сьвяшчэннага Пісаньня Дух Божы дзейнічаў у душах Божых слугаў, дык той самы Дух хоча кіраваць нашымі думкамі і розумам, калі мы чытаем Яго Слова. Ён гатовы растлумачыць нам значэньне Слова Божага, якое мы чытаем, але дзеля таго мы, са свайго боку, павінны спадзявацца на Яго ў растлумачваньні тэксту. Ці і не казаў гэтак Хрыстос, калі яшчэ быў з вучнямі: «Калі ж прыйдзе Ён, Дух праўды, дык навучыць вас усякай праўды» (Іаан. 16:13). Бяз Духа Сьвятога і Яго прасьвятленьня мы ніколі не маглі б пазнаць і зразумець навукі Слова Божага. Тады нашае чытаньне і вывучваньне Бібліі было б дарэмным і зусім бескарысным заняткам. Але справа ў тым, што Дух Божы прысутнічае каля нас і нават прабывае ў нас, калі мы прынялі Хрыста за свайго асабістага Збавіцеля і Госпада. І Ён хоча дапамагчы нам усякі раз, калі мы чытаем Біблію і зьвяртаемся да Яго за накіраваньнем у зразуменьні Слова Божага. Трэба толькі папрасіць у Яго мудрасьці і Ён дасьць таму, хто просіць з вераю і не сумняваецца: «Калі ж у каго з вас не хапае мудрасьці, няхай просіць у Бога, Які дае ўсім проста і без дакораў – і будзе дадзена яму. Але няхай просіць з вераю, не сумняваючыся, бо той, хто сумняваецца, падобны да марское хвалі, якую вецер уздымае і разьвейвае» (Іак. 1:5-6). Мы можам узяць прыклад у псалмасьпевака, які зьвярнуўся да Бога з такой малітвай: «Расчыні мае вочы, каб бачыў я цуды закону Твайго» (Пс. 119:18). Кожны раз, калі мы рыхтуемся прачытаць урывак са Сьвяшчэннага Пісаньня, мы можам з малітвай зьвярнуцца да Духа Сьвятога, з вераю просячы Яго дапамогі і мудрасьці ў зразуменьні

дасьледаванага біблейнага тэксту. І сапраўды, той веруючы, які так зьвяртаецца да Духа, атрымлівае духоўнае зразуменьне ад Яго.

Хаця Дух Сьвяты і растлумачвае нам навуку Бібліі, мы самі павінны старацца, калі жадаем атрымліваць Яго дапамогу ў разуменьні біблейных тэкстаў і Яго ўплыву і ўзьдзеяньня на нашае хрысьціянскае жыцьцё. Прапануем:

1. Чытайце Біблію рэгулярна – калі магчыма, то штодзённа. Мы радзім веруючым выбраць сабе пэўны час дня для асабістага чытаньня Слова Божага і малітвы. У пачатку можна правесьці паўгадзіны ў чытаньні Слова і малітве. З цягам часу вы, магчыма, пажадаеце прысьвяціць гэтай справе больш часу. Самае галоўнае ня ў тым, колькі часу вы праводзіце ў чытаньні Слова Божага і малітве, а ў тым, што вы гэта робіце рэгулярна і пасьлядоўна. У сувязі з гэтай практыкай мы таксама радзім вам знайсьці сабе спакойны куток, дзе ніхто ня будзе перашкаджаць вам, калі будзеце чытаць Біблію і маліцца. Прасіце, каб Гасподзь дапамог вам выбраць адпаведны час і месца дзеля асабістага чытаньня Бібліі і малітвы, каб разьвіць пасьлядоўнасьць і рэгулярнасьць у такім дзеяньні.

2. Чытайце і вывучайце Біблію сістэматычна. Веруючаму лепш за ўсё чытаць Біблію ў пасьлядоўным парадку, згодна з падрыхтаваным плянам. Такі падыход да вывучэньня Сьвяшчэннага Пісаньня важны таму, што такім чынам мы прачытаем усю Біблію, а ня толькі некаторыя часткі яе.

3. Можна трымаць спэцыяльны сшытак і запісваць новыя і карысныя духоўныя праўды, якія вы знойдзеце ў Слове Божым. Занатаваныя заўвагі дапамогуць вам запомніць іх. Апрача таго, было б карысна запісваць і свае духоўныя пачуцьці, перажываньні і малітвы Богу. Пасьля некаторага часу вы зможаце пераглядзець пройдзены вамі духоўны шлях.

4. Прыстасоўвайце біблейную навуку да штодзённага жыцьця. Чытаць Біблію і не зьмяняцца ў характары, паво-

дзінах і поглядах – дарэмны і бескарысны занятак. Мы павінны чытаць і вывучаць Біблію з тою мэтаю, каб нашае жыцьцё станавілася больш пабожным і падобным да Ісусавага жыцьця, апісанага ў Евангельлях. Калі мы прыступаем да Бога і Яго Слова з паслухмяным сэрцам, гатовым навучыцца нечага новага, дык Дух Сьвяты адкрывае і растлумачвае для нас духоўныя праўды ды дапамагае нам увадзіць іх у нашае штодзённае жыцьцё. Вось два галоўныя пытаньні, якія мы можам паставіць сабе кожны раз, калі чытаем і вывучаем біблейны тэкст: Ці ёсьць у чытаным тэксьце перасьцярога або загад для мяне? Ці маё жыцьцё згоднае з тым, што я чытаю ў біблейным тэксьце?

Калі нешта ў маім жыцьці ня так, як павінна быць, дык трэба прызнацца ў тым Богу і папрасіць Яго дапамогі, каб зьмянілася маё жыцьцё і сталася згодным з біблейнай навукай. Сьвятое Пісаньне заўсёды мае нешта сьвежае сказаць веруючаму, нават і тыя ягоныя месцы, якія ён ужо раней прачытаў. Гэта таму, што нашыя патрэбы зьмяняюцца і Бог карыстаецца Сваім Словам у дачыненьні да нашых цяперашніх цяжкасьцяў і духоўных непаразуменьняў. Гэтым мы ня кажам, што вучэньні Бібліі зьмяняюцца, а падкрэсьліваем тое, што Слова Гасподняе прамаўляе да нашых сэрцаў у залежнасьці ад нашых цяперашніх патрэбаў.

Слова Божае магчыма вывучаць паводле розных метадаў. Вось некаторыя:

1. Сістэматычнае вывучваньне кнігаў Бібліі. Веруючыя звычайна выбіраюць гэты падыход. Яны вывучваюць асобную кнігу Бібліі: прачытаюць яе раз, затым уважліва чытаюць і знаёмяцца са зьместам і навукай кожнага разьдзела і верша. У такім падыходзе надта карысна паставіць сабе цэлы шэраг пытаньняў, якія дапамагаюць веруючаму паглыбіцца ў сутнасьць разгляданага тэксту: Чаго тэкст навучае? Што ў ім гаворыцца для мяне асабіста? Ці ёсьць іншыя біблейныя тэксты, якія высьвятляюць незразумелыя месцы? Калі ёсьць, дык як яны растлумачваюць незразумелыя часткі? Як вычытанае вучэньне адносіцца да майго ця-

перашняга жыцьця? Якія мае жаданьні і паводзіны трэба будзе зьмяніць, каб маё жыцьцё адпавядала навуцы і вымаганьням Слова Божага? Пры дапамозе гэтакіх запытаньняў можна вывучаць і прыстасоўваць да сябе навуку паасобных разьдзелаў і вершаў дадзенай біблейнай кнігі.

2. Вывучваньне Бібліі паводле духоўных тэмаў. У гэтым падыходзе веруючы выбірае дадзеную духоўную тэму і зьбірае тыя вершы і разьдзелы ў Бібліі, якія нешта гавораць на выбраную тэму. У такім вывучваньні надта карысна Сімфонія. Сімфонія – гэта дапаможнік, у якім галоўныя словы Бібліі даюцца ў алфавітным парадку са спасылкамі, дзе яны знаходзяцца і ўжываюцца ў Бібліі. Пакуль што сімфоніяў на беларускай мове няма, але існуюць на рускай, польскай і іншых мовах. Сабраўшы цэлы камплект біблейных спасылак на дадзеную тэму, веруючы пераглядае кожнае месца і прыходзіць да некаторых агульных высноваў аб дасьледаванай тэме. Тое, чаго навучыўся, ён з малітвай прыстасоўвае да свайго жыцьця. Такім спосабам магчыма вывучаць усялякія духоўныя тэмы. Вось некаторыя, з якіх вы маглі б пачаць: збаўленьне, Божая ласка чалавеку, практычнае пабожнае жыцьцё, атрыбуты Бога (гэта значыць, хто Ён у сіле і характары), хрысьціянскае служэньне, роля веры ў хрысьціянскім жыцьці і г. д. Хто ня мае доступу да Сімфоніі ці падобнага біблейнага дапаможніка, той можа выбраць тэму і пры чытаньні Бібліі запісваць вершы і разьдзелы, дзе нешта гаворыцца на дадзеную тэму.

3. Вывучваньне жыцьця выбранае біблейнае асобы. У Першым лісьце да карыфянаў (10:6) пішацца: «А гэта былі прыклады для нас, каб мы не пажадалі благога, як пажадалі яны». Усякі раз, калі мы вывучаем жыцьцё біблейнае асобы, мы даведваемся пра тое, чаго трэба пазьбягаць і як трэба паступаць, каб разьвіваўся наш характар у згодзе з Божай воляй. Пры такім вывучэньні Бібліі мы знаходзім усе тыя месцы, дзе расказваецца пра жыцьцё выбранае асобы. Тое, што здарылася з біблейнай асобай, можа паслужыць нам прыкладам або перасьцярогай. Станоўчыя рысы

характару мы павінны пераймаць, а адмоўных трэба пазьбягаць. Вывучваньне чалавечых паводзін дапамагае нам зразумець Божыя патрабаваньні ад нас.

3. Вывучваньне біблейных урыўкаў на памяць.

Адным з самых дзейсных метадаў вывучваньня Бібліі – гэта вывучваньне на памяць выбраных вершаў ці цэлых яе частак. Такім спосабам Слова Божае ўваходзіць у нашае сэрца, і мы тады яго так хутка не забываем. У сапраўднасьці, калі мы маем Слова Божае ў сэрцы, дык можам карыстацца ім у любы час. Псалмасьпявак напісаў наступнае пра вывучваньне Слова Божага на памяць: «Як юнаку захаваць шлях свой у чысьціні? Сваімі паводзінамі паводле Слова Твайго... У сэрцы маім захаваў я Слова Тваё, каб ня грэшыць перад Табою» (Пс. 119:9-11). Псалмасьпявак сьцьвярджае, што малады чалавек можа захаваць сябе ад грашэньня вывучваньнем Слова Божага на памяць. Дух Сьвяты карыстаецца вывучаным на памяць Словам Божым, каб дапамагаць веруючаму жыць праведна для славы Гасподняй. Бываюць такія моманты ў нашым жыцьці, калі паўтарэньне вывучанага на памяць біблейнага тэксту дапамагае нам не паддавацца спакусе. Але вывучваньне Слова Божага карысна ня толькі ў такіх выпадках. Калі мы маем патрэбу ў Божым кіраўніцтве, напрыклад, вывучаны біблейны тэкст можа дапамагчы нам рашыць правільна, як паступіць у той ці іншай справе. Часам мы апынаемся ў цяжкіх абставінах, калі не зусім ясна, як найлепей рэагаваць на крытыку ці наступ людзей, якія нас ня любяць. У такія моманты вывучаныя на памяць вершы з Бібліі могуць нагадаць нам, як па-хрысьціянску адказаць крыўдзіцелям. Інакш кажучы, вывучваньне на памяць біблейных тэкстаў дапамагае нам весьці сябе згодна са Словам Божым ва ўсіх жыцьцёвых абставінах.

Дзеля вывучэньня вершаў і даўжэйшых урыўкаў Бібліі на памяць мы радзім:

1. Выбраць важнейшыя вершы і месцы Сьвятога Пісаньня і запісаць іх на лістках паперы (прыблізна 12х8 см.).

Лісток павінен быць такога разьмеру, каб магчыма было пакласьці яго ў кішэню ці бумажнік. Тады можаш насіць пры сабе тыя біблейныя тэксты, якія вывучаеш на памяць. Дзе б ты ні быў, у вольны час можаш дастаць лісток з запісанымі вершамі і паўтарыць іх сабе, супастаўляючы сябе з іхнім зьместам.

2. На працягу дня колькі разоў паўтарыць запісаныя вершы. У вывучваньні любога прадмета на памяць самае галоўнае — гэта паўтарэньне яго. Каб добра і дакладна запомніць біблейныя ўрыўкі, трэба іх паўтараць шмат разоў і на працягу колькіх дзён. Мы радзім штодня паўтарыць некалькі разоў тыя вершы, якія вы вывучаеце на памяць і кожны раз асабліва доўга ня трэба гэтым займацца: ад пяці да дзесяці мінут. Вы можаце паўтараць запісаныя вершы і правяраць сябе ва ўсякі вольны час: удома, едучы кудысьці публічным транспартам, чакаючы некага і г. д. На працягу звычайнага дня надараецца не адна магчымасьць дастаць лісткі з запісанымі на іх біблейнымі тэкстамі і паўтарыць іх. Гэтак за колькі дзён тэксты застануцца ў памяці.

3. Паўтараць вывучаныя на памяць тэксты час ад часу. Тыя вершы, якіх мы пакуль што ня вывучылі на памяць, лепш паўтараць штодня, а тыя, якія мы ўжо вывучылі на памяць і добра ведаем, карысна паўтараць радзей, напрыклад, раз ці два ў тыдзень. Такім спосабам вывучаныя тэксты намі не забудуцца, а застануцца сьвежымі ў памяці.

Стацца пасьлядоўным у гэтай справе даволі цяжка, патрэбна сур'ёзная рашучасьць і перакананьне ў карыснасьці яе. Але той, хто вытрывае, знойдзе блаславеньне і дапамогу ад Бога ў хрысьціянскім жыцьці і росьце. Вывучаныя на памяць вершы дапамогуць веруючаму ва ўсякіх абставінах жыцьця: у змаганьні з грахом, у патрэбе ў Божым кіраўніцтве, у сьведчаньні аб Хрысьце няверуючым і г. д. Возьмем прыклад ад нашага Збавіцеля, Які пры спакушэньні адказваў шатану словамі Сьвяшчэннага Пісаньня: «Напісана...» (Маць. 4-ы разьдзел). Дзякуючы таму, Ісус

Хрыстос вытрываў і перамог шатана ў духоўнай барацьбе. Такім чынам і мы будзем дабівацца перамогі над шатанам і злом.

4. Разважаньне і прыстасоўваньне Слова Божага да свайго жыцьця.

Калі б мы не разважалі над тым, што чытаем у Біб-ліі, то ўсе нашыя імкненьні зразумець яе навуку не прынасілі б станоўчых і карысных вынікаў. Нам трэба сур'ёзна разважаць над зьместам Слова Божага, стараючыся заўсёды зразумець тое, што ў Сваім Слове кажа Бог нам асабіста, ды прыстасаваць вывучанае да нашага хрысьціянскага жыцьця. У першым разьдзеле кнігі Ісуса Навіна мы знаходзім словы, дадзеныя Богам Ісусу Навіну, калі Бог дарučыў яму кіраўніцтва над ізраільскім народам: «Няхай не аддаляецца гэтая кніга закону (гэта значыць Сьвяшчэннае Пісаньне) ад тваіх вуснаў; разважай над ёй удзень і ўночы, каб дакладна выконваць усё, што ў ёй напісана, бо ты будзеш мець пасьпяховасьць у шляхах тваіх і ты будзеш паступаць разумна» (Іс. Нав. 1:8).

Тое, што Бог сказаў Ісусу Навіну калісьці, сёньня датычыцца кожнага з нас. Бог даў Сваё Слова нам дзеля нашага духоўнага зразуменьня і разьвіцьця. Адказнасьць за чытаньне і разважаньне над Словам Божым ляжыць на нас. Калі мы ня будзем зьвяртаць увагі на Сьвяшчэннае Пісаньне, дык страцім самае галоўнае ў жыцьці. Ісусу Навіну было сказана не адхіляцца ад Сьвяшчэннага Пісаньня, а кіравацца ім з усёй сур'ёзнасьцю і ўважлівасьцю. Яму было загадана ня толькі чытаць, але і разважаць над Пісаньнем і гэтым самым правяраць сябе, ці жыве паводле ягонай навукі. У Божых вачах (не чалавечых) ён быў пасьпяховым і разумным, калі чытаў і лічыўся з Пісаньнем. І мы будзем мець усякі посьпех, калі будзем чытаць Сьвяшчэннае Пісаньне, разважаць над ім і жыць паводле ягонага вучэньня.

У гэтым разьдзеле мы абмеркавалі спосабы і метады нашага чытаньня і вывучваньня Слова Божага. І робячы гэта, мы заўсёды павінны пытацца ў сябе: ці мае жыцьцё

згоднае з тым, чаго Бог вымагае ад мяне? Калі не зусім, дык трэба прасіць Божага даравання і ад Духа Сьвятога ўзмацненьня дзеля перамогі над грахамі і недахопамі ў нашым характары і паводзінах. Таму, хто просіць з вераю, Бог дае ўсё патрэбнае. Кожны з нас павінен заўсёды чытаць, вывучваць Слова Божае і правяраць сябе паводле ягонае навукі. Няхай Сам Бог дапаможа нам пражыць зямное жыцьцё паводле Яго Слова і ў канцы сказаць за апосталам Паўлам: «Змагаўся я добрым змаганьнем, бег закончыў, веру захаваў. А цяпер рыхтуецца мне вянец праведнасьці, які дасьць мне Гасподзь, справядлівы Судзьдзя, у той дзень, і ня толькі мне, але і ўсім, хто палюбіў Яго зьяўленьне» (2 Цім. 4:7-8).

## РАЗЬДЗЕЛ ПЯТЫ:
## ШТОДЗЁННАЯ СУСТРЭЧА З БОГАМ

Каб пазнаёміцца і ўвайсьці ў блізкія адносіны з малавядомым нам чалавекам, трэба правесьці з ім нямала часу як у асабістай размове, так і ў сумесным жыцьці. Такім спосабам мы даведваемся, хто ён па характары, а ён даведваецца, які характар у нас. Чым больш часу праводзім з малазнаёмай асобай, тым больш узмацняецца нашая асабістая сувязь з ёй. Як паглыбляецца знаёмства з малазнаным чалавекам, так і нашая лучнасьць з Богам расьце, калі мы з Ім праводзім час. Веруючы, які жадае разьвівацца ў духоўным жыцьці, павінен рэгулярна сустракацца з Госпадам.

### ПРАВА НА СУСТРЭЧУ З БОГАМ

Калі мы гаворым пра сустрэчу з Богам, дык маем на ўвазе той час дня, калі веруючы асабіста сустракаецца з Богам праз чытаньне Сьвяшчэннага Пісаньня і малітву да Яго. Гэта час, які прысьвячаецца чытаньню, вывучваньню і разважаньню над зьместам Слова Божага. Бог у той час гаворыць да нас праз Сваё Слова, а мы адказваем Яму нашай малітвай, пакланеньнем, выказваньнем падзякі і просьбаў. У выніку сустрэчы з Госпадам мы атрымліваем духоўную моц, мудрасьць і Божае кіраўніцтва ў жыцьцёвых пастановах і ўчынках. Веруючы расьце ў Хрысьце і ўзмацняецца ў веры, калі штодня спатыкаецца з Госпадам. Хрыстос сказаў, што чалавек ня можа жыць толькі адным хлебам; ён мае патрэбу і ў Слове Гасподнім (Мацьв. 4:4). Зразумела, што сказаўшы гэта, Ён меў на ўвазе не фізічнае жыцьцё чалавека, а ягонае духоўнае жыцьцё. Бяз Слова Божага чалавек духоўна марнее і памірае, а чытаючы яго, ён умацоўваецца і расьце ў духоўным жыцьці і ў асабістай лучнасьці з Госпадам.

Быў час, калі звычайныя людзі не маглі ўвайсьці ў блізкую лучнасьць з Богам. У Старым Запавеце мы чыта-

ем, як Бог даў ізраільскаму народу асаблівыя загады і абрады, каб народ ачысьціў сябе ад грахоў і быў прыняты Богам. Але толькі выбраныя сьвятары маглі сустракацца з Госпадам і яны прадстаўлялі Яму народныя справы. У сапраўднасьці ўсе старазапаветныя ахвярапрынашэньні папярэднічалі і сімвалізавалі тое, чаго меў дасягнуць Ісус Хрыстос для чалавецтва Сваёй ахвярнай сьмерцю на Галгофе. У выніку Яго крыжовае сьмерці і ўваскрэсеньня кожнаму чалавеку цяпер даецца магчымасьць асабіста сустрэцца з Богам і ўвайсьці ў цесную лучнасьць з Ім. Кожны, хто ўжо паверыў і прыняў Ісуса Хрыста за свайго асабістага Збавіцеля і Госпада, мае права сустракацца з Богам і адкрываць Яму сваю душу. Усё гэта сталася магчымым, дзякуючы крыжовай сьмерці Хрыста, Які памёр як нашая дасканалая і беззаганная ахвяра перад справядлівым і сьвятым Богам. Значыцца, па заслугах крыжовай сьмерці Хрыста мы цяпер маем поўны доступ да Божага пасаду ласкі. Вось як растлумачвае гэтую праўду аўтар Ліста да яўрэяў: «Дык браты, маючы адвагу ўваходзіць у сьвятыню крывёй Ісуса Хрыста шляхам новым і жывым, які Ён адкрыў нам праз заслону, гэта значыць цела Сваё, ды маючы вялікага Сьвяшчэньніка над домам Божым прыступайма са шчырым сэрцам, з поўнай верай, акрапленьнем ачысьціўшы сэрцы ад благога сумленьня і абмыўшы целы чыстай вадою» (Яўр. 10:19-22).

У Сьвяшчэнным Пісаньні мы знаходзім розныя прыклады, якія паказваюць нам важнасьць штодзённае сустрэчы з Богам.

Ісус Хрыстос пакінуў нам добры прыклад. Не забывайма, што Ён – Божы Сын, Які ў зямным жыцьці заўсёды і ва ўсіх пытаньнях спадзяваўся на Свайго Нябеснага Айца. У Евангельлі паводле Іаана запісаны такія Хрыстовы словы: «Я нічога не магу рабіць Сам ад Сябе; як чую, так і суджу, і суд Мой праўдзівы, бо не шукаю Маёй волі, але волі Пасаўшага Мяне» (Іаан. 5:30). Хрыстова спадзяваньне на Айца праяўлялася ў тым, што Ён часта адлучаўся ад народных масаў і вучняў, каб правесьці некаторы час у цішыні са

Сваім Нябесным Айцом. У Евангельлі паводле Марка (1:35) мы чытаем, што «раніцай, устаўшы вельмі рана, (Хрыстос) выйшаў і пайшоў у пустыннае месца і там маліўся». Перад тым Ён быў надта заняты: вылечыў цешчу Сімана; увечары да Яго прыводзілі ўсялякіх хворых і Ён аздаравіў іх усіх. Будучы чалавекам, Ісус Хрыстос напэўна змарыўся ад такога служэньня. Евангеліст Марк паказвае, што якім зьняможаным Хрыстос не адчуваў бы Сябе, Ён усяроўна ўстаў вельмі рана і пайшоў у пустыннае месца, каб сустрэцца з Нябесным Айцом. Такі Хрыстоў учынак сьведчыць аб тым, што Ён лічыў асабістую сустрэчу з Айцом неабходнасьцю. Чым больш расла вядомасьць пра Яго, тым больш ішлі да Яго людзі, каб вылечыцца ад хвароб і слухаць Яго незвычайную навуку. Евангеліст Лука таксама адзначае, што, нягледзячы на стому, Хрыстос ня раз пакідаў народныя масы і ішоў у бязьлюднае месца, каб памаліцца Нябеснаму Айцу (Лук. 5:16).

## НЕАБХОДНАСЬЦЬ СУСТРЭЧЫ З БОГАМ

Якое значэньне сёньня мае Ісусаў прыклад для нас? Менавіта такое, што калі Сын Божы меў патрэбу ў асабістай сустрэчы з Нябесным Айцом, дык мы, грэшныя людзі, маем куды большую неабходнасьць у такой сустрэчы. Праз малітву і лучнасьць з Богам Айцом Хрыстос ня толькі духоўна ўзмацняўся, Ён таксама знаходзіў і атрымліваў Божае кіраўніцтва для духоўнага служэньня. У гэтым і мы, сёньняшнія дзеці Божыя, маем вялікую патрэбу. Праз штодзённую сустрэчу з Госпадам мы можам атрымліваць тое самае, што і атрымліваў наш Збавіцель. Мы сапраўды становімся падобнымі да Хрыста, калі штодня прысьвячаем некаторы час асабістай сустрэчы з Нябесным Айцом.

Апрача таго, у Сьвяшчэнным Пісаньні даецца другі прыклад рэгулярнай сустрэчы веруючага з Богам. У кнізе Псалтыр гаворыцца, што розныя псалмасьпевакі прысьвячалі асобную частку дня сустрэчы з Богам, калі шукалі Яго і думалі пра Яго славу і моц. Напрыклад, у сто сорак трэйцім псальме мы чытаем: «Уранку дай чуць мне ласку Тваю,

бо на Цябе спадзяюся. Ты мне шлях пакажы, якім мнеісьці, бо душу сваю я да Цябе ўзьнімаю» (Пс. 143:8). Псалом шэсьцьдзесят трэйці пачынаецца з такіх слоў: «Божа! Ты – Бог Мой! Цябе я шукаю ад самой раніцы. Цябе душа мая прагне, па Табе тужыць цела ў пустой, сухой і бязводнай зямлі, каб сілу і славу ўбачыць Тваю, што я бачыў у сьвятыні Тваёй» (Пс. 63:1-4). Паводле гэтых і іншых псалмоў найлепей сустракацца з Госпадам раніцай, калі гэта магчыма. Уранку наш розум сьвяжэйшы і больш успрыймальны на слуханьне Божага голасу.

Пабожныя людзі мінулых вякоў сьведчаць аб важнасьці і неабходнасьці штодзённай сустрэчы з Богам. Роберт Муры Макшэйн, выдатны слуга Божы дзевятнаццатага стагодзьдзя, быў пераканаыы ў неабходнасьці штодзённай сустрэчы з Богам. Ён аднойчы напісаў: «Перад тым, як бачыцца з кім-небудзь, я павінен памаліцца. Часта калі я засплю ці ўранку спатыкаюся з іншымі людзьмі, дык надыходзіць адзінаццатая гадзіна, калі я нарэшце пачынаю маліцца. Дрэнна раблю, не паводле Сьвяшчэннага Пісаньня! Яшчэ перад усходам сонца Хрыстос уставаў і ішоў у пустыннае месца. Давід кажа: «Раніцай я буду шукаць Цябе; Ты пачуеш мой голас рана». У выніку таго нашая сямейная малітва траціць значную частку сваёй моцы і асалоды, і нічога добрага я не магу зрабіць тым, хто прыходзіць параіцца са мной. Таксама і ў асабістай малітве душа часта расстроена, сумленьне адчувае віну, душа ненакормлена, лямпа не папраўлена. Я лічу, што куды лепей пачаць дзень з Богам, найперш сустрэцца з Ім, прыблізіць душу да Яго, чымся прыблізіць яе да некага іншага».

Бордэн, колішні студэнт Іельскага ўнівэрсітэта, выказаў патрэбу ў штодзённай сустрэчы з Богам гэтак: «На працягу бягучай сесіі я прапусьціў сустрэчу з Богам раз ці два... Мне няцяжка паверыць, што пасьля нашага прыняцьця Хрыста штодзённая сустрэча з Богам займае па важнасьці першае месца. Я ведаю, што калі праз малітву і вывучэньне Бібліі я з Богам не сустракаюся, усё ў мяне выходзіць

дрэнна». Найвыдатнейшыя веруючыя, якія пасьпяхова служылі Богу, кажуць тое самае. Посьпехі, здабытыя імі дзеля Госпада і Яго Царства, яны прыпісваюць таму, што рэгулярна і стала сустракаліся з Ім.

Наша рэгулярнасьць і пасьлядоўнасьць у гэтай справе паказваюць, што мы сапраўды любім Бога, Ісуса Хрыста і Божае Царства. Мы звычайна прысьвячаем час і ўвагу тым рэчам і людзям, якія нас найболей цікавяць. Напрыклад, любячы іншага, мы стараемся праводзіць як мага больш часу з ім. Само жаданьне быць з іншым сьведчыць аб тым, што мы любім яго. Любоў паміж дзьвюма асобамі расьце і ўзмацняецца тады, калі яны бываюць разам і размаўляюць адно з адным. Тое самае можна сказаць і аб нашых адносінах да Бога і Хрыста. Чым больш часу мы прысьвячаем Богу, тым больш нашая любоў да Яго расьце і паглыбляецца.

Але не павінны мы думаць, што толькі мы любім Бога. У сапраўднасьці Ён першы палюбіў нас і любіць нас больш, як мы Яго. Бог жадае нашае любові і шукае тых, хто любіць Яго. Так сказаў Хрыстос самаранцы, якую сустрэў ля студні: «Прыйдзе час, ды ён ужо прыйшоў, калі праўдзівыя паклоньнікі будуць пакланяцца Айцу ў духу і праўдзе, бо гэтакіх паклоньнікаў шукае Сабе Айцец. Бог – Дух,і тыя, хто пакланяецца Яму, павінны пакланяцца ў духу і праўдзе» (Іаан. 4:23-24). Бог дае нам магчымасьць пакланяцца Яму, праяўляць Яму нашую любоў і мець лучнасьць з Ім. Як мы адказваем Яму? Ці знаходзім час для Яго? Ці рэгулярна чытаем Яго Слова? Ці molімся Яму?

У шаснаццатым вершы чацьвёртага разьдзела Ліста да яўрэяў даецца кожнаму веруючаму запрашэньне прыступіць да Божага пасаду ласкі , каб атрымаць дапамогу на патрэбы жыцьця. Бог заўсёды гатовы прыняць нас, калі мы шчыра зьвяртаемся да Яго і расказваем Яму пра нашыя цяжкасьці. Ён хоча, каб мы праводзілі час з Ім сам-насам, але гэта не таму, што Ён мае патрэбу ў нашай з Ім лучнасьці. Наадварот, не Яму, а нам патрэбна лучнасьць з Ім. Бог ведае, што сустрэча з Ім дапамагае і спрыяе нашаму ду-

хоўнаму росту. Таму Гасподзь гатовы загаварыць да нас праз Слова Сваё, калі ад нас жа Ён чакае малітвы. Ці ня варта знаходзіць час для асабістае сустрэчы з Ім? Такім чынам мы паказваем сваю любоў да Яго.

Чытаньнем Біблii і малітвай мы ня толькі паказваем, што любім Бога і Хрыста, але таксама атрымліваем духоўную сілу для пасьпяховага хрысьціянскага жыцьця. Гэтая сіла дзейнічае ў чатырох галінах нашага духоўнага росту:

1. Штодзённым чытаньнем Бібліi і малітвай мы духоўна падсілкоўваемся. Хрыстос сказаў, што чалавек ня можа жыць адным зямным хлебам, але мае патрэбу ў духоўнай страве Слова Божага (Маць. 4:4). Гэта значыць, што Біблія духоўна падмацоўвае таго веруючага, які яе чытае. Кожны з нас часам адчувае духоўную стому, быццам сілы не стае для сапраўднага пабожнага жыцьця. Усякі раз, калі мы чытаем Біблію і молімся, Бог гаворыць да нашых сэрцаў, падбадзёрвае наш прыгнечаны дух і дае нам сілу вытрымаць усялякія цяжкасьці і перажываньні. Такім спосабам Слова Божае становіцца духоўнай стравай, якая ўзмацняе і вядзе нас да шчасьлівага і пасьпяховага хрысьціянскага жыцьця. У старазапаветны час Бог пасылаў ізраільскаму народу манну з неба, каб ён падсілкоўваўся ёю і ня вымер у пустыні. Як ураньні ізраільцяне выходзілі зьбіраць манну, так і мы павінны адкрываць і чытаць Слова Божае, каб накарміць душу Гасподнімі праўдамі на новы дзень. Апостал Павал маліўся так пра веруючых у Эфесе: «...каб (Бог Айцец) даў вам, паводле багацьця славы Сваёй, сілай умацавацца праз Духа Яго ва ўнутраным чалавеку» (Эфес. 3:16). Бог узмацняе нас унутры, калі мы шукаем сілу Ягоную і спадзяёмся атрымаць яе ад Яго. Нашую патрэбу ў сіле Ягонай мы адкрываем Яму, калі сустракаемся з Ім. Бог мае асаблівы плян для кожнага з нас і, калі мы шукаем Яго волю для свайго жыцьця, Ён адкрывае яе і дае нам сілу выканаць яе. Апостал Пётр прыпадабняе Слова Божае да духоўнага малака і раіць веруючым спажываць яго для росту ў хрысьціянскім жыцьці: «Як нованароджаныя дзеткі, палю-

біце чыстае духоўнае малако, каб ад яго ўзрасьці вам на збаўленьне» (1 Пятр. 2:1).

2. Слова Божае дае веруючаму кіраўніцтва ў жыцьцёвых пастановах і ўчынках. Чалавек часта знаходзіцца ў такіх абставінах, што ня ведае, як найлепш паступаць. На жаль, мы больш за ўсё зьвяртаемся да Бога па Яго накіраваньне толькі ў цяжкасьцях, а калі ўсё ідзе добра, дык нейк або вельмі мала, або зусім ня думаем пра Бога і Яго волю для нас. Дрэнна робім, калі зьвяртаемся да Госпада толькі ў крызісныя моманты жыцьця. Бог хоча, каб мы заўсёды лічыліся з Ягонай воляй для нашага дабра. Ён найлепш ведае, што добра і што нядобра для нас. Слова Госпадняе адкрывае Божую волю і накіроўвае нас на праўдзівы жыцьцёвы шлях. Але яно можа кіраваць намі толькі тады, калі мы зьвяртаем сур'ёзную ўвагу на яго і жывём паводле ягонага настаўленьня.

Апостал Пётр разумеў важнасьць Слова Божага ў дачыненьні да нашай патрэбы ў Божым кіраўніцтве і растлумачыў гэта словамі: «Маем найпэўнейшае слова прарочае; і вы добра робіце, што зьвяртаецеся да яго як да сьветача, што сьвеціць у цёмным месцы, пакуль не разднее і ня ўзыдзе дзяньніца ў сэрцах вашых» (2 Пятр. 1:19). Апостал кажа, што Слова Божае – сьветач, які сьвеціць у цёмным месцы. Што ён мае на ўвазе, калі гаворыць пра цёмнае месца? Гэта – грэшнае жыцьцё чалавецтва, якое Бога і Яго Слова ня ведае. Бяз Бога нашае жыцьцё праводзіцца ў духоўнай цемнаце і няяснасьці. Гэта падобна да хаджэньня чалавека ўначы па неасьветленай сьцежцы, на якой ён часта спатыкаецца і падае. Інакш кажучы, бяз Слова Божага мы не жывём так, як трэба, і не пазнаём тых радасьцяў і жыцьцёвых блаславеньняў, якія Бог падрыхтаваў для Сваіх дзяцей. Той, хто Слова Божага ня ведае, духоўна блудзіць і губляецца; ягонае жыцьцё пазбаўлена той мэтанакіраванасьці, якую Бог прапануе нам для шчасьлівага жыцьця тут на зямлі і пазьней у небе.

Слова Госпадняе становіцца веруючаму сьветачам і

сьвятлом, бо памагае яму выбраць правільны жыцьцёвы шлях, як сьцьвярджае псалмасьпявак: «Слова Тваё – сьветач для ступняў маіх і сьвятло на сьцежцы маёй» (Пс. 119: 105). У дзевятнаццатым псальме выказана гэтая праўда словамі: «Запаведзь Гасподняя прачыстая, яна вочы прасьвятляе» (верш дзевяты). Як сьветач і сьвятло ў дарозе, Слова Божае адымае ад нас усякую духоўную цемру і недасьведчанасьць. Чытаючы Біблію, мы атрымліваем духоўнае зразуменьне і Божае кіраўніцтва. Нам становіцца ясна тое, што ў жыцьці самае важнае і як трэба жыць у паслухмянасьці Богу для нашага шчасьця і дабра. Бог праз Сваё Слова кіруе намі як ў задумах, так і ў нашых учынках.

3. Слова Божае навучае нас праведнасьці і захоўвае нас ад грэшнага жыцьця. Чалавек стала змагаецца з грахом, бо яму заўсёды лягчэй грашыць, чымся рабіць дабро. Чаму дзіцяці ня трэба вучыць зла, а дабра стала трэба вучыць? Таму, што кожны нараджаецца на гэты сьвет з грэшнай натурай. Вось як завалодвае намі грэх: «Добрага, што хачу, не раблю, а благое, якога не хачу, раблю. Калі раблю тое, чаго не хачу, дык ужо ня я раблю гэта, а грэх, які жыве ўва мне... Нешчасьлівы я чалавек!» (Рым. 7:19-24).

Слова Божае веруючаму дапамагае вызваліцца ад грэшнага жыцьця і накіроўвае яго на практычную Божую праведнасьць. У дзевятнаццатым псальме цар Давід гаворыць наступнае пра неабходнасьць Слова Гасподняга: «Закон Гасподні дасканалы, ён душу падсілкоўвае. Адкрыцьцё Гасподняе пэўнае, яно навучае простых; загады Госпада справядлівыя, яны радуюць сэрца» (Пс. 19:8-9). Калі гэта так, дык нашае азнаямленьне са зьместам Сьвяшчэннага Пісаньня дапаможа ў нашым імкненьні жыць праведна паводле Хрыстовага вучэньня. Дзеля таго неабходна рэгулярна спатыкацца з Госпадам праз чытаньне Бібліі і малітву. Аб карыснасьці Слова Божага псалмасьпявак напісаў: «Як юнаку захаваць шлях свой у чысьціні? Сваімі паводзінамі паводле Слова Твайго... У сэрцы маім захаваў я Слова Тваё, каб не грашыць перад Табою» (Пс. 119:9-11). З гэ-

тых словаў мы разумеем, што Слова Божае дае нам адпаведнае настаўленьне і мудрасьць, якія накіроўваюць нас на праведнае жыцьцё. Інакш кажучы, Слова Господняе і нашая лучнасьць з Богам гарантуюць нам перамогу над грахом.

4. Слова Божае прыносіць веруючаму радасьць і пацяшэньне. Мы ўжо прачыталі, што загады Господнія справядлівыя, таму яны і напаўняюць нашыя сэрцы радасьцю. У псальме сто дзевятнаццатым псалмасьпявак дадае, што ў запаведзях Божых ён знаходзіць уцяшэньне (Пс. 119:40). Прарок Ярэма тое спазнаў у жыцьці і напісаў: «Знойдзены былі словы Тваe і я спажыў іх; і было мне слова Тваё радасьцю і пацехай сэрцу майму» (Ярэм. 15:16). Прарок пачуў словы Божыя, прыняў іх і напэўна падпарадкаваўся ім, таму Бог падбадзёрыў і пацешыў яго. Божыя словы і загады тое самае будуць прыносіць для кожнага з нас, хто чытае і зьвяртае сур'ёзную ўвагу на іхні зьмест.

## ШТОДЗЁННАЯ СУСТРЭЧА З БОГАМ

Штодзённая сустрэча з Богам складаецца з дзьвюх частак: чытаньня Сьвяшчэннага Пісаньня і малітвы. Праз Біблію Бог гаворыць да нашых сэрцаў, а праз малітву мы гаворым да Яго. Трэба імкнуцца да штодзённае сустрэчы з Богам і гэтым разьвівацца ў інтымным знаёмстве з Ім. Такім чынам мы ня толькі глыбей пазнаёмімся з Госпадам, але таксама нашае духоўнае жыцьцё ўзбагаціцца, што і выявіцца ў нашым характары і стаўленьні да іншых людзей. Некаторыя лічаць, што блізкая лучнасьць з Богам даецца толькі сьвятарам ці прапаведнікам, але нідзе ў Евангельлі так ня сказана. Якраз наадварот. Хрыстос сказаў: «Прыйдзіце да Мяне ўсе працуючыя і абцяжараныя, і Я супакою вас... Таго, хто прыходзіць да Мяне, ня выганю вон» (Маць. 11:28; Іаан. 6:37). Праз Збавіцеля Ісуса Хрыста Бог адкрыў шлях да Сябе ўсім людзям без выключэньня, таму і павінны мы карыстацца гэтай прывілеяй.

СЛОВА БОЖАЕ

Аўтар Ліста да яўрэяў піша, што Бог у мінулым гаварыў да чалавецтва праз старазапаветных прарокаў, а цяпер Ён гаворыць да нас праз Свайго Сына (Яўр. 1:1-2). Тое, што прарокі чулі ад Бога, яны запісвалі і Яго словы мы знаходзім у Бібліі. Словы Ісуса Хрыста таксама былі запісаны евангелістамі і цяпер знаходзяцца ў чатырох Евангельлях, якія ўваходзяць у Біблію. У пачатку Евангельля паводле Іаана Хрыстос называецца «Словам» (па-грэчаску «логос»): «На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога спрадвеку... І Слова целам сталася і пасялілася між нас, і бачылі мы славу Яго, славу як Адзінароднага ад Айца, поўнае ласкі і праўды» (Іаан. 1:1-14). Гэтае Слова, Ісус Хрыстос, пакінула зямлю, калі перад вачыма вучняў Яно ўзьнеслася да Свайго Нябеснага Айца. Хрыстос цяпер гаворыць да нас праз Слова Божае, бо ў ім апісваецца Яго зямное жыцьцё і перадаюцца Яго ўласныя словы. Значыцца, Бог і Хрыстос гавораць да нас праз Сьвяшчэннае Пісаньне, Біблію, якую павінны мы чытаць рэгулярна.

Каб быць рэгулярным у чытаньні Бібліі, трэба падумаць над наступнымі пытаньнямі. Калі на працягу дня найлепш мне сустрэцца з Богам? Якое месца будзе найлепшым для такой сустрэчы? Мы ўжо закранулі пытаньне пра тое, у які час дня найлепш сустрэцца з Богам. Калі гэта магчыма, найлепш сустрэцца з Ім раніцай. Але не заўсёды гэта магчыма для ўсіх людзей. Трэба добра абдумаць гэтае пытаньне, беручы пад увагу свае штодзённыя абавязкі і занятткі. Ці лепей прысьвяціць час Богу ўраньні, удзень ці ўвечары? Толькі вы самі можаце даць правільны адказ на такое пытаньне. Калі ж вы прыйшлі да пэўнай высновы наконт гэтага пытаньня, дык, як толькі можаце, старайцеся сустракацца з Богам у выбраны вамі час.

Затым неабходна выбраць сабе ціхае месца, дзе можаце прачытаць Слова і памаліцца. Пашукайце сабе такое месца, дзе ніхто вам ня будзе замінаць. Гэта асабліва важнае з тае прычыны, што ў цішыні, дзе нішто не займае вашае ўва-

гі, вы зможаце глыбей засяродзіцца на чытаньні Слова Гасподняга і на малітве. Пастанавіўшы, калі і дзе будзеце сустракацца з Богам, старайцеся заўсёды прысьвячаць выбраны вамі час дня чытаньню Бібліі і малітве.

Штодзённая сустрэча з Богам павінна пачынацца з чытаньня Яго Слова, Бібліі. Зусім бяссэнсава чытаць Біблію ўразьбіўку, гэта значыць без усякай пасьлядоўнасьці і парадку. Куды лепей трымацца вызначанага пляна і гэтак пазнаёміцца з поўным зьместам Бібліі. Кожны можа або сам сабе скласьці, або выбраць ужо падрыхтаваны плян на штодзённае чытаньне. У канцы гэтай кнігі вы знойдзеце адзін такі плян. Трымаючыся яго, вы прачытаеце ўсю Біблію на працягу аднаго года. На кожны дзень даюцца два тэксты для чытаньня: адзін са Старога Запавету, другі з Новага Запавету. Можа штодзённыя чытаньні, якія даюцца ў сьпіску, задоўгія для вас? У такім выпадку раім прачытаць у адзін дзень тэкст са Старога Запавету, а на другі дзень – тэкст з Новага Запавету. Такім спосабам вы можаце чаргавацца тэкстамі ў чытаньні Бібліі. Калі выбераце такі метад, дык прачытаеце Біблію за два гады. Самае галоўнае тут ня ў тым, колькі вы чытаеце кожны раз, а ў тым, што чытаеце Слова Божае пасьлядоўна і рэгулярна, знаёмячыся гэтак з ягоным зьместам.

Як трэба чытаць Біблію? Павярхоўна, насьпех, без усякага глыбейшага ўніканьня ў зьмест тэксту? Не. Трэба чытаць яго старанна і ўважна, сур'ёзна задумваючыся над тым, што ў тэксьце гаворыцца. Заўсёды чытайце Сьвяшчэннае Пісаньне з малітвай, каб Гасподзь загаварыў да вашага сэрца. Падумайце і разважайце аб тым, ці вашае жыцьцё адзначаецца тымі якасьцямі, якія выдзяляюцца тэкстам? Мы стала павінны параўноўваць сваё жыцьцё і характар з тым, што чытаем у Слове Гасподнім. Чытаючы Сьвяшчэннае Пісаньне, мы знаёмімся з Божым узорам сьвятасьці і пабожнасьці, што і будзе паказваць нам нашыя недахопы і слабасьці. Але не забываймася, што Дух Сьвяты заўсёды гатовы дапамагчы нам у змаганьні з нашымі недахо-

пaмі і правіннасьцямі. Каб мы не чыталі Слова Божага, дык ня ведалі б пра сваю грэшнасьць і недасканаласьць. Але ўсьвядоміўшы, якія мы ёсьць перад Богам і іншымі людзьмі, мы можам прасіць дапамогі Духа Сьвятога і такім чынам расьці духоўна ў паводзінах і лучнасьці з Госпадам. Вось шэраг пытаньняў, якія вы можаце паставіць сабе і на якія можаце адказаць, калі вывучаеце біблейны тэкст:

Ці даецца прыклад, па якому мне трэба жыць?

Ці даецца загад, якога мне неабходна слухацца?

Ці выяўляецца памылка, якой я мушу пазьбягаць?

Ці паказваецца грэх, ад якога мне трэба адмовіцца?

Ці даецца абяцаньне, якое я магу прыняць і зьдзейсьніць у жыцьці?

Ці знаходзіцца ў тэксьце новая для мяне праўда пра Бога?

Ці знаходзіцца ў тэксьце новая для мяне праўда пра Ісуса Хрыста?

Ці знаходзіцца ў тэксьце новая для мяне зьвестка пра Духа Сьвятога і Яго дзеяньне ў маім жыцьці?

Слова Божае становіцца люстрам, у якім мы бачым Ісуса Хрыста, і саміх сябе можам параўнаць з Ім. Гэтае параўнаньне сябе з Хрыстом і Божымі загадамі пакажа нам, дзе мы не даходзім да Яго духоўнае дасканаласьці і ў чым нам трэба зьмяніцца. Часам глядзець у люстра – нялёгкая справа, бо нам не падабаецца, калі ў ім заўважаем свае грахі, слабасьці і недахопы. Зьмяняцца ў поглядах і паводзінах таксама цяжкавата, але Дух Божы можа дапамагчы нам у гэтым, калі мы дазволім Яму гэта зрабіць. Калі мы будзем чытаць і разважаць аб тым, што гаворыцца ў Слове Божым, Гасподзь будзе даваць нам Сваё вышэйшае разуменьне і кіраваць нашым жыцьцём. На працягу доўгага часу Ён будзе адкрываць Сваю поўную волю для нас, але штодзённа Ён будзе даваць нам столькі духоўнага сьвятла, колькі нам патрэбна на той дзень. Вось чаму надта важна веруючаму штодня чытаць Слова Божае і сур'ёзна ўнікаць у ягонае вучэньне.

МАЛІТВА

Прачытаўшы ўрывак з Бібліі і абдумаўшы ягоны зьмест, вы гатовы зьвярнуцца да Бога ў малітве. Кожнаму веруючаму даецца прывілея малітвы. Не павінны мы спадзявацца толькі на сьвяшчэньнікаў і прэсьвітэраў, каб яны маліліся за нас. Таксама не павінны мы думаць, што толькі ў царкве можна маліцца Богу. Кожны з гэтых момантаў у нашым жыцьці мае сваё месца і важнасьць, але гэта не вызваляе нас ад нашай адказнасьці самім маліцца Богу. Памаліцца Яму мы можам у любы час і ў любым месцы.

На жаль, ёсьць веруючыя, якія рэдка моляцца Богу, бо непакояцца пра тое, што іхнія малітвы неглыбокія ці запростыя для Госпада. Бог у сапраўднасьці прымае кожную шчырую малітву веруючага незалежна ад яе прастаты ці глыбіні. Хрыстос аднойчы расказаў пра фарысея і мытніка, як яны памаліліся Богу. Фарысей у сваёй малітве падзякаваў Богу за тое, што ён не такі грэшнік, як той мытнік, і прыпомніў Богу свае добрыя ўчынкі. Выйшла так, што ён толькі выхваляўся перад Богам, гаворачы пра сваю дабрыню і маральнасьць. Толькі аднаго ён не разумеў – што гэтая ж ягоная самаправеднасьць зрабіла яго вялікім грэшнікам. Мытнік таксама памаліўся Богу, а ягоная малітва па характары была зусім іншай. Хрыстос сказаў, што ад глыбокай скрухі ён нават не адважыўся падняць вочы на неба і біў сябе ў грудзі, кажучы: «Божа, будзь міласьцівы мне, грэшніку!» Хрыстос дадаў, што мытнік быў апраўданы за такую шчырую, хаця і простую пакорлівую малітву (Лук. 18:9-14).

Бог заклікае ўсіх Сваіх дзяцей да малітвы і праз іхнія шчырыя малітвы Ён выконвае Сваю волю на зямлі. Пішучы да веруючых у Фесалоніках, апостал Павал выказаў такую думку: «Дык маліцеся за нас, браты, каб слова Гасподняе пашыралася і выслаўлялася, як і ў вас, ды каб нам вызваліцца ад распусьнікаў і людзей крывадушных, бо ня ўсе маюць веру» (2 Фес. 3:1-2).

Як у чытаньні Слова Божага, так і ў малітве трэба

мець асаблівы плян. Ніжэй мы прапануем адзін такі плян малітвы.

1. Усхваленьне. Бог у сапраўднасьці ня мае патрэбы ў нашым усхваленьні Яго. Але Ён дае нам гэтую прывілею, каб мы маглі расьці ў духоўным жыцьці. Цераз усхваленьне Бога мы адкрываем свае сэрцы Яму. Усхваляць Бога абазначае Яго праслаўляць за Ягоную мудрасьць, моц, велічыню, любоў, ласку, доўгацярплівасьць і т. д. Усякі раз, калі мы ўсхваляем Бога, дык паказваем, што цэнім Яго высока і пакланяемся Яму, а гэта дапамагае нам быць больш чулымі да Яго голасу. Пачынайце час малітвы ўсхваленьнем Бога. Пакажыце Яму, якое важнае значэньне Ён мае ў вашым жыцьці. Некаторыя псалмы надта карысныя ў гэтым, бо паказваюць, які наш Бог па характары і сіле (71, 86, 89, 95-108 і т. д.). Добра пачаць час нашае сустрэчы з Богам чытаньнем аднаго такога месца і гэта ўзмоцніць нашае жаданьне ўсхваляць Госпада.

2. Спавяданьне. Лучнасьць з Богам парываецца, калі мы грэшым. Прарок Ісаія напісаў так пра іудзейскі народ: «Беззаконнасьці вашыя зрабілі разьдзел паміж вамі і Богам вашым, і грахі вашыя адварочваюць аблічча Яго ад вас, каб ня чуць» (Іс. 59:2). Псалмасьпявак піша: «Калі б бачыў грэх у сэрцы сваім, то Гасподзь не пачуў бы мяне» (Пс. 66:18). Калі мы зграшылі, дык маем патрэбу ў Божым прабачэньні, бо толькі пасьля спавяданьня ў нашых грахах Бог зноў будзе чуць нашыя малітвы. Цар Саламон гэта зразумеў і напісаў: «Той, хто таіць злачынствы свае, ня будзе мець посьпеху; а хто спавядаецца і пакідае іх, будзе памілаваны» (Прык. 28:13).

У малітве мы павінны прасіць, каб Гасподзь адкрыў нам нашыя грахі. І калі Ён адкрывае іх нам, трэба паспавядацца ў іх і гэтым чынам ачысьціцца перад Богам. Іаан Багаслоў напісаў: «Калі вызнаём грахі нашыя, дык Ён верны і справядлівы дараваць нам грахі нашыя і ачысьціць нас ад усякае няпраўды» (1 Іаан. 1:9). У дачыненьні да гэ-

тага пытаньня мы можам зьвярнуцца да Бога такімі словамі: «Госпадзі, пакажы мне ўсё, што разлучае мяне з Табой і з іншымі людзьмі». Ня толькі трэба папрасіць, каб Гасподзь адкрыў нашыя грахі, але таксама, каб Ён даў нам неабходную сілу перамагчы нашыя ўнутраныя парывы і навыкі. Самі па сабе мы ніколі ня мелі б сілы перамагчы свае грахі, таму і маем вялікую патрэбу ў Божым узьдзеяньні і дапамозе.

3. Падзяка. Калі мы ведаем, што Гасподзь прабачыў нам грахі, дык можам адказаць Яму толькі адным спосабам – нашай шчырай падзякай. Пабожныя веруючыя – удзячныя людзі. Яны заўсёды дзякуюць Богу за Яго благаславеньні і даброты: за Яго ласку, міласэрнасьць, збаўленьне, дараваньне грахоў, здароўе, апеку, ежу, прыяцеляў, царкву, жыцьцёвыя радасьці і г. д. Добра было б запісаць сабе такія благаславеньні, за якія вы павінны падзякаваць Богу ў малітве. Апостал Павал напісаў: «За ўсё дзякуйце, бо гэта Божая воля для вас у Хрысьце Ісусе» (1 Фес. 5:18). Не павінны мы быць падобнымі да тых, хто Бога не паслухаўся і пакінуў. Апостал піша пра іх так: «Яны, спазнаўшы Бога, не праславілі Яго як Бога і не падзякавалі, але замітусіліся ў мудрагельствах сваіх, і прыцьмілася неразумнае сэрца іхняе; лічачы сябе мудрымі, яны здурэлі» (Рым. 1:21-22). Значыцца, тыя людзі перасталі дзякаваць Богу за ўсе Яго добрадзействы і благаславеньні, таму і сталі яны неразумнымі ў сваіх разважаньнях і ўчынках ды адышлі ад Госпада. Будзьма заўсёды ўдзячнымі Богу, дарагія браты і сёстры ў Хрысьце.

4. Малітва за іншых. Веруючыя павінны маліцца адзін за аднаго. Так вучыць Сьвяшчэннае Пісаньне. Апостал Павал напісаў да калоскіх веруючых, што ён і Цімафей стала моляцца за іх, каб Гасподзь благаслаўляў і напаўняў іх пазнаньнем Ягонае волі для іхняга далейшага духоўнага росту (Кал. 1:3-9). Апостал Іакаў заахвочвае веруючых маліцца адзін за аднаго, калі хто з іх хворы (Іак. 5:16). Мы ўжо працытавалі словы апостала Паўла, у якіх ён просіць

фесаланікійцаў маліцца за яго ў прапаведаньні Евангельля (2 Фес. 3:1-2).

Колькі разоў мы даём абяцаньне людзям, што будзем маліцца за іх, а ў хуткім часе і забываемся пра тое. Карысна скласьці і трымаць сьпісак малітоўных просьбаў і на ім запісваць імёны тых, за якіх мы рашылі маліцца. Пераглядаючы гэты сьпісак, мы будзем памятаць, за каго маліцца.

За каго павінны мы маліцца? За розных людзей: сваякоў, прыяцеляў, суседзяў, прэсьвітэраў, супрацоўнікаў, місіянераў, нават і за ворагаў. Запытайцеся пра патрэбы і жаданьні тых, за каго вы паабяцалі маліцца. Маліцеся за іх так, як вы моліцеся за свае патрэбы і жаданьні. Мы ўсе, будучы людзьмі і веруючымі, маем амаль што тыя самыя патрэбы.

5. Малітва за сябе. Мы павінны маліцца і за свае патрэбы. Апостал Павал так напісаў да філіпянаў: «Не турбуйцеся ні аб чым, але заўсёды ў малітве і просьбе з падзякай адкрывайце вашыя жаданьні перад Богам» (Філ. 4:6). Мы звычайна турбуемся, непакоімся пра жыцьцёвыя няпэўнасьці і цяжкасьці, а тут апостал кажа, што замест турбавацца, мы павінны з падзякай адкрываць свае просьбы Богу і спадзявацца на Яго. У дачыненьні да нашых уласных просьбаў малітоўны сьпісак можа шмат дапамагчы нам успомніць, як Бог адказвае на нашыя малітвы.

За што можна маліцца? За ўсё: за свой духоўны рост, за пазбыцьцё слабасьцяў характару, за здароўе, за настаўленьні ў нашым жыцьці, за разважлівасьць і мудрасьць у цяжкіх абставінах і г. д. Богу вядомы ўсе гэтыя нашыя патрэбы і Ён ідзе нам насустрач, каб дапамагчы і падтрымліваць нас ва ўсіх патрэбах. Калі мы будзем выказваць малітоўныя просьбы ў згодзе з Яго воляй, дык можам быць пэўнымі ў тым, што Ён адкажа на іх. І які рэзультат гэта павінна мець у нашым жыцьці? Той, пра які піша апостал Павал: «І мір Божы, які вышэйшы за ўсякае разуменьне, захавае сэрцы вашыя і думкі вашыя ў Хрысьце Ісусе» (Філ.

4:7). Значыцца, мы будзем спакойнымі і ня будзем турбавацца. Ці ж не жадае і шукае таго кожны з нас, а здаецца, што вельмі мала хто тое і мае. Няхай дапаможа нам Гасподзь больш маліцца і менш турбавацца.

## НЕАБХОДНЫЯ ЗАХАДЫ

Можа вы, дарагая сястра ці брат у Хрысьце, пакуль што штодня не сустракаліся з Госпадам. Прывілея гэтая даецца вам, але вы павінны прыняць неабходныя захады для гэтага. Вось што мы раім вам:

1. Выберыце сабе найвыгаднейшы час дня для сустрэчы з Богам. Кожны мае свае асаблівыя абавязкі і павінен вырашыць сам аб тым, калі найлепей яму сустракацца штодня з Богам. Для большасьці гэта будзе ўраньні, для іншых – увечары. Устанавіўшы адпаведны час для сустрэчы з Госпадам, строга трымайцеся яго. Таксама выберыце сабе спакойнае месца, дзе ніхто ня будзе турбаваць вас.

Пачніце рабіць гэта ад сёньняшняга дня. Мы раім вам кожны раз правесьці найменш пятнаццаць хвілін у чытаньні Бібліі і малітве. З цягам часу вы можаце прысьвячаць больш часу гэтаму дзеяньню, калі адчуеце, што замала часу прысьвячаеце сустрэчы з Богам. Лепш пачаць з карацейшага часу, але чытаць Біблію штодня, чымся пачаць з даўжэйшага часу і сустракацца з Госпадам спарадчына.

2. У першай палове чытайце ўрывак з Бібліі, у другой – маліцеся. Чытайце Біблію згодна са складзеным вамі плянам і маліцеся так, як мы параілі вам вышэй.

3. Запісвайце галоўную думку ці думкі з прачытанага вамі тэксту. У канцы гэтага разьдзела даём прыклад, як вы можаце запісваць галоўныя думкі з прачытанага біблейнага тэксту і вашае асабістае ўражаньне. Карысна час ад часу перачытваць напісанае вамі, каб пабачыць, які поступ вы зрабілі за апошні час ў хрысьціянскім жыцьці.

Таксама запісвайце новыя малітоўныя просьбы з датамі, калі вы ўпершыню прадставілі іх Богу. А калі Бог

адказвае на нейкую просьбу, не забывайцеся адзначыць гэта. Пераглядаючы час ад часу гэты сьпісак, вы ўбачыце, як праз вашыя малітвы Гасподзь узьдзейнічаў на вашае жыцьцё і на жыцьцё іншых людзей.

Калі мы штодня такім чынам будзем сустракацца з Богам, дык іншыя пачнуць заўважаць, што мы сапраўды былі з Госпадам Богам. Гэта будзе праяўляцца ў нашых паводзінах і адносінах да іншых людзей. Мы будзем жыць згодна з тым, што сказаў Хрыстос: «Вы сьвятло сьвету... гэтак няхай сьвятло вашае сьвеціць перад людзьмі, каб яны бачылі вашыя добрыя ўчынкі і ўславілі Айца вашага нябеснага» (Маць. 5:14-15).

Прыклады запісаў:

## ШТОДЗЁННАЯ СУСТРЭЧА З БОГАМ

Нядзеля: Дата.............Прачытаны ўрывак.................

Найважнейшы верш............Самая галоўная думка..........

..................................................................................

Што мне трэба зрабіць?......................................

(І так для кожнага дня)

## МАЛІТОЎНЫЯ ПРОСЬБЫ

Просьбы Адказы

## РАЗЬДЗЕЛ ШОСТЫ: ВЕРУЮЧЫ І ЦАРКВА

У Новым Запавеце мы ўпершыню сустракаем слова «царква» ў шаснаццатым разьдзеле Евангельля паводле Мацьвея. Там жа апісваецца, як апостал Пётр адказаў на пытаньне, пастаўленае Ісусам Хрыстом: «За каго вы Мяне ўважаеце?» Пётр сказаў: «Ты – Хрыстос (гэта значыць Месія), Сын Бога жывога». На заяўленьне Пятра Хрыстос адказаў такімі словамі: «Ня цела і кроў адкрылі табе гэта, а Айцец Мой, што ў нябёсах; і Я кажу табе: ты – скала, і на гэтай скале Я збудую Царкву Маю, і вароты пякельныя не перамогуць яе» (Мацьв. 16:15-18).

Што Збавіцель разумеў пад словам «царква»? Грэцкае слова «эклезія», якое перакладаецца на беларускае «царква», абазначае «выкліканы». Значыцца, гэтым адным словам перадаецца паняцьце, што Бог выклікаў сярод людзей Свой асаблівы народ. Гэтае пытаньне ясна і выразна адлюстроўваецца ў кнізе Другога Закону (14:2), дзе мы чытаем: «Бо ты – народ сьвяты Госпаду Богу свайму, і цябе выбраў Гасподзь, каб ты быў Яго ўласным народам сярод усіх народаў, якія на зямлі». Царква ў Евангельлі складаецца з людзей, якія былі выкліканы і вылучаны Госпадам Богам на падставе іхняга ўвераваньня і прыняцьця Ісуса Хрыста за Збавіцеля і Госпада. Вось менавіта такімі апісвае апостал Павал веруючых, калі пачынае свой Першы ліст да карынфянаў: «Павал, воляй Божай пакліканы апостал Ісуса Хрыста, і Сасьфен брат, царкве Божай, якая знаходзіцца ў Карыньфе, асьвячоным у Хрысьце Ісусе, пакліканым сьвятым, з усімі, хто прызывае імя Госпада нашага Ісуса Хрыста ва ўсякім месцы...» (1 Кар.1:1-2). Царква – гэта выкліканыя Богам веруючыя.

У Евангельлі Царква Божая ці Царква Хрыстова прымаецца ў двух значэньнях.

Перш за ўсё, біблейныя аўтары часамі пішуць пра сусьветную Царкву. Яны маюць на ўвазе ўсіх нованароджаных веруючых, якія ўваходзяць у Царкву Хрыстову і знаходзяцца ва ўсіх частках сьвету. Толькі Бог і Хрыстос ведаюць, хто менавіта належыць да сусьветнай Царквы. З тае прычыны, што мы ўсіх веруючых ня ведаем, сусьветная Царква больш за ўсё застаецца невядомай нам. Вядомая яна толькі Госпаду. Але мы можам быць упэўнены ў тым, што дзеці Божыя жывуць ва ўсіх краінах сьвету і знаходзяцца ў шматлікіх хрысьціянскіх абшчынах. Сэрца і духоўны стан кожнага вядомы Богу і Хрысту. Яны ведаюць, хто належыць да сусьветнай Царквы Хрыстовай. Да тых, хто належыць да сусьветнай Царквы, Ісус Хрыстос адносіцца як добры Пастыр да Сваіх авечак. «Я добры Пастыр і ведаю, хто — Мае, і Мае ведаюць Мяне», сказаў Хрыстос (Іаан. 10,14). Значыць, Ісус Хрыстос якраз цяпер ведае Сваіх, а яны ведаюць Яго.

Біблейныя аўтары таксама пішуць пра царкву ў другім значэньні, менавіта, як пра абшчыну веруючых у дадзеным месцы. Такі гурток веруючых таксама называецца царквою. Як мы ўжо заўважылі, у пачатку свайго Першага ліста да карынфянаў апостал зьвяртаецца да «Царквы Божай, якая ў Карыньфе» (1 Кар. 1:2). Такая царква больш вядомая мясцоваму насельніцтву, бо яе члены рэгулярна зьбіраюцца для супольнага праслаўленьня Бога і для чытаньня і разважаньня Слова Божага. Такіх цэркваў у нашым сьвеце мноства і іх бачым усюды. Яны разам складаюць сусьветную Царкву Хрыстову.

Калі хрысьціянскія абшчыны існуюць у многіх краінах і мясцовасьцях сучаснага сьвету, то паўстае асноўнае пытаньне: ці веруючы мусіць хадзіць у царкву на яе набажэнствы? Як вучыць Біблія адносна гэтага пытаньня? Нідзе ў Бібліі не гаворыцца, што веруючы атрымае збаўленьне ў выніку таго, што ён хадзіў у царкву. Збаўленьне даецца нам самім жа Збаўцелем Ісусам Хрыстом на пад-

ставе нашага ўвераваньня і прыняцьця Яго. Чалавек не апраўдваецца перад Богам добрымі ўчынкамі. Калі хто-небудзь лічыць, што ён атрымае збаўленьне за тое, што рэгулярна хадзіў на богаслужэньні мясцовай абшчыны веруючых, дык ён памыляецца, бо таго Біблія ня вучыць.

Аднак, гэта ня значыць, што веруючы вызвалены ад абавязку хадзіць на багаслужбы. Сустрэча з іншымі братамі і сёстрамі па веры неабходна для кожнага веруючага, калі на гэта ёсьць магчымасьць. Марцін Лютэр падкрэсьліў гэтую думку, калі сказаў: «Каб сабрацца з Божым народам для сумеснага пакланеньня Богу – гэта настолькі неабходна, наколькі і малітва для хрысьціянскага жыцьця». Аўтар Ліста да яўрэяў піша, што веруючыя павінны рэгулярна зьбірацца дзеля таго, каб адзін аднаго падбадзёрваць у хрысьціянскім разьвіцьці і заахвочваць да дабрадзействаў (Яўр. 10:24). Так рабілася ў апостальскія дні, пра тое мы чытаем у кнізе Дзеяньняў апосталаў.

Царква Хрыстова стала існаваць у дзень Пяцідзесятніцы, пасьля таго, як Дух Сьвяты сышоў на апосталаў. Апостал Пётр выступіў перад натоўпам, які сабраўся наўкола іх, ды расказаў пра Ісуса Хрыста, хто Ён такі і што Ён зрабіў, быўшы на зямлі. Пётр таксама нагадаў пра раскрыжаваньне, уваскрэсеньне і ўзьнясеньне Хрыста да Нябеснага Айца. Народ, які слухаў Пятра, запытаўся ў яго, што трэба яму рабіць? Апостал адказаў, што трэба пакаяцца ды прыняць вадзяное хрышчэньне для дараваньня грахоў і атрыманьня Духа Сьвятога (Дзеянь. 2:38). Тыя з іх, хто прыняў словы апостала, пакаяліся і прынялі хрышчэньне; гэтакім чынам за адзін дзень далучылася да Царквы Хрыстовай каля трох тысяч душаў.

А чым нованаверненыя займаліся пасьля таго? Мы чытаем, што яны засталіся пры навуцы апостальскай, гэта значыць яны слухалі апосталаў, якія выкладалі і растлумачвалі Слова Божае. Веруючыя сустракаліся для духоўнага падбадзёрваньня і хрысьціянскай лучнасьці. Яны прымалі ўдзел у Вячэры Гасподняй, гэтым успамінаючы ахвярную крыжовую сьмерць Ісуса Хрыста, і разам маліліся Богу

(Дзеянь. 2:41-42). Тая першая апостальская практыка служыць узорам для ўсіх веруючых, нават і для нас, сучасных хрысьціянаў.

## ЦАРКВА ЯК БУДЫНАК І ЦЕЛА

У лістах апосталаў Царква Хрыстова апісваецца як будынак і цела. Мы разгледзім абодва гэтыя паняцьці. Гэтыя параўнаньні важныя з тае прычыны, што яны апісваюць сутнасьць Царквы і адлюстроўваюць стаўленьне Ісуса Хрыста да яе ды нашую ролю ў яе жыцьці тут на зямлі.

У другім разьдзеле Ліста да эфесцаў мы чытаем апосталавы словы, што веруючыя «збудаваныя на падваліне апосталаў і прарокаў, маючы Самога Ісуса Хрыста за краевугольны камень, на якім весь гмах, зладжана змацаваны, расьце ў сьвяты храм у Госпадзе, у Якім і вы разам будуецеся на жыльлё Бога праз Духа» (вершы 20-22). У гэтых словах апостал сьцьвярджае, што Царква Хрыстова падобная на будынак, які стаіць на фундаменьце ўсяго напісанага старазапаветнымі прарокамі і прапаведанага апосталамі.

У старазапаветныя часы выбраныя Богам прарокі адкрывалі Божую волю чалавецтву ды пісалі пра прыйсьце абяцанага Месіі, Які павінен быў заснаваць новае Божае Царства на зямлі. Сьцьвярджалася прарокамі, што гэты Выбраньнік многіх прывядзе ў Царства Божае і гэтым створыцца новы Божы народ. Апосталы пацьвердзілі ўсё тое, што выказалі прарокі, і паказалі, што абяцаным Месіяй быў Ісус Хрыстос. Хрыстос выбраў апосталаў, навучаў іх на працягу трох з паловай гадоў і даручыў ім духоўную працу: усюды прапаведаваць добрую вестку пра збаўленьне ды заклікаць людзей з усіх народаў да пакаяньня і ўвераваньня ў Бога і Збавіцеля Хрыста. Якраз тое яны і зрабілі. Дзякуючы іхняй стараннай працы, цэрквы ўзьніклі па ўсёй Рымскай імперыі. Апосталы пакінулі для будучых пакаленьняў свае боганатхнёныя пісаньні, якія ўвайшлі ў Біблію і цяпер служаць асновай царкоўна-хрысьціянскага вучэньня.

Да таго ж апостал адзначае, што Хрыстос стаўся краевугольным каменем для Царквы. Значыцца, з усіх людзей, якія належаць да Царквы, Гасподзь Ісус Хрыстос – найважнейшая асоба. Без Яго Царквы не было б! Яна сёньня існуе на аснове Яго жыцьця, навукі, ахвярнай сьмерці, уваскрэсеньня, узьнясеньня да Нябеснага Айца і ў выніку таго, што Ён цяпер дарue веруючым Духа Сьвятога. Хрыстос ня толькі краевугольны камень Царквы, Ён трымае яе ў Сваіх руках і пільна апякуецца ёю. Апостал дадае, што Царква ўмацаваная Ісусам Хрыстом. Гэта значыць, што Збавіцель ахоўвае яе ад усякіх зьнішчальных сілаў і рупіцца аб яе становішчы. У выніку таго Царква ўзмацняецца ў духоўным жыцьці і становіцца сьвятым храмам. Яе члены растуць духоўна, бо ў жыцьці яны праяўляюць Божыя рысы, як сьцьвярджае апостал.

Але ня толькі Хрыстос – камень у гэтым духоўным гмаху. Веруючыя таксама адыгрываюць важную ролю, яны займаюць сваё адпаведнае месца. Апостал Пётр аб гэтым піша ў сваім першым лісьце: «(Вы) самі, як жывыя камяні, будуйцеся ў дом духоўны, сьвяшчэнства сьвятое, каб прыносіць духоўныя ахвяры, любыя Богу праз Ісуса Хрыста» (1 Пятр. 2:5). Таму што веруючыя – жывыя камяні ў Божай будоўлі Царквы, праз Хрыста ім даецца вялікая прывілея асабіста прыходзіць да Бога ды прыносіць Яму духоўныя ахвяры праслаўленьня і служэньня, а тое ж Бог з радасьцю прымае. Веруючыя карыстаюцца гэтай прывілеяй таму, што ўверавалі ды прынялі Хрыста за асабістага Збавіцеля і Госпада, у выніку чаго ў іхнія сэрцы ўвайшоў Дух Сьвяты і там жа жыве і пануе. Усе веруючыя, разам узятыя, складаюць Царкву Божую. Таму што Дух Сьвяты жыве ў кожным з іх, дык можна сказаць, што Бог праз Духа жыве ў гмаху Царквы, як піша апостал Павал: «Вы разам будуйцеся на жыльлё Бога праз Духа» (Эфес. 2:22).

Але апостал параўноўвае Царкву ня толькі з будынкам, ён таксама сьцьвярджае, што Царква падобная да жывога цела. Галава гэтага цела – Ісус Хрыстос. У першым

разьдзеле Ліста да эфесцаў апостал кажа, што Бог «пакарыў усё пад ногі Яго (Хрыста) і спаслаў Яго Галавой над усім у Царкве, якая ёсьць Яго целам, поўня Напаўняючага ўсё ва ўсім» (Эфес. 1:22-23). Гаворачы пра цела, мы адразу разумеем, што гутарка ідзе пра арганізм. Царква Хрыстова ў апостальскіх лістах прыраўноўваецца да жывога і дзейнага цела. Да таго ж, усякае цела складаецца з розных частак ці членаў: галавы, вачэй, вушэй, рук, ног і г. д. Можна сказаць, што галава выконвае самыя галоўныя і найважнейшыя функцыі. Наш розум разважае і рашае, што трэба рабіць і як. Імпульсы выходзяць з мазгоў і кантралююць рухі мышцаў. Галава ў гэтым сэньсе – гэта кіруючы цэнтр цела. І падобна ў духоўным арганізьме Царквы Ісус Хрыстос займае такое ж самае месца. Ён кіруе царкоўнымі справамі, гэта значыць, што Ён рашае, што трэба рабіць і як, і наказвае тое асобным членам. Са свайго боку, члены павінны зьвяртацца да Яго за настаўленьнем і выконваць Яго волю. Галава кіруе ўсім целам і ўсе члены падпарадкоўваюцца ёй. Так павінна адбывацца і ў Царкве. Кожны веруючы павінен шукаць волі Хрыста і выконваць яе.

Аднак, каб галава ня мела ніякіх іншых членаў, і існавала толькі самастойна, дык вельмі мала яна магла б зрабіць. Хаця наш Галава Хрыстос займае самае цэнтральнае месца і выконвае найважнейшую ролю ў Царкве, Ён усяроўна жадае нашага прыхільнага ўдзелу і праз нас Ён хоча выконваць Сваю волю на зямлі. Толькі з дапамогай іншых членаў намеры і рашэньні галавы ажыцьцяўляюцца. Бог у Царкве Хрыста паставіў Галавой, а веруючым Ён дае прывілею стацца і быць членамі Яго духоўнага цела. Мы сталіся членамі Царквы праз увераваньне ў Збавіцеля Хрыста і прыняцьце Яго дару вечнага жыцьця. Пра гэта апостал піша так: «У Ім (Хрысьце) і вы, пачуўшы слова праўды, Добрую Навіну вашага збаўленьня, і ўвераваўшы ў Яго, захаваныя абяцаным Духам Сьвятым, Які ёсьць залогам спадчыны нашае на адкупленьне (Божай) уласнасьці, на пах-

валу славы Яго» (Эфес. 1:13-14). Увераваўшы і прыняўшы Хрыста, мы сталіся Ягонымі, гэта значыць членамі Яго Царквы, і якраз у выніку таго Бог даў нам Духа Сьвятога як задатак і гарантыю нашага поўнага адкупленьня ў будучыні.

Бог гэта зрабіў для кожнага, хто ўвераваў і прыняў Хрыста, незалежна ад ягонай нацыянальнасьці ці становішча ў грамадстве. Усе веруючыя перад Богам аднолькавыя і разам належаць да адной Царквы Хрыстовай. Як напісаў апостал Павал: «Бо ўсе адным Духам ахрышчаны ў адно цела, іудзеі і грэкі, нявольнікі і вольныя, і ўсе напоены адным Духам» (1 Кар. 12:13). Значыць, Дух Сьвяты, Якога кожны з нас, веруючых, атрымаў ад Бога і цяпер мае ў сваім сэрцы, прывёў нас да адной і той жа Царквы і ўчыніў нас членамі гэтага аднаго Хрыстовага Цела. У Лісьце да галатаў апостал падкрэсьлівае гэтую думку, калі піша: «Усе вы – сыны Божыя праз веру ў Хрыста Ісуса; усе вы, хто ў Хрыста ахрысьціўся, у Хрыста апрануліся; няма ўжо іудзея, ані грэка, няма нявольніка, ані свабоднага, няма мужчынскага полу, ані жаночага, бо ўсе вы адно ў Хрысьце Ісусе. Калі ж вы Хрыстовы, дык вы – патомства Аўраамава і паводле абяцаньня – спадкаемцы» (Гал. 3:27-29). Па ўсім сьвеце людзі ўвераваліі ў Ісуса Хрыста і сталіся Яго ўласнасьцю; Ён увайшоў у іхнія сэрцы і там прабывае Духам Сьвятым. І ў Царкве Хрыстовай усе яе члены – ўжо раўнапраўныя дзеці Божыя незалежна ад іхняй нацыянальнасьці, грамадскага становішча ці полу. Будучы Хрыстовымі, адзін ані горшы, ані лепшы за іншага. Усе карыстаюцца тымі ж самымі прывілеямі і благаславеньнямі.

Ня толькі Бог усё гэта заяўляе пра веруючых, а самі ж веруючыя павінны паказваць, што яны належаць Хрысту і да Яго Цела на зямлі, Царквы. Якім спосабам? Зьмененым пабожным жыцьцём. Пішучы да карынфянаў, апостал Павал нагадвае ім, што ўсякі, хто належыць да Хрыста, – новае стварэньне ці новая духоўна адроджаная істота ў Хрысьце. Для такога чалавека ранейшыя інтарэсы зьмяні-

ліся новымі набожнымі жаданьнямі. «Настала ўсё новае», сьцьвярджае апостал Павал (2 Кар. 5:12). І новыя Божыя рысы характару павінны праяўляцца ў штодзённым жыцьці адроджанага хрысьціяніна. У Лісьце да рымлянаў апостал тлумачыць духоўную зьмену нованаверненага наступным чынам: хрышчэньнем веруючыя пахавалі свайго старога грэшнага чалавека і ўкрыжавалі яго разам з Хрыстом, пасьля чаго яны і ўваскрэсьлі таксама з Ім да новага набожнага жыцьця (Рым. 6:1-4). Аднак гэтым справа не канчаецца; яна ў сапраўднасьці з гэтага моманту толькі пачынаецца. Цяпер адроджанаму веруючаму трэба апранацца ў новага Божага чалавека (Эфес. 4:24-32), гэта значыць жыць моцай Духа Сьвятога і ў паслухмянасьці Яму, і толькі тады будуць праяўляцца ў яго станоўчыя набожныя рысы характару. Дарагі брат ці сястра ў Хрысьце, дазвольце мне тут жа затрымацца на хвілінку і запытацца ў вас, ці вашае штодзённае жыцьцё са сваякамі, супрацоўнікамі, суседзямі, нават і з ворагамі даказвае, што вы сапраўды належыце Хрысту і да Яго Цела, Царквы? Таго ж менавіта патрабуе Слова Госпадава. Ня можа быць сумненьня ў тым, што веруючыя, якія жывуць зьмененым набожным жыцьцём, належаць да Царквы Хрыстовай. Ці вы і мы можам гэта сказаць пра сябе?

## РОЛЯ Ў ЦАРКВЕ ЯЕ ЧЛЕНАЎ

Калі мы гаворым пра неабходнасьць веруючым мець і праяўляць хрысьціянскі характар, дык разумеем, што гэта датычыцца кожнага дзіцяці Божага. Але калі мы гаворым пра здольнасьці ці ролю веруючых у Царкве, дык тут жа мы заўважаем, што Бог дае кожнаму веруючаму асаблівыя дары ці здольнасьці служэньня. Кораценька перагледзім біблейнае вучэньне пра ролю ў Царкве Хрыстовай яе членаў.

Апостал Павал асабліва падкрэсьлівае, што Царква ў шматлікіх аспэктах падобная на чалавечае цела. Ён гэта робіць дзеля таго, каб растлумачыць ролю і важнасьць у Царкве кожнага яе члена. У розных лістах ён абмяркоўвае

гэтае пытаньне, а падрабязна разглядае яго ў дванаццатым разьдзеле Першага ліста да карынфянаў. Там жа ён піша, што цела ня можа быць адным членам, а што яно складзена з розных членаў (1 Кар. 12:14). У выглядзе і функцыі кожны член адрозьніваецца ад іншых. Цела дзейнічае ў выніку таго, што мае розныя члены, кожны з якіх выконвае сваю асаблівую функцыю ці працу. Тое, што першы член учыняе, другі няздольны рабіць, і наадварот, за тое, што другі член выконвае, першы не бярэцца. Кожны член цела патрэбны кожнаму іншаму члену. Інакш кажучы, усе члены, разам узятыя, важныя і неабходныя для нармальнага і эфэктыўнага функцыянаваньня ўсяго цела. Кожны член мае сваю ролю і ні адзін з іх не важнейшы за другі.

Іменна тую ж самую думку апостал Павал выказвае, калі апісвае склад і дзейнасьць Хрыстовага Цела, Царквы. Прачытаем ягоныя словы аб тым, запісаныя ў дванаццатым разьдзеле Першага ліста да карынфянаў: «Цела ж – гэта не адзін член, але многа. Калі скажа нага: „Я не рука, я не ад цела”, дык ці ж яна не ад цела? Калі ўсё цела – вока, дык дзе слых? Калі ўсё цела - слых, дык дзе нюх? Але ж Бог разьмеркаваў кожны з членаў у целе, як Сам хацеў. А калі б усе былі адным членам, дык дзе цела? Але цяпер членаў многа, а цела адно» (1 Кар. 12:14-20).

У гэтых словах апостал Павал піша пра адметнасьць кожнага члена ў целе. Што робіць іх адметнымі? Іхнія здольнасьці. Кожны член выконвае сваю асаблівую функцыю ці работу. Тое самае відаць і ў Царкве. Апостал тлумачыць, што Бог праз Духа дае кожнаму веруючаму асаблівы дар ці дары, гэта значыць здольнасьці, якія адрозьніваюцца ад дароў ці здольнасьцяў іншых веруючых. «Ёсьць розьніца ў дараваньнях, – ён заўяляе, – але Дух той самы» (1 Кар. 12:4). Тут жа апостал пералічвае дары ці здольнасьці, якія Дух Божы дае членам Царквы: мудрасьць, веды, веру, аздараўленьне хворых, цудатворства, прароцтва, распазнаваньне духаў, розныя мовы і тлумачэньне моваў (1 Кар. 12: 8-10). У дванаццатым разьдзеле Ліста да рымлянаў апостал

дадае яшчэ іншыя дары-здольнасьці: служэньне, навучаньне, падбадзёрваньне, шчодрасьць у ахвяраваньні, старшынства і міласэрнасьць (Рым. 12:6-8). Ёсьць і іншыя дары, але тут мы ня будзем займацца імі. Самае важнае для нас цяпер – гэта зразумець, што кожны веруючы, будучы членам Царквы Хрыстовай, атрымаў ад Духа асаблівы дар ці здольнасьць згодна з Божай воляй. Дух Сам распараджаецца гэтай справай і рашае, якую здольнасьць ці здольнасьці кожны веруючы і веруючая атрымае ад Яго. Апостал Павал піша: «Усё ж гэта робіць адзін і той жа Дух, надзяляючы кожнага асобна, як Яму хочацца» (1 Кар. 12:11).

Калі яно так і ёсьць, дык як веруючы павінен ставіцца да такога дзеяньня Духа Сьвятога? Ён павінен быць удзячным Яму за духоўныя дары, гэтым прызнаючы, што здольнасьці на служэньне прыходзяць ад Бога. Прыняць славу за здольнасьці само Божае дзіця ня можа, бо ўся ўдзячнасьць і слава належаць Богу. Але ў дачыненьні да гэтага пытаньня я асабіста лічу, што веруючаму карысна папрасіць, каб Дух Сьвяты адкрыў яму, якія дары былі дадзены яму і якімі ён цяпер павінен карыстацца. Гэта становіцца вядомым веруючаму праз малітву і само жыцьцё. У малітве мы зьвяртаемся да Бога з просьбай, каб Ён паказаў нам, якія дары мы атрымалі ад Духа, а ў жыцьці гэта выявіцца нам. Праз кантакты з іншымі людзьмі мы даведваемся, у якіх дарах-здольнасьцях мы наймацнейшыя. Іншыя веруючыя, якія нас добра ведаюць і заўважаюць нашыя здольнасьці , могуць дапамагчы нам у выяўленьні нашых дароў. Як толькі гэта адкрываецца нам, дык мы абавязаны карыстацца нашымі здольнасьцямі на служэньне Богу, іншым веруючым і ўсёй Царкве.

Апостал Павал кажа, што «кожнаму даецца выяўленьне Духа на агульную карысьць» (1 Кар. 12:7). Значыцца, трэба ўжываць здольнасьці на карысьць не сабе ці сваім інтарэсам, а іншым людзям, для іхняга дабра. Калі так мы будзем рабіць, дык і будзем служыць усяму Целу Хрыстоваму. У служэньні іншым людзям мы выконваем Божую волю і прыз-

начаную нам ролю ў Царкве. Кожнаму веруючаму, які шукае Божае волі наконт свайго асаблівага служэньня ў Царкве, адкрываецца, у чым менавіта заключаюцца ягоныя здольнасьці. І гэта дапамагае яму ўпэўніцца ў тым, чым яму займацца ў мясцовай абшчыне. Карыстаючыся дадзенымі здольнасьцямі ў служэньні іншым, мы па сутнасьці спрыяем нармальнаму і эфэктыўнаму дзеяньню Цела Хрыстовага. Кожнаму члену Царквы даецца адпаведная роля, якую ён павінен выконваць згодна з Божай воляй.

Да таго ж, у сувязі з гэтым пытаньнем апостал Павал тлумачыць, у якім духу веруючы павінен служыць Богу і іншым людзям. У дванаццатым разьдзеле Ліста да рымлянаў ён піша: «Ня думайце аб сабе больш, чым трэба думаць, але думайце разумна, як Бог кожнага мерай веры надзяліў» (Рым. 12:3). Выхваляцца сваімі здольнасьцямі ці думаць аб сабе высока па прычыне сваіх здольнасьцяў ніхто ня можа, бо яны былі дадзены нам Госпадам. Замест выхваляньня самога сябе трэба дзякаваць Богу і служыць іншым з пакорлівасьцю і сардэчнай любоўю. У дванаццатым разьдзеле Ліста да рымлянаў апостал дадае словы: «Любоў няхай будзе ў вас некрывадушная; брыдзьцеся зла, прыхіляйцеся да дабра, братняй любоўю адзін да аднаго ласкавыя, адзін болей другога ўзаемна ўшаноўвайцеся; у руплівасьці не слабейце, духам палайце, Госпаду служыце» (Рым. 12: 9-11). Служачы іншым у такім духу, мы сапраўды будзем выконваць Божую волю для свайго духоўнага росту і ўзмацненьня ўсёй Царквы Хрыстовай.

## ЗДОЛЬНАСЬЦІ КІРАЎНІЦТВА

Біблія апісвае, як Хрыстос палажыў аснову Сваёй Царкве, калі выбраў правадыроў для яе. Першымі правадырамі Царквы былі Хрыстовы вучні, якіх Збавіцель выбраў і на працягу трох з паловай гадоў навучаў і падрыхтаваў на кіруючую ролю ў маладой Царкве. Ужо ў гэтым мы бачым, што Бог ад пачатку стаў выбіраць паасобных людзей і надзяляць іх асаблівымі дарамі-здольнасьцямі. Каб эфэктыў-

на выконваць Божую волю на зямлі, Царква мела патрэбу ў здатным кіраўніцтве і Хрыстос паклапаціўся аб гэтым, як піша апостал Павал: «Ён паставіў адных апосталамі». Але гэта ня ўсё, бо апостал працягвае: «Ён паставіў... другіх прарокамі, іншых евангелістамі, іншых пастырамі і настаўнікамі дзеля збудаваньня сьвятых на справу служэньня, дзеля збудаваньня Цела Хрыстовага» (Эфес. 4:11-12).

Бог паклапаціўся пра тое, каб даць Царкве правадыроў і надзяліць іх неабходнымі здольнасьцямі кіраўніцтва. Ён тое ж самае ўчыняе і ў цяперашні час. Дзякуючы іхняму служэньню і духоўнай працы, Царква сёньня працягвае прыводзіць няверуючых да Хрыста і спрыяе духоўнаму росту членаў сваіх. Заснавальнікамі Царквы былі Хрыстос і Яго вучні, якія былі названыя апосталамі. Ім было даручана прапаведаваць Евангельле і заснаваць Царкву па ўсёй Рымскай імперыі, што яны і зрабілі. Яны першыя выкладалі навуку Хрыстову і запісалі яе для будучых пакаленьняў. Апосталы былі разам з Хрыстом і заснавалі Царкву, таму іхняя ўнікальная роля і служэньне ў гісторыі Царквы не паўтарылася. Апостал Павал заяўляе, што мы, веруючыя, збудаваны на падваліне апосталаў і прарокаў і што Ісус Хрыстос стаўся краевугольным каменем Царквы (Эфес.2: 20). Як унікальнае служэньне старазапаветных прарокаў і самога ж Ісуса Хрыста ня можа паўтарыцца, так і служэньне апосталаў Царкве скончылася і не працягваецца.

Апостал Павал напамінае пра служэньне прарокаў у апостальскай Царкве. Мы павінны зразумець, што ён тут не гаворыць пра старазапаветных прарокаў, якія запісвалі Слова Божае і прадказвалі будучыя падзеі. Прарокі ў апостальскія часы карысталіся здольнасьцю выкладаць Слова Божае з такой выразнасьцю, што нават простыя і звычайныя людзі маглі зразумець ягоны зьмест і патрабаваньні дзеля выкананьня Божае волі.

Апостал таксама прыпамінае пра служэньне евангелістаў. Евангеліст – асоба, выбраная Богам для прапаведаваньня добрай весткі Евангельля і закліканьня многіх няве-

руючых да ўвераваньня і прыняцьця Хрыста. Ёсьць цяпер ў сьвеце людзі, якія заклікаюць ды прыводзяць цэлыя масы людзей да Ісуса Хрыста, бо Дух Сьвяты дае ім дар на такое асаблівае служэньне.

У мясцовай царкве займаецца духоўнай працай галоўная асоба, якую апостал называе «пастырам-настаўнікам». Мы сёньня называем такога служыцеля Царквы прэсьвітэрам ці пастарам. Прэсьвітэра мы можам прыпадобніць да пастуха, які трымае пры сабе і апякуецца сваім статкам авечак. Пастыр-настаўнік даглядае і настаўляе сваіх духоўных авечак, веруючых, каб яны расьлі і разьвіваліся ў хрысьціянскім жыцьці і ў лучнасьці з Госпадам. Гэта нялёгкая праца, але Бог дае яму неабходную мудрасьць і моц.

Біблія таксама паведамляе, што Бог выбірае для кожнай мясцовай абшчыны іншых братоў, якім даручаецца абавязак даглядаць яе членаў у іхнім духоўным росьце і рупіцца аб чысьціні Евангельля Хрыстовага, калі яно прапаведаваецца і растлумачваецца. У новазапаветныя часы такія людзі называліся старэйшынамі ці епіскапамі. У цяперашні час іх мы можам параўнаць з членамі брацкага кіруючага камітэта мясцовай абшчыны веруючых. Якасьці старэйшын выкладаюцца ў Першым лісьце да Цімафея (3: 1-7) і ў Лісьце да Ціта (1:6-9).

У Новым Запавеце прыгадваюцца і дыяканы, якія ў дні апосталаў дапамагалі ўдовам, апекаваліся імі і займаліся адміністратыўнымі справамі. Якасьці дыяканаў пералічваюцца ў Першым лісьце да Цімафея (3:8-12).

Як павінны мы ставіцца да кіруючых братоў у Царкве Хрыстовай? Калі іхняе настаўленьне і духоўнае служэньне не супярэчыць вучэньню Слова Божага, дык ставіцца да іх мы павінны з глыбокай павагай і паслухмянасьцю. Аўтар Ліста да яўрэяў дае нам такую параду: «Слухайцеся настаўнікаў вашых і будзьце пакорнымі, бо яны клапоцяцца аб душах вашых, яны абавязаны даць адказ за іх, ды каб з радасьцю гэта рабілі, а не ўздыхаючы, бо гэта для вас не ка-

рысна» (Яўр. 13:17). Бог паставіў над намі правадыроў і даручыў ім асаблівы духоўны абавязак – даглядаць нас у духоўным жыцьці, каб мы заглыбляліся ў Хрыстовай навуцы і разьвіваліся ў хрысьціянскім характары. Калі штосьці ў нашым жыцьці ня так, то яны з замілаваньнем павінны паказаць нам, у чым мы памыляемся, і такім чынам стрымаць нас ад далейшага грашэньня і вярнуць нас да Хрыста і сапраўднага хрысьціянскага жыцьця згодна са Словам Божым. Да таго ж, кіруючым братам даручана папраўляць тых, хто ў дактрынальным разуменьні адступіў ад біблейнай праўды. Усім веруючым трэба паважаць і шанаваць царкоўных кіраўнікоў за іхняе важнае духоўнае служэньне. Так раіць апостал Павал, калі піша: «Просім жа вас, браты, паважаць тых, хто старанна працуе ў вас і пастаўлены над вамі ў Госпадзе ды вас навучае. З любоўю шануйце іх моцна за іхнюю працу» (1 Фес. 5:12-13). Дарагі чытач, ці вы паважаеце і шануеце кіруючых братоў абшчыны, да якой належыце? Бог хоча, каб мы так жа ставіліся да Яго выбраньнікаў.

## У ЯКУЮ ЦАРКВУ ХАДЗІЦЬ?

Ёсьць яшчэ другое пытаньне: у якую царкву хадзіць і ў сваім часе з якой злучыцца? Сапраўды, гэта вельмі важнае пытаньне і патрабуе нашай сур'ёзнай увагі. Я асабіста веру, што калі ў малітве мы будзем прасіць Божага кіраўніцтва ў дачыненьні да гэтага пытаньня, Гасподзь накіруе нас у тую абшчыну, з якой мы павінны зьяднацца згодна з Яго воляй.

Неабходна маліцца ў гэтай справе. Мы таксама можам паставіць сабе цэлы шэраг пытаньняў, якія дапамогуць нам прыйсьці да правільнай высновы. Напрыклад, ці прапаведуецца Слова Божае на багаслужбах дадзенай абшчыны? Не забывайма, дарагія браты і сёстры, што Царква Хрыстова існуе дзеля таго, каб прапаведаваць Евангельле Хрыстова, гэта значыць зьмест Бібліі. Дык вось, калі мы ведаем пра дадзеную абшчыну веруючых, то і павінны

мы паставіць сабе пытаньне: ці яе прапаведнікі выкладаюць вучэньне Бібліі ва ўсёй яго чысьціні? Ці яны заклікаюць людзей да ўвераваньня і асабістага прыняцьця Хрыста? Справа ў тым, што для закліканьня людзей да Хрыста трэба чытаць і растлумачваць зьмест Бібліі. Калі нейкая царква таго ня робіць, дык і ня варта зьвязвацца з ёю, бо яна Божае волі не выконвае. Да Сваіх вучняў Хрыстос сказаў, і да нас Ён сёньня тое ж самае кажа: «Ідзіце і навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца і Сына і Сьвятога Духа, навучаючы іх выконваць ўсё, што Я сказаў вам» (Маць. 28:19-20). У Евангельлі паводле Марка запісаны падобныя Хрыстовы словы: «Ідзіце па ўсім сьвеце і абвяшчайце Евангельле ўсякаму стварэньню» (Марк. 16:15), гэта значыць усім людзям. Вось менавіта ў гэтым заключаецца самая галоўная мэта і дзейнасьць Царквы. Калі дадзеная абшчына веруючых прапаведуе Евангельле, то варта хадзіць на яе набажэнствы і нават ўступіць у яе члены.

Мясцовая царква таксама павінна даваць веруючым магчымасьць разам пакланяцца Богу і праслаўляць Яго сьвятое імя. У Старым Запавеце іудзейскі народ рэгулярна зьбіраўся дзеля таго, каб разам праслаўляць Бога. На богаслужэньнях сёньняшніх абшчын кіруючыя браты павінны стварыць такую атмасфэру, каб прысутныя маглі пакланіцца і праславіць Бога са шчырым сэрцам іменна так, як Хрыстос сказаў самаранцы: «Прыйдзе час, і ён ужо прыйшоў, калі праўдзівыя паклоньнікі будуць пакланяцца Айцу ў духу і праўдзе» (Іаан. 4:23). Калі мы думаем злучыцца з выбранай абшчынай веруючых, дык добра адказаць на гэтае пытаньне: ці праслаўляецца імя Госпадава на яе багаслужбах? Калі так, дык мы можам сьмела хадзіць на яе набажэнствы і разам з іншымі прысутнымі дадаць сваё сэрца і голас у супольным праслаўленьні Госпада Бога і Ісуса Хрыста.

Да таго ж, мясцовая царква павінна стварыць атмасфэру, пры якой членам можна расьці ў духоўным жыцьці. Бог даў Царкве людзей з асаблівымі дарамі настаўленьня

– такіх, як прэсьвітэраў, евангелістаў і іншых духоўных настаўнікаў. Яны дапамагаюць нам у зразуменьні біблейскіх дактрын і ў паглыбленьні нашай веры. Апостал Павал піша, што Бог даў Царкве такіх людзей «збудаваньня сьвятых, на справу служэньня, дзеля збудаваньня Цела Хрыстовага, пакуль усе мы дойдзем да адзінства веры і пазнаньня Сына Божага, да мужа дасканалага, да меры поўнай велічыні Хрыстовай» (Эфес. 4:12-13). Бог адарыў гэтых людзей духоўнымі здольнасьцямі, каб мы маглі праз іхняе настаўленьне расьці духоўна паводле Божай волі. Так рабілася ў апостальскія часы, калі веруючыя «трывалі ў навуцы апостальскай, у супольнасьці і ламаньні хлеба ды ў малітвах» (Дзеянь. 2:42). Знаходзячыся ў асяродзьдзі, дзе людзі разьвіваюцца ў духоўным жыцьці, у служэньні Богу і іншым людзям, мы таксама пачынаем разьвівацца духоўна, гэта значыць у нашай лучнасьці з Госпадам і ў хрысьціянскім служэньні. Выбраныя царкоўныя правадыры і прапаведнікі нам дапамогуць паглыбляцца ў веры і навучыцца, як служыць іншым людзям.

Мясцовая царква павінна быць месцам, дзе веруючыя спатыкаюцца адзін з другім для падбадзёрваючай хрысьціянскай лучнасьці. Ці гэта адбываецца і адчуваецца на сустрэчах абшчыны? Не забудземся пра адно, дарагі чытач, што пры такой сустрэчы веруючыя могуць мець прыемную размову пра звычайныя жыцьцёвыя справы, і ўсяму сваё месца, але яны таксама павінны разам праслявіць свайго дарагога Збавіцеля і памаліцца адзін за другога адносна сваіх патрэбаў. Гэтакім чынам мы можам падбадзёрваць адзін аднаго ў сваім хрысьціянскім жыцьці і служэньні. Добры прыклад мы можам узяць ад апостала Паўла, які напісаў веруючым, якія жылі ў Рыме, так: «Я вельмі жадаю пабачыць вас, каб падзяліцца з вамі крышынкай дару духоўнага дзеля вашага ўзмацненьня, суцешыцца з вамі супольнаю верай, вашаю і маёю» (Рым. 1:11-12). Веруючыя, якія слухаюцца Бога, жывуць у лучнасьці з Госпадам і, зьбіраючыся

з іншымі веруючымі, яны павінны адчуваць падобную духоўную блізкасьць, якая існуе паміж імі і Госпадам. Так піша апостал Іаан: «Аб тым, што мы бачылі і чулі, абвяшчаем вам, каб і вы мелі лучнасьць з намі; а нашая ж лучнасьць – з Айцом і Сынам Ягоным, Ісусам Хрыстом. Бог – сьвятло, і няма ў Ім ніякае цемры... калі ходзім у сьвятле, як Ён у сьвятле, дык маем лучнасьць адзін з другім і кроў Ісуса Хрыста, Сына Яго, ачышчае нас ад усякага граху» (1 Іаан. 1:3-7).

Мясцовая царква павінна даваць членам магчымасьць служыць Богу і іншым людзям. Ці дадзеная абшчына гэта робіць? Яе правадыры павінны ня толькі заклікаць няверуючых да Хрыста, але таксама і навучаць веруючых, як сьведчыць няверуючым аб Хрысьце і збаўленьні, каб праз іхняе сьведчаньне няверуючыя сталіся веруючымі і ўвайшлі ў Царкву. Мы памыляемся, калі лічым, што толькі прэсьвітэры і прапаведнікі павінны растлумачваць няверуючым плян збаўленьня, бо ў сапраўднасьці такая духоўная праца даручана і нам, звычайным членам мясцовай абшчыны. У першапачатковай царкве веруючыя распаўсюджвалі евангельскую вестку, дзе б толькі яны ні былі. У кнізе Дзеяньняў апосталаў мы чытаем: «Кожны дзень у храме і па дамах не пераставалі навучаць і прапаведаваць пра Ісуса Хрыста» (Дзеянь. 5:42). Калі ўлады пачалі прасьледаваць першых хрысьціян у Ерусаліме, многія з іх пакінулі гэты горад і перабраліся ў іншыя мясцовасьці, дзе і працягвалі распаўсюджваць добрую вестку пра Збавіцеля Ісуса Хрыста. У нашыя дні члены мясцовай абшчыны павінны тое ж самае рабіць сярод знаёмых, а тых, хто прымае Слова Гасподняе і становіцца веруючым ці веруючай, сталыя веруючыя павінны навучаць асноўным прынцыпам хрысьціянскага жыцьця.

Апрача таго, кожны член абшчыны можа служыць Богу ў мясцовай царкве сваім удзелам ў яе хоры, кіруючым камітэце і яе іншых камітэтах. Абшчыны заўсёды маюць патрэбу ў людзях да працы з дзецьмі, гэта значыць у настаўніках і настаўніцах нядзельнай школы. Гэта людзі,

які валодаюць асаблівай здатнасьцю тлумачыць Слова Божае так, каб дзеці яго разумелі. Згодна з дарамі, дадзенымі Духам Сьвятым, веруючы можа дапамагаць тым, хто адчувае асаблівую патрэбу, ці то будзе фізічнае ці духоўнае заданьне. Служачы іншым людзям і Богу, мы самі разьвіваемся і паглыбляемся ў хрысьціянскім жыцьці і характары. Таму і добра паставіць сабе пытаньне, калі думаеш далучыцца да дадзенай абшчыны веруючых: ці абшчына дае сваім членам магчымасьць служыць такімі і іншымі спосабамі?

Слова Божае таксама навучае нас, што мы павінны падтрымліваць Царкву і яе духоўнае служэньне нашымі ахвяраваньнямі. Гэтым чынам мы садзейнічаем Божай справе тут, на зямлі. Царква Хрыстова мае патрэбу ў сродках, каб выконваць працу, даручаную ёй Госпадам Ісусам Хрыстом. Некаторыя царкоўныя работнікі займаюцца толькі духоўнай працай, таму і павінны атрымліваць плату ад тых, каму яны служаць. Да таго ж, час ад часу няшчасныя людзі трапляюць у бяду і царква можа дапамагчы ім. Як першае, так і другое патрабуе грошай. Апостал Павал напісаў да веруючых у Карыньфе аб тым, што трэба ахвяраваць на Божую справу, але ў асаблівым духу гэта робіцца. У Другім лісьце да карынфянаў мы чытаем ягоныя такія словы: «Няхай жа кожны дае, як рашыў у сваім сэрцы, не шкадуючы і не пад прымусам, бо Бог любіць таго, хто дае ахвотна, і Бог можа ўзбагаціць вас усякай ласкай, каб вы, заўсёды і ва ўсім маючы ўсякі дастатак, былі багатыя на ўсякую дабрадзейнасьць» (2 Кар. 9:7-8). Бог любіць веруючага, які ахвотна і з радасьцю ахвяруе на Яго справу, і ў выніку таго Ён дае шчодраму ахвярадаўцу сілу, каб ён мог зрабіць яшчэ больш дабра людзям і гэтым стацца добрым сьведкам Божай ласкі, якая дзейнічае ў ім. Ці вы, дарагі брат або сястра ў Хрысьце, гатовыя падтрымліваць духоўнае служэньне абшчыны сваімі грашыма? У гэтым таксама мы разьвіваемся ў хрысьціянскім жыцьці.

Прарок Малахія запісаў словы, у якіх Бог абяцае благлаўленьне таму, хто прыносіць ахвяраваньне ў Яго дом: «Прынясіце ўсю дзесяціну ў сьвіран, каб былі харчы ў доме Маім; і ў гэтым выпрабуйце Мяне, кажа Гасподзь Саваоф, ці не адчыню вам жаролаў нябесных і ня выльлю на вас благлаўленьне ў празьмернасьці» (Мал. 3:10). Можам быць упэўнены ў тым, што калі мы ахвяруем Госпаду нашыя матэрыяльныя сродкі, Ён нас ніколі не пакіне ў бядзе. Паводле прачытаных словаў Бог дасьць нам больш, чым нам патрэбна. У старазапаветныя часы ізраільцяне прыносілі дзесяціну сваіх тавараў і пладоў ці заробкаў. Думаецца, што няблага было б трымацца правіла і ў нашыя дні, хаця б як мінімума. А калі Гасподзь дасьць яшчэ больш, дык ад шчырага сэрца і любові мы маглі б даць Яму больш за дзесяціну нашых даходаў.

Быць адасобленым веруючым без усякай сувязі ці кантакту з іншымі веруючымі – гэта ненармальная зьява. Бог хоча, каб Яго дзеці сустракаліся для свайго духоўнага падбадзёрваньня і лучнасьці, калі на гэта ёсьць магчымасьць. Са свайго боку мы, веруючыя, павінны шукаць другіх, з якімі мы можам зьяднацца. А калі мы ўжо злучыліся з гуртком веруючых, дык Бог хоча, каб мы ня толькі атрымлівалі духоўныя благлавеньні, прысутнічаючы на богаслужэньнях, але таксама служылі і дапамагалі іншым. Ці мы гэта робім, дарагі брат ці сястра ў Хрысьце?

## РАЗЬДЗЕЛ СЁМЫ: ЗМАГАНЬНЕ І ПЕРАМОГА НАД СПАКУСАМІ

Ці вы, дарагі чытач, нешта такое калісьці чулі ці самі выказалі: «Ня маю я сілы перамагчы грэшныя схільнасьці ў сабе. Вось добра ведаю, што ў Бібліі сказана, што не павінны мы сварыцца адзін з адным, але я ўсяроўна часамі выходжу з цярпеньня, калі бываю з сям'ёй або з супрацоўнікамі. Што мне рабіць?» Іншы скажа: «Колькі б я ўжо ні стараўся, але ніяк не магу вызваліцца ад гарэлкі і п'янства. Гэта такая спакуса, якую я не магу пераадолець. Заўсёды ўступаю ёй».

Мы ўсе сустракаемся са спакусамі ў жыцьці і часта ня ведаем, як змагацца з імі. Для многіх веруючых гэта цяжка зразумець, асабліва для некаторых, якія толькі што навярнуліся да Хрыста, уверавалі ды пайшлі ўсьлед за Ім. «Ці не казалі мне, – яны пытаюцца, – што Хрыстос, увайшоўшы ў веруючага, дапаможа мне жыць новым бязгрэшным хрысьціянскім жыцьцём? Як жа гэтак можа быць, што мы ўверавалі ды прынялі Хрыста, а нас не пакідаюць старыя грахі і грэшныя пачуцьці? Ці ня кажа Слова Божае, што той, хто веруе ў Хрыста, становіцца новым чалавекам?»

Такія пытаньні нованаверненыя часта ставяць пасьля свайго навярненьня да Хрыста, бо не разумеюць, што духоўная барацьба паміж сіламі праведнасьці і граху ў чалавеку па-сапраўднаму толькі і пачынаецца пасьля ягонага навярненьня да Бога. Вопыт шматлікіх людзей паказвае, што спакуса не пакідае нас пасьля навярненьня, а часамі нават і ўзмацняецца. Для гэтага ёсьць прычыны. Слова Божае вучыць, што спакусы прыходзяць да нас з трох крыніц: цела, шатана і сьвету. Паглядзім, што Сьвяшчэннае Пісаньне кажа пра кожную з іх.

Гэта праўда, што чалавек, які быў народжаны ад Духа Сьвятога, атрымаў новую натуру ці прыроду ад Бога. Шмат зьмянілася ў ім, калі аддаўся Богу ды прыняў Хрыста за

свайго асабістага Збавіцеля і Госпада. Хрыстос як Дух Сьвяты ўвайшоў у ягонае сэрца і там жа цяпер жыве, каб дапамагаць веруючаму ў духоўным росьце. Але не павінны мы думаць, што старая, грэшная прырода пакідае веруючага. Вось тут якраз нованавернены можа памыляцца. Грэшная натура са сваёй схільнасьцю да грашэньня ў сапраўднасьці застаецца ў чалавеку, хаця яна ўжо ня мае той улады ці кантролю над веруючым, як раней. Цяпер павінен займаць найгалоўнейшае месца ў сэрцы і жыцьці веруючага Ісус Хрыстос. Але бываюць моманты, калі грэшная прырода ўсё-такі пераважае. Веруючы не дае Духу Сьвятому першага месца ў сваім сэрцы і жыцьці, таму і грэшыць. Адным словам, пасьля навярненьня да Госпада ў веруючым пачынаецца духоўнае змаганьне з грахом і ў гэтай барацьбе ён сустракае ўсялякія спакусы. Апостал Павал растлумачвае гэтае змаганьне так: «Бо цела хоча супраціўнага Духу, а Дух супраціўнага целу; яны адзін аднаму супраціўляюцца, каб вы ня тое рабілі, чаго хацелі б» (Гал. 5:17); «добрага, якое хачу рабіць, не раблю; а благое, якога не хачу рабіць, раблю» (Рым. 7:19).

Ці можа веруючы мець перамогу над грахом і спакусамі? Можа. Слова Божае адкрывае для нас шлях да перамогі, але перад тым, як пазнаёміцца з ім, трэба перагледзець крыніцы спакушэньня. Ведаючы іх, мы зможам навучыцца, як змагацца са спакусамі і перамагаць.

## КРЫНІЦЫ СПАКУШЭНЬНЯ

Як вышэй было сказана, спакусы прыходзяць з трох крыніц: нашага ўласнага цела, шатана і сьвету. Пачнём з цела.

З целам зьвязаны нашыя асабістыя жаданьні. Мець асабістыя жаданьні – зусім нармальная зьява, але не забывайма, што чалавек можа мець і добрыя і благія жаданьні. Калі гэтыя жаданьні служаць толькі нашым інтарэсам, то яны найчасьцей грэшныя. Нашыя грэшныя памкненьні выходзяць з жаданьняў цела, але жаданьні цела таксама зьвя-

заны з нашай грэшнай натурай. Біблія паказвае, што нашая грэшная натура і цела неаддзельныя.

Чаму натура чалавечая грэшная і сапсаваная? Як жа яна сталася такой? Біблія адказвае, што грэшную натуру мы ўнасьледавалі ад бацькоў, як і яны ад сваіх бацькоў. Славуты сьпявак псалмоў, Давід, напісаў: «Я ў беззаконнасьці нарадзіўся, і ў граху пачала мяне мая маці... Ад нараджэньня свайго адступіліся людзі бязбожныя; ад улоньня маткі сваёй блукаюцца і лгуць» (Пс. 51:7 і 58:4). Нашы продкі, Адам і Ева, былі першымі, якія Бога не паслухаліся. Бог сказаў ім, што дазволена есьці плод з усіх дрэваў у Эдэмскім садзе, апрача аднаго. Забаранялася ім скаштаваць плод з дрэва пазнаньня дабра і зла (Быць. 2:16-17). Але прыйшоў момант, калі яны пакаштавалі плод з забароненага дрэва і ў выніку таго духоўна памерлі. Цесная і шчырая лучнасьць з Богам была парваная. Грэх у выглядзе непаслухмянасьці Богу ўвайшоў у іхнія сэрцы і прырода іхняя сталася грэшнай, сапсаванай грахом. А ці гэты іхні ўчынак меў уплыў на наступныя пакаленьні чалавецтва? Меў! Грэшная прырода перайшла ў нашчадкаў Адама і Евы. Апостал Павал апісвае гэты факт такімі словамі: «Праз аднаго чалавека (Адама) увайшоў у сьвет грэх і праз грэх – сьмерць, гэтак і сьмерць перайшла праз усіх людзей, бо ў ім усе зграшылі... непаслухмянасьцю аднаго чалавека многія зрабіліся грэшнымі » (Рым. 5:12-19).

Кожны чалавек цяпер нараджаецца з грэшнай прыродай, якая заўсёды схільна да грашэньня. Вось чаму дзіцяці ня трэба вучыць, як быць благім; гэта ў яго выходзіць неяк натуральна. Трэба вучыць яго, як быць добрым. Кожны з нас унасьледаваў грэшную натуру ад бацькоў, дык і нашыя ўласныя жаданьні найчасьцей грэшныя. Нашая грэшная пажадлівасьць праяўляецца ў благіх учынках, але свой пачатак яна бярэ ў нашай грэшнай натуры, ці як Хрыстос яе называў, у нашым сэрцы. Пра чалавечае сэрца, пашкоджанае грахом, Хрыстос сказаў: «Тое, што выходзіць з вуснаў, – з сэрца выходзіць; гэта апаганьвае чалавека, бо з сэрца выходзяць

благія думкі, забойствы, чужаложства, блуд, кражы, ложнае сьведчаньне, ганьбаваньне» (Маць. 15:19). Нашае сэрца грэшнае, таму і заахвочвае нас да граху. Мы паддаёмся спакусам, калі яны прыходзяць да нас, бо спакусы якраз адпавядаюць нашым свавольным грэшным пажаданьням. Апостал Іакаў гэта зразумеў і напісаў: «Кожны спакушаецца, захоплены і прываблены ўласнай пажадлівасьцю, а потым пажадлівасьць, пачаўшыся, спараджае грэх, а ўчынены грэх спараджае сьмерць» (Іак. 1:14-15).

Другой крыніцай спакусаў зьяўляецца шатан. Біблія шмат піша пра шатана. У нашыя дні знойдзецца нямала людзей, якія скажуць, што пра яго ня варта нават і гаварыць, бо ён і не існуе. Ідэя шатана, як яны сьцьвярджаюць, адносіцца да мінулых вякоў, калі людзі верылі ў забабоны. Сёньня ў нашым тэхналагічным веку верыць у рэальнасьць шатана ня трэба. Ня раз пачуеш, як такія людзі кажуць, што навукай ужо было даказана, што такой істоты, як шатана, няма. Што б такія людзі ні казалі, адно ня зьменьваецца ў сьвеце: зло працягвае праяўляцца ў шматлікіх формах. Чым гэта растлумачыць?

Біблія яскрава паказвае, што на самай справе існуе шатан і што ён дзейнічае ў сьвеце. Гэта ён заахвочвае людзей грашыць, хаця большасьць з іх гэтага сабе і не ўсьведамляе. У Бібліі ён ня раз называецца спакусьнікам (Маць. 4:3; 1 Фес. 3:5). Ісус Хрыстос таксама часта ўспамінаў пра шатана, гаворачы да народу. Ён часамі называў яго д'яблам (Іаан. 8:44). Але ў Евангельлі шатан называецца рознымі імёнамі, якія паказваюць на яго характар і намеры. Самае галоўнае для нас цяпер – гэта прызнаць, што ёсьць такая істота і што яна вядзе людзей да граху. Інакш кажучы, шатан спакушае нас і трэба навучыцца, як эфэктыўна змагацца з ім.

Скуль паходзіць шатан? Біблія, можна сказаць, так непасрэдна не адказвае на гэтае пытаньне. Але ў ёй мы знаходзім цікавыя намёкі, якія, відаць, гавораць аб ягоным паходжаньні. Напрыклад, у Евангельлі паводле Лукі (10:18)

запісаны словы Хрыста: «Я бачыў шатана, які ўпаў з неба, як маланка». Хрыстос у гэтых словах відаць прыгадвае той час, калі шатан быў выгнаны з неба. Некаторыя багасловы ве, .ць і тлумачаць, што падзеньне шатана апісваецца ў кнігах старазапаветных прарокаў Ісаіі і Іезекіля. Ня гледзячы на тое, што гэтыя апісаньні датычаць успомненых прарокамі цароў, некаторыя багасловы лічаць, што яны таксама прадстаўляюць сабой падзеньне вялікага анёла з неба, які пасьля гэтага і стаўся д'яблам. Напрыклад, у Іезекіля (28:12-19) гэтая істота называецца херувімам (тыпам анёла). Гаворыцца, што ён прысутнічаў у Эдэмскім садзе. Напэўна, яшчэ перад гэтым ён зграшыў і быў выкінуты з неба. Чытаем гэтак пра яго: «Ты быў дасканалы ў шляхах тваіх з дня стварэньня твайго, пакуль не знайшлася ў небе беззаконнасьць» (Іез. 28:15). За ганарлівасьць Бог выкінуў яго з неба на зямлю. Падобнае апісаньне мы знаходзім у чатырнаццатым разьдзеле кнігі Ісаіі, дзе прыгадана істота, названая «сынам зары» (Іс. 14:12-17), якога Гасподзь Бог выкінуў з неба. Ісаія перадае ганарлівыя думкі аб сабе гэтай істоты ды кажа, што Гасподзь укінуў яе ў пекла.

Паходжаньне шатана – гэта даволі цікавае пытаньне, але яно ня самая галоўная справа. Важнейшае тое, што ў Эдэмскім садзе перад тым, як былі створаны Богам першыя людзі, шатан ужо існаваў і дзейнічаў. У кнізе Быцьцё мы чытаем, як у выглядзе зьмея ён падышоў да Евы ды спакусіў яе не падпарадкавацца загаду Бога ня браць плода з дрэва пазнаньня дабра і зла і ўсумніцца ў Яго перасьцярозе, што чалавек памрэ, калі пакаштуе забаронены плод. Як вядома, яна паверыла зьмею, узяла і пакаштавала плод дрэва ды дала яго мужу Адаму, каб і ён таксама пакаштаваў яго. Шатан заахвоціў іх парушыць Божы загад. Ад самага пачатку чалавечай гісторыі і да цяперашняга часу гэты ж самы спакусьнік непакоіць людзей і заахвочвае іх да граху. Ён нават спрабаваў спакусіць Ісуса Хрыста, але посьпеху ў гэтым ня меў (Маць. 4:3-11).

Са Сьвятога Пісаньня мы таксама даведваемся, што ня толькі адзін шатан спакушае людзей, але з ім разам дзейнічае і дапамагае яму цэлая плойма дэманаў. Усе яны належаць да аднаго царства зла і ўчыняюць сваю справу пад ягоным кіраваньнем. Гэта мы бачым у словах, выказаных Збавіцелем Хрыстом, калі Ён адказваў на абвінавачаньні фарысеяў, якія сьцьвярджалі, што Сам Хрыстос прыйшоў ад шатана. Вось як Ён адказаў ім: «Калі злы дух злога духа выганяе, дык ён разьдзяліўся сам у сабе. Як можа ўстаяць царства ягонае?» (Маць. 12:26). Словам, размова тут жа ідзе пра цэлае царства злых духаў. Пішучы да эфесцаў, апостал каментуе пра існаваньне і дзейнасьць гэтага нябачнага, але рэальнага царства: «Наша барацьба ня супраць крыві і цела, але супраць начальстваў, супраць уладаў, супраць валадароў сьвету цемры гэтага веку, супраць духаў злосьці паднябесных» (Эфес. 6:12). У гэтых словах адчуваецца, што апостал гаворыць пра злых духаў, якія сапраўды існуюць і праяўляюць сваю моц ва ўсім сьвеце. Менавіта супраць гэтых сілаў веруючыя змагаюцца.

У чацьвёртым разьдзеле Ліста да карынфянаў апостал Павал дадае, што шатан стараецца пазбавіць людзей сьвятла Евангельля, каб яны не маглі вызваліцца з-пад ягонай улады і кантролю. Чытаем: «Калі ж закрыта Евангельле нашае, дык закрыта для тых, хто гіне, для няверуючых, якім бог веку гэтага (гэта значыць шатан) асьляпіў думкі, каб ім не зазьзяла сьвятло Евангельля пра славу Хрыста, Які ёсьць вобразам Бога нябачнага» (2 Кар. 4:3-4).

Вось ужо тут апостал растлумачвае, чым займаюцца шатан і ягоныя памагатыя. У другім месцы апостал кажа, што шатан прыкідваецца анёлам сьветласьці, гэта значыць ён прыходзіць да нас у зусім прывабным і прыемным увасабленьні (2 Кар. 11:14). Але пад такой маскай аказваецца істота з надта ліхімі намерамі заахвоціць нас зграшыць; гэтая асоба, відаць, хоча ўзяць нас з сабой у пекла. Апостал Пётр тлумачыць, што шатан ходзіць, як рыкаючы леў, шукаючы тых, каго ён зможа праглынуць (1 Пятр. 5:8). Кож-

ны раз, калі адчуваем у сабе жаданьне зрабіць нешта няправільнае, мы павінны паставіць сабе пытаньне: ці здаюся я на заахвочваньне вялікага спакусьніка ці не?

Пра шатана мы далей чытаем у дваццатым разьдзеле кнігі Адкрыцьцё. У дзевятым вершы даецца прароцтва пра яго і ў сувязі з гэтым гаворыцца, што шатан зьвядзе з простай дарогі цэлы сьвет, гэта значыць ён зводзіць людзей з дарогі праведнасьці і пабожнасьці. Ён ашуквае ці падманвае нас. У гэтым сэньсе ён – вялікі лгун, які хлусьліва абвінавачвае веруючых перад Богам, як мы чытаем у Адкрыцьці. І бываюць такія моманты, калі ён ня толькі спакушае нас, але і абвінавачвае нас у духоўных слабасьцях толькі дзеля таго, каб зьвесьці нас з дарогі праведнасьці. Калі нешта падобнае здараецца з намі, трэба рабіць так, як гаворыцца ў дванаццатым разьдзеле кнігі Адкрыцьцё. Напісана там жа: «Яны перамаглі яго крывёю Ягняці і словам сьведчаньня свайго ды не ўзлюбілі душаў сваіх ажно да сьмерці» (Адкр. 12:11). Значыцца, як толькі пачынае спакушаць нас шатан, мы павінны зьвярнуцца да нашага Збавіцеля Ісуса Хрыста і папрасіць Ягонай дапамогі ў змаганьні з д'яблам. Ахвярная сьмерць Хрыста, калі пралілася Яго прачыстая кроў дзеля нашага збаўленьня і апраўданьня, дала і яшчэ цяпер дае нам дапамогу над спакусамі шатана. Дык вось каб атрымліваць гэтую неабходную Божую моц, чалавек павінен перш за ўсё прыняць Хрыста за Госпада і Збавіцеля. Але трэба пасьля таго жыць у блізкай лучнасьці з Ім. Як напісаў апостал Іакаў: «Пакарыцеся Богу, супраціўцеся д'яблу і ён пакіне вас. Падыдзіце бліжэй да Бога і Ён прыблізіцца да вас» (Іак. 4:7-8).

Ёсьць і трэйцяя крыніца спакус – гэта тое, што Слова Божае называе «сьветам». У другім разьдзеле Першага ліста Іаана мы знаходзім такія словы: «Не любіце сьвету, ані таго, што ў сьвеце. Хто любіць сьвет, у тым жа няма любові Айца, бо ўсё, што ў сьвеце: пажаданьне цела, пажаданьне вачэй і ганарлівасьць жыцьцёвая – тое не ад Айца, але ад гэтага сьвету. І сьвет праходзіць і пажаданьні яго,

а хто выконвае волю Божую, той трывае вечна» (1 Іаан. 2: 15-17). Пішучы пра сьвет, Іаан Багаслоў мае на ўвазе сьвецкую, бязбожную сістэму. У слове «сьвет» разумеецца ўсё, што існуе ў сьвеце ды супрацiўляецца Божым плянам і дзеяньням веруючых, Божых дзяцей. Усё, што адхіляе ад Бога, ад Ягонага Царства і ад справы нашага вечнага існаваньня ў небе, – вось гэта належыць сьвецкай, бязбожнай сістэме. І гэта Іаан Багаслоў называе сьветам.

Ці гэтым ён кажа, што мы павінны ненавідзець усё існуючае ў сьвеце? Зусім не! Ён гэтым кажа, што не павінны мы захапляцца тымі сьвецкімі рэчамі, якія адхіляюць нас ад Бога і займаюць тое першае, самае галоўнае месца ў нашым сэрцы – месца, якое павінен займаць сам Гасподзь Бог. Калі рэчы гэтага сьвету адхіляюць Бога ад нашага жыцьця, дык сьвет пачынае мець большы ўплыў на нас, чым Бог, і гэта дрэнна. Мы тады знаходзімся ў такім стане, што сьвет можа і ўцягнуць нас у сваю сістэму, каб мы сталі жыць паводле ягоных бязбожных прынцыпаў, а не паводле Божага закону. Чалавек можа жыць паводле сьвецкай сістэмы, але канец гэтага надта ж благі, трагічны. Іаан Багаслоў сьцьвярджае, што сьвет праходзіць і пажаданьні яго. Значыцца, прыйдзе канец усяму сьвецкаму і тады тыя, хто жыў па-сьвецку, будуць шкадаваць, але будзе запозна ім зьмяніць сваё жыцьцё, і вечнага жыцьця з Богам яны не атрымаюць.

Адказваючы на пытаньне: якіх дрэнных сьвецкіх рэчаў павінны мы пазьбягаць, Іаан называе: пажаданьні цела, пажаданьні вачэй і жыцьцёвую ганарлівасьць.

Пажаданьні цела датычацца нашых грэшных пажаданьняў – такіх рэчаў як нячыстага спосабу жыцьця, здавальненьня нашых грэшных цялесных пажаданьняў. Сьвет кажа, што кожны чалавек мае цялесныя пажаданьні; іх можна здавальняць, колькі хочаш. У сьвеце гэта лічыцца нармальным. Ня раз чалавек імкнецца да багацьця і сьвет кажа яму: узбагачайся, колькі хочаш, нічога благога ў гэтым няма. Ня важна тое, што багатыя часта карыстаюцца насільлем і ўплы-

вамі і гэтым дасягаюць сваіх карысталюбівых мэтаў. Сьвет стараецца пераканаць нас, што ў такіх намерах няма нічога асабліва грэшнага. Але Слова Божае перасьцерагае, што грэшнікі вечнага жыцьця не ўнасьледуюць.

Іаан Багаслоў згадвае пра пажаданьні вачэй. Сьвет прапаноўвае чалавеку глядзець на такія рэчы, якія здавальняюць яго грэшныя пажаданасьці, незалежна ад таго, ці гэта зьвязана з нячыстым спосабам жыцьця ці з праяўленьнем любой формы насільля. Глядзіш на сучасныя фільмы і ня раз думаеш сабе: так яно і ёсьць.

Згадваецца і ганарлівасьць жыцьцёвая. Іаан тут мае на ўвазе чалавечую схільнасьць да ганарыстасьці. Чалавек любіць быць папулярным і славутым. І ў сьвеце гэта лічыцца нармальным. Мы часамі хвалімся тым, што маем: сваёй маёмасьцю або славай. Недухоўны чалавек у асноўным дбае толькі пра сябе. Патрэбы іншых людзей яго мала цікавяць. Таму ён лічыць, што калі нешта выходзіць для яго ня так, то ён мае права раззлавацца на іншых. Такія паводзіны і адносіны да іншых не ад Бога Айца, як сьцьвярджае Іаан Багаслоў, але ад сьвету гэтага. Яны не павінны ўжывацца веруючымі.

Евангеліст Лука запісаў настаўленьне і тлумачэньне Ісуса Хрыста вучням пра тое, як сьвет можа прытупіць уплыў і ўзьдзеяньне Слова Божага на душу чалавека, які быў прыняў яго, а потым перастаў больш думаць аб ім. Хрыстос у прытчы расказаў пра сейбіта, які выйшаў сеяць збожжа. Адно зерне ўпала пры дарозе і было патаптана, другое зьелі птушкі. Іншае ўпала на камяністае месца і засохла, ня маючы сабе вільгаці. Некаторае ўпала паміж церняў, ды церні вырасьлі, як сказаў Хрыстос, і заглушылі добрае насеньне. Зерне Хрыстос прыраўноўвае да Слова Божага. Гэтым прыкладам Ён растлумачыў, як зерне Слова Божага не прымаецца або прымаецца людзьмі. Што датычыцца таго зерне, якое ўпала паміж церняў, Хрыстос сказаў:«Тое, што ўпала ў цярніну – гэта тыя, хто слухае слова, але адыходзячы, заглушаюцца клопатамі, багацьцем і ўцехамі жыць-

цёвымі і не даюць плёну» (Лук. 8:14). Значыцца, турботы і нашае захапленьне жыцьцёвымі і сьвецкімі справамі могуць заглушыць і ня даць месца Слову Божаму, таму і магчымасьць увераваць ці ўмацавацца ў веры аслабляецца або нават зьнікае. Бог гэтага не жадае нікому.

## ЭФЭКТЫЎНАЕ ЗМАГАНЬНЕ СА СПАКУСАМІ

Як жа нам вызваліцца ад такой зьявы? Слова Гасподняе паказвае нам, што трэба рабіць, каб мець перамогу над спакусамі, але не заўсёды лёгка выконваць дадзеную параду. Калі мы моцна жадаем перамагчы спакусы, дык і будзем старацца быць у згодзе з настаўленьнямі Сьвяшчэннага Пісаньня. Першы крок у перамозе над спакусамі прыходзіць ад нас саміх: менавіта, гэта нашая рашучасьць жыць праведна і гэтым рыхтавацца да свайго будучага прабываньня ў небе. Той, хто рашыў жыць праведна, заўсёды будзе старацца гэта рабіць у згодзе з навукай Слова Божага.

Не забывайма, дарагі чытач, што жыць праведна і не паддавацца спакусам – гэта высакародная мэта жыцьця, якая прынясе вялікія блаславеньні таму, хто вытрывае да канца ў духоўнай барацьбе са спакусамі і грахом. Інакш кажучы, вельмі пажадана жыць стрыманым спосабам жыцьця, у якім мы не дазваляем сабе рабіць тое, што здавальняе нашыя грэшныя пажаданьні. Біблія заахвочвае нас, веруючых, думаць аб вечных справах і каштоўнасьцях ды ў сьвятле духоўных вечных каштоўнасьцяў жыць праведна і пабожна. Напрыклад, апостал Павал напісаў: «Дык, калі вы ўваскрэсьлі з Хрыстом, шукайце ж высокага, дзе Хрыстос сядзіць праваруч Бога, аб высокім думайце, а не аб зямным, бо вы памерлі, і жыцьцё вашае пахавана з Хрыстом у Богу. Калі ж зьявіцца Хрыстос, жыцьцё вашае, тады і вы зьявіцеся разам з Ім у славе» (Кал. 3:1-4). Апостал тут нагадвае той час, калі веруючыя былі духоўна адроджаны

пры навярненьні да Хрыста, гэта значыць, калі яны пакаяліся ў грахах, уверавалі, прынялі ды вызналі Хрыста за свайго асабістага Збавіцеля і Госпада ды прынялі сьвятое вадзяное хрышчэньне ў знак таго, што пайшлі ўсьлед за Хрыстом. Яны сталіся Яго пасьлядоўнікамі. І ў адказ на іхняе навярнеьне Бог паслаў у іхнія сэрцы Духа Сьвятога, каб духоўна адрадзіць іх. Яны былі духоўна ўваскрэшаны да новага жыцьця з Хрыстом. І вось, перажыўшы ўсё гэта, пра што ім трэба было думаць? Пра нябесныя рэчы, ці як апостал кажа: пра высокае.

Ясна, што гэтым апостал Павал ня кажа, што веруючыя павінны зусім перастаць думаць аб звычайных зямных справах. Нашае зямное жыцьцё ўсё ж працягваецца і павінны мы клапаціцца аб нармальных штодзённых рэчах, ці гэта датычыцца нашае працы, сямейных ці іншых справаў, якія патрабуюць нашае сур'ёзнае ўвагі і рашэньня. Я пераканы, што ў гэтых словах апостал падкрэсьлівае галоўную думку, што духоўна адроджаны веруючы ніколі не забывае найважнейшай мэты свайго жыцьця — каб жыць праведна і пабожна і гэтым рыхтавацца да вечнага існаваньня з Богам і Хрыстом у небе. Веруючы з узьнёслым настроем заўсёды стараецца выконваць Божую волю і жыць для Яго славы, ведаючы, што прыйдзе той час, калі Сам Гасподзь узнагародзіць яго за ўвераваньне і стараньні ў хрысьціянскім жыцьці. А гэта азначае, што са спадзяваньнем на Духа Сьвятога веруючы цяпер працягвае змагацца са спакусамі і, як правіла, ім не паддаецца. Напэўна з гэтае ж прычыны апостал Павал у трэйцім разьдзеле Ліста да каласянаў піша: «Умярцьвіце зямныя члены вашыя: блуд, нячыстасьць, юрлівасьць, благое пажаданьне і хцівасьць, якія ёсьць ідалапаклонства... адкіньце ўсё: гнеў, лютасьць, злосьць, лаянку, саромныя словы з вуснаў вашых, ня лжыце адзін аднаму» (Кал. 3:5-9). Ва ўсіх згаданых апосталам грахах чалавек сябе ня стрымлівае. Учыняючы іх, ён паддаецца спакусам. А хто так робіць, той аб высокім ня думае.

У чацьвёртвым разьдзеле Другога ліста да карын-

фянаў (4:18) апостал Павал напісаў, што «бачнае – часовае, а нябачнае – вечнае». Інакш кажучы, створаныя намі рэчы ці каштоўнасьці, зьвязаныя з зямным жыцьцём, вынікі якіх мы бачым цяпер, праміnуць, але духоўныя, нябачныя каштоўнасьці, вынікаў якіх мы не заўсёды цяпер бачым, застануцца на ўсю вечнасьць. Веруючаму часамі даводзіцца тут, на зямлі, стрымліваць сябе ў цялесных пажаданьнях, бо яны грэшныя і ня згодны з Божай воляй, але за тое яму паабяцана ўзнагарода, якая перавысіць усякую славу і задавальненьне, што можа атрымаць чалавек тут на зямлі. Перад тым, як апостал Павал напісаў, што бачнае – часовае, а нябачнае – вечнае, мы знаходзім такія ягоныя словы: «Мы ня трацім надзеі, але калі наш вонкавы чалавек і тлее, дык унутраны з дня на дзень абнаўляецца і нашая кароткачасовая лёгкая пакута вытварае ў бязьмернай велічыні славу вечную для нас, калі мы глядзім не на бачнае, але на нябачнае» (2 Кар. 4:16-17).

Дарагі чытач, брат ці сястра ў Хрысьце, калі вы цяпер сустракаеце спакусы, памятайце, што вашая рашучасьць не паддацца ім прынясе вам неапісальную ўзнагароду на тым сьвеце. Будзьце стойкімі ў вашай рашучасьці не паддавацца спакусам тут на зямлі. Справа ў тым, што калі вы будзеце так трымацца, дык і будзеце вы з дапамогай Духа Сьвятога выконваць Божую волю і не паддавацца спакусам.

Затым, у Лісьце да каласянаў апостал напісаў, што веруючыя павінны ўмярцьвіць члены свае, гэта значыць не аддаваць членаў свайго цела на служэньне граху. Ён падрабязна займаецца гэтым пытаньнем у шостым разьдзеле Ліста да рымлянаў, дзе заклікае веруючых да таго, каб яны не забываліся пра сваё навярненьне да Хрыста. Чаму? Таму, што навярненьне чалавека да Бога мае асаблівае духоўнае значэньне ў цяперашні час. Калі мы прыпамінаем, што сталася з намі, як навярнуліся мы да Хрыста, дык гэта памагае нам пераадолець спакусы, якія цяпер непакояць нас.

І што іменна апостал згадвае пра нашае навярненьне? Ён выдзяляе нашую духоўную сьмерць для грэшнага жыцьця

і ўваскрэсеньне для новага жыцьця з Хрыстом. Вадзяное хрышчэньне было апошнім крокам навярненьня веруючага і сімвалізавала ягоную духоўную сьмерць ды ўваскрэсеньне. Апосталавы словы такія: «Усе мы, якія ахрысьціліся ў Хрыста Ісуса, у сьмерць Яго ахрысьціліся. Мы пахавалі сябе з Ім хрышчэньнем у сьмерць, каб, як Хрыстос уваскрэс з памёршых праз славу Айца, так і нам хадзіць у абноўленым жыцьці» (Рым. 6:3-4). Мы быццам разам з Хрыстом памерлі для грэшнага жыцьця, падобна да таго, як Ён памёр на крыжы. І як Ён быў уваскрэшаны з мёртвых, так і мы былі ўваскрэшаны духоўна Духам Сьвятым дзеля таго, каб жыць праведна ў згодзе з Божай воляй.

Апостал Павал далей растлумачвае, што старая прырода веруючага была раскрыжавана разам з Хрыстом, і такім чынам нашае грэшнае цела страціла сваю сілу панаваць над намі, таму не павінны мы быць слугамі граху. Значыцца, не для граху мы цяпер жывём, а для Бога (Рым. 6:6). Усё, напісанае апосталам, сапраўды здарылася з веруючым, пра што ён і павінен не забываць, а час ад часу сабе прыгадваць. Прыгадваючы сваю духоўную сьмерць і ўваскрэсеньне з Хрыстом, веруючы заахвочвае сябе да праведнага спосабу жыцьця. Гэтую праўду апостал выдзяляе, калі працягвае пісаць у шостым разьдзеле Ліста да рымлянаў: «Гэтак і вы лічы́це сябе памёршымі для граху, але жывымі для Бога ў Хрысьце Ісусе, Госпадзе нашым» (Рым. 6:11). Ці вы, дарагі брат або сястра ў Хрысьце, лічыце сябе памёршымі для граху і жывымі для Бога? Такое прызнаньне вельмі важнае, нават неабходнае для пасьпяховага змаганьня з грахом і спакусамі. Дык вось усякі раз, калі нас турбуе спакуса, нам трэба вярнуцца думкамі да часу свайго навярненьня, калі мы ўверавалі, пакаяліся ды прынялі вадзяное хрышчэньне, бо гэтым мы прыпомнім сваю ўласную сьмерць для граху і ўваскрэсеньне да новага адроджанага жыцьця з Хрыстом.

Што гэта азначае на практыцы і якое дачыненьне яно

мае да спакус у нашым жыцьці? Нашае напамінаньне сабе аб нашай духоўнай сьмерці і ўваскрэсеньні дапамагае нам усьвядоміць, што нам, веруючым, цяпер ня трэба паддавацца спакусам. Ісус Хрыстос вызваліў нас з-пад улады граху і Дух Сьвяты цяпер жыве ў нашым сэрцы і целе дзеля таго, каб дапамагчы нам вытрываць у змаганьні. Тут жа трэба прызнаць, што не заўсёды будуць здаволены нашыя пажаданьні. Даводзіцца нам навучыцца, як жыць з нездаволенымі пажаданьнямі. У дысцыплінаваным хрысьціянскім жыцьці веруючы няспынна змагаецца з пажаданьнямі, якія не здавальняюцца, бо яны грэшныя. Моц на такую стрыманасьць у пажаданьнях прыходзіць ад Бога, але ў гэтым веруючы таксама павінен трымаць сябе ў суровай дысцыпліне. Той, хто з дапамогай Духа Сьвятога навучыўся не паддавацца сваім грэшным пажаданьням, зможа таксама спраўляцца са спакусамі. Варта паставіць сабе пытаньне, дарагі чытач: ці я гатоў або гатова жыць з нездаволенымі пажаданьнямі? Калі не, дык трэба будзе папрасіць у Госпада здольнасьці і моцы на тое.

Дагэтуль мы гаварылі пра адмоўны бок справы, гэта значыць мы абмеркавалі тое, чаго трэба асьцерагацца і пазбыцца. Але ёсьць і станоўчы бок. Аб ім апостал Павал напісаў у шостым разьдзеле Ліста да рымлянаў: «Не аддавайце граху члены вашыя, як прылады няправеднасьці, але Богу аддавайце сябе, як ажыўшых з мёртвых, і члены вашыя, як прылады праведнасьці» (Рым. 6:13). Апостал раіць нам заўсёды аддаваць саміх сябе Богу. Пад словамі «члены вашыя» ён безумоўна мае на ўвазе нашае сэрца, наш розум, усё нашае цела з ягонымі здольнасьцямі. Усё гэта апостал заахвочвае нас прысьвяціць Богу. І сапраўды той, хто аддаецца на служэньне Богу і Яго Царству, болей удала спраўляецца са спакусамі, чымся той, хто Богу ніколі не аддаваўся. Веруючы, які служыць Богу, знаходзіцца ў тых месцах, дзе служыць Богу магчыма, як прыкладам, у царкве. Прабываньне ў такім месцы ці сярод людзей з падобным

жаданьнем заахвочвае веруючага да шчырага служэньня свайму Госпаду. Праўда, паводле гэтага не павінны мы меркаваць, што веруючы абавязкова мусіць парваць усякія сувязі з няверуючымі, бо як жа ж тады ён будзе сьведчыць ім аб Госпадзе і быць ім добрым прыяцелем? Ён парывае сувязі толькі з тымі няверуючымі, якія спакушаюць і ўводзяць яго ў грэх. Веруючы павінен прасіць у Госпада моцы, каб не паддавацца спакусам, якія прыходзяць ад грэшных няверуючых, а калі гэта не наступае, дык даводзіцца спыніць сяброўства з такімі людзьмі.

Калі чытаеш лісты апостала Паўла, асабліва яго Ліст да рымлянаў, дык усьведамляеш, што вера ў Бога і Хрыста – вельмі важная неабходнасьць у жыцьці веруючага. Гэта ня толькі датычыць ягонага пачатковага атрыманьня збаўленьня, але таксама справы ягонага пасьпяховага хрысьціянскага жыцьця. Вераю мы прынялі Хрыста і вераю жывём для Яго. Ня без прычыны напісаў апостал, што «адкрываецца праведнасьць Божая ад веры да веры; як напісана: праведны жыць будзе вераю» (Рым. 1:17). Найгалоўнейшае значэньне гэтых словаў заключаецца ў тым, што чалавек апраўдваецца перад Богам увераваньнем ды прыняцьцем Ісуса Хрыста за асабістага Збавіцеля. Значыць, праведнасьць Божая прыдаецца таму, хто веруе ў Хрыста і прымае Яго ў сваё сэрца.

Але на падставе сказанага апосталам мы таксама можам вытлумачыць, што апраўданы вераю чалавек і жыве вераю. Жыць вераю – гэта значыць жыць з поўным спадзяваньнем на Госпада Бога. У гэтай жа справе мы можам памыліцца, думаючы, што пасьля ўвераваньня можна абысьціся без далейшага спадзяваньня на Госпада Бога. Праўда, мы так ня кажам, але ў паводзінах такое разуменьне праяўляем. З цягам часу прыходзяць і турбуюць нас разнастайныя спакусы. Мы думаем, што самі, бяз Божай дапамогі і ўдзелу, можам справіцца з імі; сваёй моцай і мудрасьцю стараемся пераадолець спакусы. Што з гэтага выходзіць?

Найчасьцей мы паддаёмся спакусам; яны пераадольваюць нас. Па якой прычыне? Па той, што на Духа Сьвятога мы не паспадзяваліся і ў духоўным жыцьці ўпалі. Я думаю, што кожны з нас, веруючых, калісьці перажыў такі момант расчараваньня.

Апостал Павал напісаў цікавыя словы наконт гэтага пытаньня ў Лісьце да галатаў. У другім разьдзеле мы чытаем: «Я раскрыжаваны разам з Хрыстом, і ўжо ня я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос. А што цяпер жыву ў целе, дык жыву вераю ў Сына Божага, Які палюбіў мяне і аддаў Сябе за мяне» (Гал. 2:20). У выразе «я раскрыжаваны разам з Хрыстом» апостал спасылаецца на час свайго навярненьня, калі ў духоўным жыцьці ён разам з Хрыстом памёр для старога грэшнага жыцьця, таму ў некаторым сэньсе ўжо ня ён жыў, а Хрыстос у ім. Першае цэнтральнае месца ў сэрцы апостала было дадзена Духу Сьвятому, Які пачаў жыць і кіраваць ягоным жыцьцём. Гэтым спосабам Хрыстос у відзе Духа Сьвятога пачаў выконваць Сваю волю ў апостале. Заставалася яму жыць вераю ў Сына Божага, гэта значыць спадзявацца на Духа Сьвятога ва ўсіх патрэбах і ў выконваньні Божае волі. Калі вялікі апостал Павал гэтак ставіўся да Хрыста, дык мы павінны ўзяць з яго прыклад для сябе. Той, хто так робіць, найлепш змагаецца са спакусамі, бо моц для перамогі ён атрымоўвае ад Духа Сьвятога.

Гэты духоўны прынцып яскрава выдзяляецца ў перажываньні трох адважных мужоў Божых: Седраха, Місаха і Аўдэнагі. Здарэньне апісваецца ў трэйцім разьдзеле старазапаветнай кнігі Данііла. Вавілонскі цар Навуходаносар паставіў ідала і загадаў усім падначаленым свайго царства пакланяцца фігуры ўсякі раз, калі заіграе вызначаны дзеля гэтага аркестр. А калі б хто-небудзь адмовіўся пакланіцца статуі, таго, як было загадана, укінуць у палаючую печ. Седрах, Місах і Аўдэнага належалі да яўрэйскага народу, узятага ў палон вавілонскім царом. Яны верылі ў Бога Іегову і ведалі, што ім было грэшна і забаронена пакланяцца

ўсялякім ідалам. Дык вось калі заіграў аркестр і ўсе вавіланяне пакланіліся ідалу, Седрах, Місах і Аўдэнага гэтага не зрабілі. Данесьлі цару Навухаданосару, што гэтыя тры яўрэі не падпарадкаваліся ягонаму загаду, і тое моцна раззлавала яго. З найвялікшай злосьцю ён паклікаў іх, каб сталі перад ім, і калі ён запытаўся іх, чаму яны не пакланіліся статуі, яны адказалі яму, што печы яны не баяцца, бо вераць, што іхні Бог захавае іх ад апяканьня агнём і ад самога цара. Да гэтага яшчэ дадалі, што нават калі іхні Бог не захавае іх ад сьмерці, яны ўсяроўна не паклоняцца ніякім вавілонскім багам.

Заўважма перш за ўсё, што яны даказалі сваю веру ў Бога Іегову, заставаліся вернымі Яму ды праявілі шчырае спадзяваньне на Яго. Яны былі перакананы, што іхні Бог – адзіны Бог, – іншых багоў няма, — і што сапраўдны Бог захавае іх ад небясьпекі. Калі перадумваеш, як усё тут здарылася, дык становіцца ясным, наколькі лягчэй ім было б проста падпарадкавацца загаду цара, ніякай непрыемнасьці не перажываць і лічыць, што Бог зразумее іхняе цяжкое і няшчаснае становішча ды прабачыць ім. Аднак так яны ня думалі. Чаму? Таму, што верылі ў Бога і не хацелі Яго пакрыўдзіць. Ці ж не цікавы іхнія словы, што нават калі б Бог не захаваў іх ад сьмерці, яны ўсяроўна не паддадуцца цару ў гэтай справе? У гэтым мы, сучасныя веруючыя, бачым добры прыклад для сябе: моцна трымацца веры ў Бога, заставацца вернымі Яму і ва ўсім спадзявацца на Яго, нават калі пагроза зьнішчэньня стаіць перад намі. Веруючы, які баіцца Бога ды спадзяецца на Яго так, як гэта паказалі Седрах, Місах і Аўдэнага, атрымае неабходную моц для перамогі над спакусамі.

І што далей здарылася? Разгневаны цар Навухаданосар загадаў распаліць печ сем разоў мацней, як звычайна, зьвязаць ды ўкінуць Седраха, Місаха і Аўдэнагу ў яе. Сказана, што тыя, хто ўкінуў трох мужоў у печ, самі былі апечаны да сьмерці ад яе надзвычайнай гарачыні. Пасьля гэ-

тага, калі цар паглядзеў у печ, ён убачыў ня трох, а чатырох мужоў, якія стаялі сярод полымя і ніхто з іх ня быў зьвязаны. Чацьвёрты быў падобны на Сына Божага, як здалося Навуходаносару. Ён паклікаў іх, каб выйшлі, што і зрабілі Седрах, Місах і Аўдэнага. Напісана, што вавіланяне абгледзелі іх і заўважылі, што полымя не дакранулася да іх, нават не адчувалася ад іх ніякага паху агню. Навуходаносар прызнаў Бога гэтых трох мужоў сапраўдным Богам, Які паслаў анёла, каб захаваць іх ад усякага пашкоджаньня.

Чаго мы можам навучыцца ад усяго перажытага гэтымі трыма мужамі Божымі? Таго, што незалежна ад абставін, у якіх мы знаходзімся, трэба верыць у Бога, заставацца вернымі Яму і спадзявацца на Ягоную дапамогу і духоўнае ўмацаваньне для перамогі над спакусамі. Хто так ставіцца да Госпада, той жа атрымоўвае неабходную моц і перамогу.

У цяперашні час веруючыя павінны спадзявацца на Духа Сьвятога ў змаганьні з грахамі і спакусамі. У сваіх лістах апостал Павал адкрывае, як веруючыя павінны адносіцца да Духа Сьвятога, і калі мы гэта зразумеем, дык будзем лепш падрыхтаваны да змаганьня са спакусамі.

Перш за ўсё карысна было б прыгадаць, што паводле вучэньня Бібліі Дух Сьвяты – гэта трэйцяя асоба Бажаства ці Тройцы. Як Бог Айцец і Бог Сын, так і Бог Дух Сьвяты жыве і дзейнічае цяпер у сьвеце. Ён жыве ў сэрцах сапраўдных дзяцей Божых і дапамагае ім у хрысьціянскім жыцьці. Калі Ісус Хрыстос гаварыў з вучнямі перад Сваёй крыжовай сьмерцю, Ён растлумачыў ім, што Ён не пакіне іх духоўнымі сіротамі, але прыйдзе як Дух Сьвяты, каб жыць у іх (Іаан. 14:16-17). У шаснаццатым разьдзеле Евангельля Іаана запісаны такія словы Хрыста: «Лепей для вас, каб Я пайду, бо калі Я не пайду, пашлю Яго да вас» (Іаан. 16:7). Хрыстос сказаў, што Дух Сьвяты, прыйшоўшы, пакажа ім Хрыста, хто Ён такі, і навучыць нас Божай праўды (Іаан.

16:13-14 і 14:26). І так яно і ёсьць. Хрыстос жыве ў Сваіх дзецях як Дух Сьвяты.

Як веруючы павінен ставіцца да Духа Сьвятога? Ясна, што адносіны з Ім павінны быць вельмі блізкімі. Апостал Павал дакладна адказвае на гэтае пытаньне ў Лістах да галатаў, эфесцаў і каласянаў. Мы прыпомнім тыя месцы ў згадаваных лістах і іхняе вучэньне дапаможа нам даведацца, як эфэктыўна змагацца са спакусамі.

У пятым разьдзеле Ліста да галатаў мы сустракаем такія словы: «Хадзіце Духам і пажаданьні цела ня будзеце выконваць» (Гал. 5:16). Ясна, што ўспомніўшы пажаданьні цела, апостал мае на ўвазе грэшныя цялесныя пажаданьні чалавека. Значыцца, калі мы будзем хадзіць Духам, то ня будзем паддавацца спакусам.

А што значыць «хадзіць Духам»? Слова «хадзіць» у гэтым карыстаньні трэба прыняць у сэньсе «жыць». Веруючы павінен жыць Духам. Жыць Духам – што гэта такое? З кантэксту ясна, што пад словам «Духам» апостал Павал мае на ўвазе Духа Сьвятога і Ягоную ролю ў жыцьці веруючага. Гэта наводзіць нас на наступнае пытаньне: што апостал у сапраўднасьці мае на ўвазе пад выразам «хадзіце Духам»? Багасловы наогул лічаць, што гэтым апостал Павал кажа, што веруючыя павінны жыць па заахвочваньні і ўмацоўваньні Духа Сьвятога. Дух Сьвяты ў веруючым заахвочвае і ўмацоўвае яго ў духоўным росьце, але веруючы таксама мае ролю: ён павінен праяўляць жаданьне лічыцца з вымаганьнямі Духа Сьвятога і быць паслухмяным Яго заахвочваньню і кіраваньню. У гэтым не павінны мы забыць, што веруючы ня толькі заахвочаны Духам Сьвятым, але таксама атрымлівае неабходную духоўную моц ад Яго на пасьпяховае хрысьціянскае жыцьцё. Калі гэта так, то ў ягоным жыцьці зьяўляюцца станоўчыя карысныя рысы характару, аб якіх піша апостал у пятым разьдзеле Ліста да галатаў. Гэтыя рысы апостал называе плодам Духа. Усё гэта пачынаецца з таго, што веруючы «ходзіць Духам». А

хто ходзіць Духам, як мы ўжо чыталі, той не выконвае пажаданьняў цела. Ці вы, дарагі чытач, ходзіце Духам? Ці лічыцеся з Ім? Ці дазваляеце Яму заахвочваць і ўмацоўваць вас? Хто так робіць, той перамагае над спакусамі.

Быць заахвочаным, умацаваным Духам і паслухмяна лічыцца з Ім недастаткова. У Лісьце да эфесцаў апостал Павал дадае яшчэ нешта іншае. У пятым разьдзеле мы чытаем яго такія словы: «Не ўпівайцеся віном, бо ў ім распуста, але напаўняйцеся Духам, гаворачы ад сябе псалмамі, гімнамі і песьнямі духоўнымі, пяючы Госпаду ў сэрцах вашых, дзякуючы заўсёды і за ўсё Богу і Айцу ў імя Госпада нашага Ісуса Хрыста, пакараючы сябе ўзаемна ў страху Божым» (Эфес. 5:18-20). Верую чы, які жадае і шукае перамогі над спакусамі, павінен стала напаўняцца Духам Сьвятым. Апостал кажа, што напаўненьне Духам у некаторым сэньсе падобна да ўпіваньня віном, менавіта ў тым сэньсе, што ў абодвух выпадках чалавек знаходзіцца пад кантролем і ўплывам іншай сілы. Упіваньне алкагольным напіткам, зразумела, вядзе чалавека да паганых вынікаў — да распусты, як піша апостал. А напаўненьне Духам Сьвятым прыносіць якраз супрацьлеглыя вынікі: лагоднасьць, радасьць і ўдзячнасьць Богу. Пад уплывам Духа Сьвятога чалавек жыве спакойным спосабам жыцьця ў лагоднасьці з іншымі людзьмі.

Як можам мы напаўняцца Духам Сьвятым? Мы напаўняемся Ім тады, калі рэгулярна сустракаемся з Госпадам, чытаем Яго Слова і молімся Яму, просячы Яго напаўненьня. Чым больш мы ўважна чытаем Біблію, сваё жыцьцё прыстасоўваем да яе вучэньня, молімся ды расьцём духоўна, тым больш Дух Сьвяты напаўняе нас, што і праяляецца ў нашых паводзінах. Напоўнены Духам чалавек атрымоўвае неабходную моц, каб змагацца са спакусамі і не паддавацца ім. Гэты працэс напаўненьня Духам ніколі не спыняецца. Ён павінен паўтарацца штодня, калі мы сустракаемся з Госпадам і такім чынам духоўна разьвіваемся. Як вераю мы прынялі Хрыста за Збавіцеля і Госпада, так і вераю мы

напаўняемся Духам. Калі просім у Бога гэтага напаўненьня, павінны мы верыць, што Ён і адкажа на нашую просьбу. А гэтае напаўненьне праяўляецца тым, што мы пасьпяхова змагаемся з грахом і спакусамі ды лагодна адносімся да іншых людзей, з якімі жывём і бываем у кантакце.

Наконт пытаньня нашых адносін да іншых людзей мы знаходзім цікавыя словы ў трэйцім разьдзеле Ліста да каласянаў, дзе апостал паўтарае думку, што веруючыя могуць падбадзёрваць адзін аднаго псалмамі і духоўнымі песьнямі ды праслаўляць Бога. Больш за тое, веруючыя, напоўненыя Духам, праяўляюць асаблівую лагоднасьць у сваіх адносінах да іншых людзей: «Няхай у сэрцах вашых пануе мір Божы, да якога вы і пакліканы ў адным целе, ды будзьце ўдзячнымі. Слова Хрыстова няхай усяляецца ў вас багата з усякай мудрасьцю; навучайце і настаўляйце адзін аднаго псалмамі і гімнамі і духоўнымі песьнямі, у ласцы сьпяваючы ў сэрцах вашых Госпаду... Жонкі, слухайцеся мужоў вашых... мужы, любіце жонак сваіх... дзеці, будзьце паслухмянымі бацькам... айцы, не раздражняйце дзяцей вашых... рабы, ва ўсім слухайцеся паноў... паны, аддавайце слугам належнае і справядлівае» (Кал. 3:15-4:1).

## БОЖАЕ ПАКАРАНЬНЕ І ВЫПРАБАВАНЬНЕ

Дагэтуль мы цікавіліся спакусамі, якія прыходзяць ад цела, шатана і сьвету. Цесна зьвязана з гэтым той факт, што некаторыя спакусы прыходзяць да нас з Божым дазволам, як пакараньне ці выпрабаваньне нашае веры. Як гэта зразумець і якую вагу такія спакусы маюць для нас у духоўным разьвіцьці?

Біблія вучыць, што веруючыя ня вызвалены ад жыцьцёвых цяжкасьцяў і што Бог часта карыстаецца імі для пакараньня нас ці выпрабаваньня нашай веры. Калі прыходзяць моманты пакуты, мы часта пытаемся, чаму Бог дапускае цяжкасьці ў нашым жыцьці? Слова Божае сьцьвярджае, што Гасподзь дазваляе цяжкасьці з той мэтай, каб

узмацніць нас у веры і зрабіць нас духоўна сьпелымі і разьвітымі людзьмі. У такія моманты мы можам спакусіцца ў выніку нашай няверы. Інакш кажучы, мы можам не паверыць, што Гасподзь выпрабоўвае нас і мы можам паскардзіцца Богу, думаючы, што Ён пра нас ня дбае.

Слова Божае навучае, што Бог сапраўды карае Сваіх дзяцей. Так мы чытаем у дванаццатым разьдзеле Ліста да яўрэяў: «Каго Гасподзь любіць, таго Ён карае ды б'е ўсякага сына, якога прымае» (Яўр. 12:6). У дванаццатым разьдзеле далей пішацца, што калі Бог не карае Сваіх дзяцей, то яны не сапраўдныя Яго дзеці. Нехта напісаў, што Бог ужывае жыцьцёвыя цяжкасьці і посьпехі дзеля таго, каб з нас зрабіць жывыя камяні ў Сваім духоўным храме. Няшчасьце, няўдачы, хвароба, расчараваньне, гора, сьмерць блізкіх – вось гэта сродкі ў руках Бога-Дойліда.

Перанесьці кару ніколі не бывае лёгка, бо ад цяжкасьцяў мы адчуваем боль. Аўтар Ліста да яўрэяў мяркуе гэтае пытаньне і кажа, што мы павінны памятаць, як нашыя бацькі каралі нас, калі заўважалі, што ня так робім, як трэба. Бог таксама бачыць, як мы жывём, і заўважае кожны наш няправільны ўчынак. Таму Ён і можа пакараць нас, калі мы сходзім са шляху праведнасьці. Аўтар Ліста да яўрэяў прызнае, што «ўсякае ж караньне ў цяперашні час здаецца нам ня радасьцю, а сумам», але заўсёды трэба мець на ўвазе і не забываць, што кара дае навучаным «мірны плод праведнасьці» (Яўр. 12:11).

Цяжкасьці і непрыемнасьці прымушаюць нас папытацца ў Госпада, чаму мы іх перажываем? Можа якраз у нас ёсьць нейкі грэх, у якім мы не паспавядаліся. Бог магчыма паслаў нейкую цяжкасьць, каб прабудзіць нас да гэтага факту. Але часамі ў нас ніякага граху няма. Гасподзь дапускае цяжкасьць у нашае жыцьцё з той мэтай, каб выпрабаваць нашу веру і ўзмацніць яе. Калі веруючы, які Бога слухаецца, пераносіць цяжкасьць ці пакуту, ён тым больш спадзяецца на Божае ўмацаваньне, што і дапамагае яму

разьвіваецца ў сьвятасьці. Якраз тое ж і піша аўтар Ліста да яўрэяў: «Калі нас каралі бацькі цела нашага і мы баяліся іх, то ці ня значна болей мы павінны скарыцца Айцу духаў, каб жыць? Бо тыя каралі па волі сваёй на няшмат дзён, а Гэты – на карысьць, каб быць нам удзельнікамі Яго сьвятасьці» (Яўр. 12:9-10).

Ня ведаю, ці вы калісьці назіралі за тым, як матылёк выходзіць з кокана. Звычайна ягоны выхад адбываецца з вялікай цяжкасьцю і намаганьнямі. Расказваецца, што хтосьці аднойчы знайшоў кокан, у якім матылёк стараўся выйсьці праз шчыліну. Ён змагаўся на працягу некалькіх гадзін, але ніяк ня мог прасунуць усё сваё цела. Чалавеку, які назіраў за гэтым доўгім працэсам, здалося, што нешта не ў парадку. Ён рашыў «дапамагчы» матыльку: нажніцамі ён парэзаў ніткі, якія трымалі часткі кокана разам і не дазвалялі матыльку вылезьці. Без далейшай цяжкасьці матылёк вылез. Ягонае цела было распухлым, а крылы – малюсенькімі. Чалавек думаў, што за некалькі гадзін крылы расшырацца і матылёк пачне лятаць, але так ня здарылася. Ён, відаць, перастаў разьвівацца, бо толькі цягнуўся сюды-туды на працягу некалькіх гадзін, а праз дзень здох. Выходзіць, што ніткі на кокане і маленькая шчыліна ў канцы кокана неабходныя матыльку, каб яму насілу праціснуць жыцьцёвую моц у крылы. Найгоршае, што чалавек можа зрабіць – гэта парэзаць ніткі ды расшырыць шчыліну ў кокане.

Так бывае і ў хрысьціянскім жыцьці. Бог дапускае цяжкасьці ў нашым жыцьці і часамі нам здаецца, што Ён пра нас ня рупіцца і нам не дапамагае. Аднак у сапраўднасьці Ён дазваляе непрыемныя рэчы ў нашым жыцьці, каб яны паслужылі для нашага дабра, хаця ў момант пакуты мы, спрамагчыма, гэтага ня бачым і поўнасьцю не разумеем. Справа ў тым, што калі б Бог, так сказаць, «парэзаў ніткі», якія ціснуць нас, мы страцілі б магчымасьць навучыцца цярпеньня і спадзяваньня на Госпада Бога і ў сьвятасьці не разьвіваліся б. Апостал Іакаў напісаў: «З вялікай радасьцю

прымайце тое, браты мае, калі трапляеце ў розныя цяжкасьці, ведаючы, што выпрабаваньне вашае веры вытварае цярплівасьць» (Іак. 1:2-3).

Як ужо было сказана, у справах выпрабаваньня мы можам памыліцца, прыходзячы да высновы, што Бог пра нас забыўся і ня дбае. Гэтым мы можам спакусіцца. Выпрабаваньне можа або аддаліць нас ад Бога, або прыблізіць нас да Яго. Уся справа залежыць ад таго, як мы рэагуем на перажываньні, якія нас спасьцігаюць. Ці мы адмаўляемся прыняць іх як выпрабаваньні ад Госпада Бога, таму і змагаемся супраць усяго непрыемнага? Калі так робім, дык памыляемся і гэта садзейнічае нашаму духоўнаму падзеньню. Хто з нас гэтага жадае?

А калі мы прымаем цяжкасьці, як выпрабаваньні, дапушчаныя Богам для нашага дабра, дык гэтым мы навучаемся, як пераносіць непрыемнасьці і ўмацоўвацца ў веры. Не забудзьма сказанага апосталам Паўлам, што ўсё, што здараецца ў жыцьці, адбываецца для нашага дабра, калі мы любім Госпада і пакліканы Ім (Рым. 8:28). Кожны раз, калі мы пераносім цяжкасьць, трэба прасіць у Бога моцы вытрываць да канца і вучыцца ад перажытага. Мы павінны прыняць кару, як Божую дысцыпліну, застацца пакорлівымі Богу і навучыцца цярплівасьці і вытрыманасьці. У чатырнаццатым разьдзеле кнігі Дзеяньняў апосталаў мы чытаем, што апостал Павал і яго супрацоўнік Варнава праходзілі праз Лістру, Іконію і Антыёхію, умацоўваючы веруючых у веры і заклікаючы іх трываць у ёй, бо «праз шмат мукаў трэба нам увайсьці ў Царства Божае» (Дзеянь. 14:22).

Апостал Пётр паўтарае гэтую думку, калі піша, што веруючыя павінны дзеля Бога пераносіць пакуты ад нядобразычлівых людзей. Бог бачыць, калі Яго дзеці пераносяць несправядлівасьці ад зласьлівых людзей. Яму нават падабаецца, калі веруючыя нявінна пакутуюць, але тымі ж меркамі не адказваюць сваім крыўдзіцелям. Апостал Пётр кажа, што веруючыя былі пакліканы да жыцьця ў пакутах, і доб-

рым прыкладам гэтага быў Ісус Хрыстос (1 Пятр. 2:18-23). А за ўсякае несправядлівае пакутаваньне нам абяцана вялікая ўзнагарода, якую дасьць Гасподзь у вечным жыцьці. Дык вось калі даводзіцца вам, дарагі верyючы чытач, пакутаваць, ці то будзе фізічная пакута ці несправядлівае прасьледаваньне ад злых людзей, ня трацьце веры. Верце Богу і Ён у сваім часе ўзнагародзіць вас за ўсё, перажытае на зямлі дзеля Яго (Лук. 6:23-24; Яўр. 10:32-34).

## РАЗЬДЗЕЛ ВОСЬМЫ:
## ЦІ ХРЫСТОС – УЛАДАР МАЙГО ЖЫЦЬЦЯ?

Евангельскія веруючыя часта гавораць пра неабходнасьць усім людзям увераваць і прыняць Ісуса Хрыста за свайго асабістага Збавіцеля і Госпада. Што гэта значыць? Гэта значыць, што для атрыманьня вечнага жыцьця кожнаму чалавеку трэба вераю прызнаць, што Ісус Хрыстос – бязгрэшны Сын Божы, Які памёр ахвярнай сьмерцю за нашыя грахі. Да таго ж, кожнаму з нас трэба адкрыць сваё сэрца Хрысту, каб Ён мог увайсьці ў яго як наш асабісты і адзіны Збавіцель. Але гэта ня ўсё. Мы, евангельскія веруючыя, таксама падкрэсьліваем, што кожны чалавек павінен прыняць Ісуса Хрыста за свайго асабістага Госпада. Гэта значыць, што, прымаючы Хрыста за асабістага Збавіцеля, мы таксама павінны прыняць Яго за найгалоўнейшага Правадыра і Уладара нашага жыцьця. На жаль, у некаторых выпадках чалавек прымае Ісуса Хрыста за Збавіцеля, але ў хуткім часе забываецца на тое, што сапраўднае прыняцьце Хрыста за Збавіцеля таксама абазначае прыняцьце Яго за Госпада Уладара. Калі веруючы не дае Хрысту права ці магчымасьці кіраваць ягоным жыцьцём, то ў духоўным жыцьці ён перастае расьці, гэта значыць ён становіцца бясплодным і зусім бескарысным для Бога. Шкада, калі гэтак здараецца, бо веруючы ў такім стане шмат што траціць. Хрысьціянскае жыцьцё такому свавольнаму хрысьціяніну бывае нярадасным і цяжкім. Бог таго не жадае і не дае Сваім дзецям. Яго воля ў тым, каб яны давалі Яго Сыну першае і пераважнае месца і ў выніку таго атрымлівалі Божыя блаславеньні.

Пытаньне Хрыстовага́ кіраўніцтва ў жыцьці веруючага надта важнае і ў залежнасьці ад таго, як веруючы ставіцца да гэтага пытаньня, ягонае жыцьцё становіцца або карысным, або бескарысным для Божага Царства. Увераваньне

і прыняцьце Ісуса Хрыста ў сэрца адбываецца раз у жыцьці, а жыцьцё пад Хрыстовым кіраўніцтвам працягваецца штодня ажно да сьмерці. Каб жыць пад заўсёдашнім кіраўніцтвам Ісуса Хрыста, трэба быць паслухмяным Яму ва ўсіх пытаньнях і ўчынках. Толькі такім спосабам мы паказваем, што Ён ня толькі для нас Збавіцель, але таксама Гасподзь Уладар. «Хто мае запаведзі Мае і выконвае іх, – сказаў Хрыстос, – той любіць Мяне, палюбіць яго Айцец Мой, і Я палюблю яго і Сам зьяўлюся яму» (Іаан. 14:21). Евангеліст Лука запісаў словы, якія сьведчаць пра тое, што Хрыстос патрабуе нашае поўнае паслухмянасьці: «Калі хто хоча ісьці за Мною, няхай адрачэцца ад самога сябе, няхай штодня возьме крыж свой і ідзе за Мной» (Лук. 9:23).

Быць паслухмяным Хрысту не заўсёды лёгкая справа, бо мы змагаемся са сьветам, д'яблам і пажадлівасьцямі ўласнага цела. Хто з нас не сустракае жыцьцёвых спакус? І кожны раз трэба паслухаць Хрыста, зрабіць тое, чаго Ён патрабуе, і спакусе не паддацца. Але ў жыцьці часта выходзіць так, што мы Хрысту не даём першага месца, Яго ня слухаемся, таму і паддаёмся спакусе і гэтым грашым. Або Хрыстос займае самае галоўнае месца ў нашым жыцьці, або нашае вялікае «Я», гэта значыць наша старая грэшная натура. Каб жыць правільным хрысьціянскім жыцьцём, Ісус Хрыстос павінен мець у нас сапраўдны аўтарытэт.

Але ці ж гэтым мы кажам, што веруючы мусіць жыць бязгрэшным, дасканалым жыцьцём, каб быць прынятым Богам і Хрыстом? Не. Ня ў тым справа. Пасьля прыняцьця Хрыста за Збавіцеля і Госпада мы час ад часу грашым, бо нашая грэшная натура застаецца ў нас. Бываюць моманты, калі мы даём перавагу грэшнай натуры і Хрыста ня слухаемся, таму і чынім правіннасьць. Багаслоў Іаан падкрэсьлівае, як мы памыляемся, калі сьцьвярджаем, што ня грэшым. Усе мы грэшым, і для дараваньня грахоў трэба паспавядацца ў іх перад Госпадам Богам і далей іх не ўчыняць (1 Іаан. 1:8-9). Тым ня менш, паводле жыцьцёвага

прынцыпу веруючы мусіць жыць пад Хрыстовым кіраўніцтвам і ў выніку таго менш грашыць. Хрысту мы заўсёды павінны даваць першае і самае галоўнае месца ў сэрцах і жыцьці. Калі Ён не найважнейшая асоба для нас, дык мы толькі ашукваем сябе, лічачы, што Ён кіруе намі ў нашых намерах і ўчынках. Дарагія браты і сёстры, гэтак не павінна быць з намі? Будзем даваць Хрысту першае месца ў нашых сэрцах, каб Ён мог панаваць у ім і кіраваць усімі крокамі нашага жыцьця.

## ХРЫСТОС – УЛАДАР УСЯГО І ЎСІХ

У Бібліі гаворыцца, што Ісус Хрыстос займае першае месца ў сусьвеце, і ў ёй паказаны некаторыя прычыны, чаму яно так.

Перш за ўсё, Бог Айцец паставіў Ісуса Хрыста Уладаром сусьвету. Апостал Павал аб гэтым піша ў другім разьдзеле Ліста да філіпійцаў: «Дзеля гэтага і Бог узвысіў Яго і даў Яму імя па-над усякае імя, каб перад імем Ісуса схілілася ўсякае калена нябесных, зямных і падземных, і каб усякі язык вызнаваў, што Ісус Хрыстос – Гасподзь для славы Бога Айца» (Філ. 2:9-11). Хаця многія не прызнаюць Хрыста за Госпада, але Ён Ім ёсьць. Біблія вучыць, што Бог яшчэ дае людзям магчымасьць пакаяцца ды прызнаць і прыняць Хрыста за Госпада і Збавіцеля. Але прыйдзе час, калі ўсе людзі, якія жылі на зямлі, прызнаюць Хрыста за Уладара сусьвету, як піша апостал Павал у Лісьце да філіпійцаў. Гэтую думку ён выдзяляе і падкрэсьлівае, пішучы да фесаланікійцаў. У чацьвёртым і пятым разьдзелах Першага ліста да фесаланікійцаў апостал тлумачыць, што неспадзявана для большасьці зямных насельнікаў Ісус Хрыстос зьявіцца дзеля таго, каб узяць Сваіх верных дзяцей да Сябе і асудзіць тых, хто Бога не баяўся і Яму не служыў. Апостал дадае, што гэты «дзень Гасподні» прыйдзе, як злодзей уначы, гэта значыць зусім неспадзявана для

тых, хто Бога і Хрыста ня ведаў, калі жыў на зямлі. А ў першым разьдзеле Другога ліста да фесаланікійцаў аўтар сьцьвярджае, што пры Сваім другім прыйсьці ў вялікай сіле з анёламі Хрыстос адплаціць тым, хто Бога не прызнаў і не пакарыўся патрабаваньням Евангельля. Яны будуць пакараны за сваю ганарлівасьць і непакорлівасьць, менавіта, вечнае гібеньне там, дзе Бога і веруючых ня будзе. Інакш кажучы, яны будуць вымушаны прызнаць Ісуса Хрыста за Уладара ўсяго сусьвету, але ўжо будзе запозна, каб раскаяцца і атрымаць шчасьлівае вечнае жыцьцё з Богам і Хрыстом (2 Фес. 1:7-10). Ці ж ня лепш прызнаць Хрыста Госпадам Уладаром цяпер, калі на гэта ёсьць час і магчымасьць? Бог ужо паставіў Хрыста Госпадам Уладаром сусьвету, таму і павінны мы Яго прыняць як нашага ўласнага Уладара і Правадыра жыцьця.

Затым Ісус Хрыстос мае права заняць першае месца ў нашых сэрцах, бо Ён стварыў сусьвет і цяпер кіруе ім. Апостал Павал апісвае колішнюю стваральную дзейнасьць і цяперашнюю падтрымліваючую ролю Хрыста ў сусьвеце так: «(Ён) – вобраз Бога нябачнага, Першынец усякага стварэньня, бо Ім створана ўсё, што на нябёсах і што на зямлі, бачнае і нябачнае: ці то пасады, ці дзяржавы, ці начальствы, ці ўлады – усё Ім і для Яго створана. І Ён перш за ўсё, і ўсё Ім стаіць. І Ён – галава цела, Царквы; Ён – пачатак, Першынец з мёртвых, каб быць ва ўсім першым» (Кал. 1: 15-18). З гэтых словаў вынікае даволі ясна тое, што Ісус Хрыстос займае кіруючае месца ў сусьвеце. Ня толькі Ён стварыў яго і ўсё, што існуе ў ім, але таксама Ён трымае сусьвет ў Сваёй руцэ і кіруе ўсімі сіламі, якімі існуюць і рухаюцца зямля і ўсе целы неабсяжнай прасторы. Нашае жыцьцё таксама залежыць ад Яго, як пацьвердзіў апостал Пётр, сказаўшы: «Ім мы жывём і рухаемся і існуем» (Дзеянь. 17:28). Сэрца нашае б'е па Яго распараджэньню. Бог Айцец і Бог Сын разам стварылі сусьвет, таму Яны абодва дас тойны нашага пакланеньня і поўнае паслухмянасьці.

## ІСУС ХРЫСТОС – ЗБАВІЦЕЛЬ ЧАЛАВЕЦТВА

У лістах апосталы ціраз заяўляюць, што Ісус Хрыстос – Збавіцель чалавецтва. Гэтым яны не сьцьвярджаюць, што Хрыстос неяк міжвольна становіцца Збавіцелем для кожнага чалавека, які нараджаецца на сьвет. Называючы Хрыста Збавіцелем чалавецтва, яны аб'яўляюць, што Бог Айцец паслаў у сьвет толькі аднаго Збавіцеля, Свайго ўласнага Сына, Ісуса Хрыста. Для атрыманьня вечнага жыцьця кожнаму чалавеку трэба асабіста навярнуцца да Хрыста, увераваць ў Яго, прызнаць Яго сапраўдным Збавіцелем ад Бога і прыняць Яго за свайго асабістага Збавіцеля. Ніхто іншы з людзей ня можа стацца Збавіцелем чалавецтва. Гэтая прывілея дадзена толькі Хрысту. Вось менавіта па гэтай прычыне апостал Пётр сказаў, што чалавек можа атрымаць збаўленьне толькі праз імя Ісуса Хрыста, бо другога імя для гэтай мэты няма і ня можа быць (Дзеянь. 4:12). Інакш кажучы, дараваньне грахоў і абяцаньне вечнага жыцьця даецца чалавеку таму, што ён навярнуўся да Хрыста і для свайго збаўленьня ўвераваў у Хрыстову ахвярную сьмерць. Увераваньне ў Хрыста як нашага адзінага і сапраўднага Збавіцеля тут жа зусім неабходна!

На якой падставе апосталы маглі ўсё гэта сказаць пра Хрыста? Яны ўсё гэта абвясьцілі пра Яго, абапіраючыся на тое, што Бог Айцец паставіў Свайго Сына Збавіцелем чалавецтва і адкрыў гэтую праўду ім, вучням Хрыстовым і апосталам Царквы (1 Іаан. 4:14). Не чалавек выбраў Збавіцеля, а Бог, наш Творца, таму і павінны мы, Ім створаныя істоты, слухацца Яго і згаджацца з тым, што Ён Сам устанавіў і адкрыў праз прарокаў і апосталаў.

Да таго ж, адзіным і сапраўдным Збавіцелем зьяўляецца Хрыстос таму, што Ён пражыў на зямлі бязгрэшным і маральна дасканалым жыцьцём. Сярод людзей ніхто іншы таго ня можа сказаць пра сябе. Толькі Хрыстос. Гэта асабліва важна, бо калі б Ён саграшыў, хаця б толькі адзін раз, дык трэба было б Яму памерці за Свой грэх. А апосталы сьведчаць, што Хрыстос сапраўды быў без аніякага граху,

таму і меў права ўзяць на Сябе грахі чалавецтва, гэтым робячы Сваю сьмерць на крыжы ахвярай за чалавечыя грахі. Апостал Пётр, напрыклад, так піша пра Хрыста: «Ён не зрабіў ніякага граху, і не было ўгодлівасьці ў вуснах Яго... Ён грахі нашыя Сам узьнёс у целе Сваім на дрэва (крыж)» (1 Пятр. 2:22-24). Апостал Павал затым тлумачыць так: «Бо Таго, Хто граху ня ведаў, Ён зрабіў за нас грахом, каб мы ў Ім сталіся праведнасьцю Божай» (2 Кар. 5:21). Інакш кажучы, Ісус Хрыстос стаўся ахвярай за нашыя грахі згодна з воляй Бога Айца. Бог Айцец прыняў ахвярную сьмерць Свайго Сына як адплату за чалавечыя грахі, таму ўсякі, хто верыць і прымае Хрыста за свайго асабістага Збавіцеля і верай прыстасоўвае Яго ахвярную сьмерць да самога сябе, апраўдваецца перад сьвятым і праведным Богам. Справа ў тым, што калі Хрыстос памёр для такой мэты, а потым нават уваскрэс з мёртвых, дык застаецца для кожнага чалавека адно: прызнаць Ісуса Хрыста Богам выбраным і пастаўленым Збавіцелем для чалавецтва і сапраўдным Госпадам Уладаром, прыняць Яго за свайго асабістага Збавіцеля і Госпада ды ва ўсіх справах слухацца Яго.

## ІСУС ХРЫСТОС – УЛАДАР ВЕРУЮЧАГА

Ісус Хрыстос стварыў сусьвет і стаўся Збавіцелем усяму чалавецтву, таму кожны чалавек павінен ня толькі прыняць Яго, але таксама і даць Яму першае месца ў сваім сэрцы. Інакш кажучы, Хрыстос павінен стацца Уладаром веруючага. Пішучы да веруючых у Рыме, апостал Павал напомніў ім, што для атрыманьня збаўленьня і апраўданьня чалавеку трэба вуснамі вызнаць Ісуса за Госпада і верай прыняць, што Бог уваскрэсіў Яго з мёртвых (Рым. 10:9-10). Многія багасловы лічаць, што ў апостальскія дні якраз перад прыняцьцем вадзянога хрышчэньня веруючыя вызнавалі Ісуса

Хрыста за свайго асабістага Збавіцеля і Госпада, гэта значыць яны публічна прызнавалі Яго за Уладара свайго жыцьця.

Ад Сваіх пасьлядоўнікаў Ісус Хрыстос чакае поўнае любові, адданасьці Яму і жыцьця паводле Яго волі. Ён аднойчы сказаў, як трэба ісьці ўсьлед за Ім: «Калі хто хоча ісьці за Мною, няхай адрачэцца ад самога сябе, няхай штодня возьме крыж свой і ідзе за Мною, бо хто хоча душу сваю зьберагчы, загубіць яе; а хто загубіць душу сваю дзеля Мяне, той зьберажэ яе» (Лук. 9:23-24).

Такія словы лёгка намі не прымаюцца. Паўтараць іх лягчэй, чымся выконваць. Адрачыся ад сябе і несьці свой крыж азначае, што нашыя асабістыя інтарэсы і жаданьні мы павінны паставіць на другое месца пасьля Хрыстовых. Калі ўзьнікае справа, пры якой нашае асабістае жаданьне супрацiўляецца Божай волі, мы павінны даць перавагу таму, чаго Гасподзь патрабуе ад нас, нават тады, калі нам з-за гэтага давядзецца перанесьці непрыемнасьці. Напрыклад, можа так стацца, што я жыву або працую з асобай, якая мне ня вельмі падабаецца. Цяжка мне быць прыхільным ёй. Як я павінен ставіцца да чалавека, з якім цяжка жыць? Так як прынята ў сьвеце: са злосьцю і раздражненьнем? Часта гэта лічыцца нармальнымі адносінамі, а ці яны адпавядаюць таму, што гаворыцца ў Слове Божым? Апостал Павал піша: «Адкіньце... гнеў, ярасьць, злосьць, лаянку, брыдкія словы... і апраніцеся... міласэрдзем, дабрынёй, ціхай мудрасьцю, ласкавасьцю, доўгацярплівасьцю, церпячы і выбачаючы адзін аднаму, калі хто да каго мае жаль. Як Хрыстос дараваў вам, гэтак і вы» (Кал. 3:8-13).

Куды лягчэй раззлавацца на таго, хто несправядліва абыходзіцца з намі, чымся спакойна цярпець і адносіцца да яго з хрысьціянскай любоўю і ласкавасьцю. Але апостал Пётр піша, што веруючы іменна так і павінен ставіцца да крыўдзіцеляў: «Бо падабаецца Богу, калі хто дзеля Бога пераносіць гора, церпячы несправядліва, бо што за пахвала, калі вы церпіце ды б'юць вас за благія ўчынкі? Але калі вы, робячы дабро і пакутуючы, церпіце, гэта падабаецца

Богу» (1 Пятр. 2:19-20). Хрыстос сказаў, што нам трэба адракацца ад сябе, гэта значыць адмаўляцца ад сваіх пачуцьцяў злосьці і непрыязнасьці. Бываюць такія моманты, калі нам даводзіцца цярпець несправядліва ад ворагаў. Хрыстос кажа, што мы павінны адносіцца да іх з любоўю і нават рабіць ім дабро і маліцца за іх (Маць. 5:44). Адракацца ад сябе і несьці свой крыж абазначае, што мы заўсёды павінны лічыцца з Божай воляй і не паддавацца сваім асабістым жаданьням, калі яны адрозьніваюцца ад Божых жаданьняў для нас.

Ісус Хрыстос аднойчы сказаў, што Ён прыйшоў на зямлю дзеля таго, каб даць людзям «жыцьцё з здабыткам» (Іаан. 10:10). Яго жыцьцё з здабыткам для нас часткова залежыць і ад меры нашае пакорлівасьці і адданасьці Яму і Яго кіраўніцтву ў нашым жыцьці. Хутчэй за ўсё нам самім хочацца кіраваць сваім жыцьцём, жыць паводле сваіх жаданьняў. Вось іменна гэтае імкненьне мы насьледавалі ад нашага прабацькі, Адама, і нам даводзіцца заўсёды змагацца з гэтым. Нават Хрыстос змагаўся з такой спакусай, але не паддаўся ёй, як сьведчаць Яго словы: «Я зыйшоў з неба не дзеля таго, каб чыніць Маю волю, але волю Айца, Які паслаў Мяне» (Іаан. 6:38).

Толькі Хрыстос застаўся паслухмяным Богу Айцу ва ўсіх пытаньнях і справах. Ён пражыў зямное жыцьцё ў поўнай пакорлівасьці Нябеснаму Айцу. Асабліва важна для нас тое, што Хрыстос перанёс тыя самыя спакусы, якія мы церпім, таму Ён і разумее нашы цяжкасьці ў аддачы саміх сябе Яму і Яго волі.

Калі нас турбуюць спакусы, трэба памятаць, што мы, веруючыя, належым Хрысту. Дзякуючы таму, што Ісус Хрыстос памёр за нас ахвярнай сьмерцю і гэтым выкупіў нас з-пад улады граху, мы цяпер павінны слухацца Яго. Так пацьвярджае апостал Павал: «Ці ня ведаеце, што целы вашыя храм Духа Сьвятога, Які жыве ў вас і Якога вы маеце ад Бога. Вы не свае; вы куплены за вялікую цану, таму праслаўляйце Бога ў целах вашых і ў душах вашых, якія нале-

жаць Богу» (1 Кар. 6:19-10). Бога мы праслаўляем толькі тады, калі аддаёмся Хрысту і слухаемся Яго як Уладара нашага жыцьця.

Даводзіцца прызнацца ў тым, што ў жаданьнях і ўчынках мы часта робім падобна да таго, як робяць няверуючыя, якія жывуць не для вечнасьці, але для цяперашняга жыцьця. Мы любім набываць сабе маёмасьць і багацьце. Усяму сваё месца, але мы памыляемся, калі замоцна трымаем набытае, не жадаючы падзяліцца ім з іншымі. Будучы пасьлядоўнікамі Хрыстовымі, мы такой схільнасьці не павінны мець і ні праяўляць яе. Евангеліст Лука перадае наступныя словы Хрыста, якія якраз гавораць пра гэта: «Кожны з вас, хто не адрачэцца ад усяго, што мае, ня можа быць Маім вучнем» (Лук. 14:33). Значыцца, Збавіцель ня хоча, каб мы занадта моцна зьвязваліся з уласнымі рэчамі і маёмасьцю ды гэтым страцілі духоўныя вечныя багацьці. Нашыя ўласныя рэчы і маёмасьць мусяць быць перададзены Яму для Яго карыстаньня і распараджэньня. Можа так стацца, што Гасподзь папросіць каго з нас поўнасьцю адрачыся ад усіх зямных багацьцяў дзеля таго, каб служыць толькі Яму ці быць місіянерам у іншай частцы сьвету. А можа Ён таго і не запатрабуе, але хоча, каб мы служылі Яму там, дзе цяпер працуем і жывём. Самае галоўнае – каб кожнае дзіця Божае разумела, што ягоныя ўласныя рэчы і маёмасьць належаць Госпаду Ісусу Хрысту і дадзены чалавеку ў карыстаньне для славы Божай. Час ад часу варта паставіць сабе і сумленна адказаць на пытаньне: ці я ўжываю ўсю маёмасьць, даручаную мне Богам, для Яго славы ці не? Калі не, дык трэба паспавядацца ў тым ды папрасіць Божага кіраўніцтва і дапамогі, каб выправіць нашую духоўную недасканаласьць.

Апостал кажа праўду, калі піша, што Бог «дае ўсё шчодра для нашае асалоды», але трэба мець на ўвазе, што якраз перад гэтым у лісьце ён таксама перасьцерагае багатых не ганарыцца сабою і не спадзявацца на сваё багацьце, якое ён называе «няпэўным» (1 Цім. 6:17). Зямное багацьце няпэўнае таму, што яно часовае: вечна яно ня будзе

існаваць. Усё нашае зямное багацьце мы пакінем і застануцца толькі нябачныя духоўныя каштоўнасьці, вынікі якіх мы будзем адчуваць усю вечнасьць. Сур'ёзна вазьмем пад увагу словы апостала Паўла, што «бачнае – часовае, а нябачнае – вечнае» (2 Кар. 4:18). Прысьвяцім усе нашы ўласныя рэчы Богу, каб Ён праз нас мог карыстацца імі для Сваёй славы, і гэтым спосабам мы здабудзем сабе вечныя духоўныя блаславеньні.

Мы паказваем, што Ісус Хрыстос Уладар нашага жыцьця яшчэ другім спосабам. Усе мы думаем пра сваю будучыню, таму складаем пляны аб тым, што будзем рабіць. І добра робім, калі плянуем. Але калі мы заяўляем, што Бог ёсьць Уладаром нашага жыцьця, дык трэба і прасіць Яго кіраваць нашым плянаваньнем. У чым заключаецца Яго воля для нас? Гэта перш за ўсё павінна цікавіць нас. У Прыказках Саламонавых мы чытаем: «Спадзявайся на Госпада ўсім сэрцам тваім і не абапірайся на розум твой. Ва ўсіх шляхах тваіх прызнавай Яго, і Ён накіруе сьцежкі твае» (Прык. 3:3-5).

Якую прафесію выбраць сабе? З кім ажаніцца ці за каго выйсьці замуж? Дзе жыць? Чым займацца ў вольны час? Вось такія і падобныя пытаньні мы ставім сабе, калі думаем і плянуем сваю будучыню. Веруючы, які дае Богу першае месца ў сваім жыцьці, зьвяртаецца да Яго ў малітве з такімі пытаньнямі, каб пазнаць Яго волю і выканаць яе. Гасподзь чуе і адказвае на такую малітву і ў свой час Яго воля адкрываецца веруючаму.

На жаль, часамі мы складаем свае пляны і робім тое, што самі хочам рабіць бяз Божага ўдзелу, ды прадстаўляем Госпаду нашыя жаданьні і просім Яго блаславіць іх. Калі такім спосабам прыходзім да Бога са сваімі намерамі, дык робім памылку. Бог хоча, каб Яго дзеці лічыліся з Яго воляй, бо Ён лепш за іх ведае, што ім патрэбна для шчасьлівага праведнага жыцьця. Хто спадзяецца на Бога, той знаходзіцца пад Яго апекай. Псалмасьпявак напісаў: «На Цябе спадзявацца будуць тыя, хто ведае імя Тваё, бо Ты не пакідаеш тых, хто шукае Цябе, Госпадзі» (Пс. 9:11).

## АДДАНЫ ХРЫСТУ ВУЧАНЬ

Мы ўжо пазнаёміліся з патрабаваньнямі Ісуса Хрыста да тых, хто хочаісьці ўсьлед за Ім і быць Яго сапраўдным вучнем. Збавіцель шукае пасьлядоўнікаў, якія поўнасьцю адданы Яму і Яго Царству тут на зямлі. Той, хто прымае Хрыста дзеля таго, каб пазьбегчы вечнай загубы, робіць істотную памылку. Прыняцьце Хрыста за Збавіцеля азначае і прыняцьце Яго за Госпада Уладара. Ён патрабуе ад Сваіх вучняў поўнай сумленнай адданасьці.

Праз Сваё Слова і Духа Сьвятога, Які жыве ў нашых сэрцах, Хрыстос час ад часу адкрывае нам, у якой справе мы не аддаёмся Яму, і выяўляе пажаданьне, каб мы зьмянілі сваё рашэньне адносна дадзенай справы. Ён гэта робіць не з тае прычыны, каб адабраць ад нас прыемнае, а каб даць нам нешта ў шмат разоў лепшае. Гэта выразна паказана ў апісаньні евангелістамі маладога багатага чалавека, які прыйшоў да Хрыста, хочучы даведацца аб унасьледаваньні вечнага жыцьця. Хрыстос паўтарыў некаторыя запаведзі, на тое малады чалавек адказаў, што ён ад юнацтва не парушаў ніводнай з іх. Збавіцель тут жа глянуў на яго і з глыбокай любоўю сказаў яму: «Аднаго табе не хапае: пайдзі ды ўсё, што маеш, прадай і раздай убогім, і будзеш мець скарб у небе; і прыходзь, ідзі за Мной, узяўшы крыж» (Марк. 10:21). Евангеліст Марк зазначае, што багаты чалавек, пачуўшы гэтыя словы, засмуціўся ды адышоў, бо быў надта багатым (Марк. 10:22). Хрыстос ведаў, што малады багатыр дбаў болей пра сваю сьвецкую маёмасьць і скарбы, чымся пра духоўнае нябеснае багацьце. Гасподзь закрануў дарагую ягонаму сэрцу справу. Гэта выявілася ў тым, як малады чалавек замаркоціўся і адышоў, не абмовіўшыся ані словам Хрысту. Багач не зразумеў, што Хрыстос прапанаваў яму куды лепшае блаславеньне: багацьце ў небе, вынікі якога будуць працягвацца і адчувацца ва ўсю вечнасьць. Якую вялікую памылку зрабіў малады багатыр!

Трэба памятаць: Хрыстос ведае, што найлепшае для кожнага з нас. Ён не абавязкова папросіць нас прадаць

сваю маёмасьць і атрыманыя грошы аддаць убогім, але на тое мы павінны быць гатовы, калі Гасподзь даў бы нам такі загад. Быць паслухмяным Хрысту ва ўсім неабходна тым людзям, якія жадаюць называцца і быць сапраўднымі пасьлядоўнікамі Хрыстовымі.

Дух Сьвяты адкрывае, калі ў нашым жыцьці нешта ня так, як павінна быць, і паказвае, якія з нашых жаданьняў трэба зьмяніць. Хаця не заўсёды лёгка аддаць усю нашую маёмасьць і ўласныя рэчы ў Яго распараджэньне і ва ўсім быць паслухмяным Яму, аднак мы мусім да гэтага імкнуцца незалежна ад таго, ці нам хочацца ці не. Мы як вучні Яго не павінны казаць, што ня маем сілы тое ці іншае прысьвяціць Збавіцелю. Чаму? Таму што ў нас жыве Дух Сьвяты, Які дапамагае нам рабіць правільныя выбары і рашэньні. Мы ніколі ня станемся такімі, якіх Бог хоча, калі не аддадзім Хрысту ўсе свае пляны і намеры ды не падпарадкуемся Яго волі і кіраўніцтву. Хрыстос сказаў: «Ніхто ня можа служыць двум панам; бо ці аднаго стане ненавідзець, а другога любіць, або аднаму пачне спрыяць, а другога занядбоўваць. Ня можаце служыць Богу і мамоне (багацьцю)» (Маць. 6:24). Або Збавіцель – Уладар нашага жыцьця, або нешта ці нехта іншы займае Яго месца ў нашым жыцьці. Інакш кажучы, веруючы павінен спадзявацца на Госпада Ісуса Хрыста, калі думае пра сваю будучыню і рашае, што і як рабіць. Ці вы, дарагі чытач, гэтак робіце?

## ПРАКТЫЧНЫЯ КРОКІ Ў СПРАВЕ НАШАЙ АДДАНАСЬЦІ ХРЫСТУ

Евангеліст перадае вельмі строгія словы, выказаныя Хрыстом адносна нашай адданасьці Яму: «Калі хто прыходзіць да Мяне і не ўзьненавідзіць бацьку свайго, і матку, і жонку, і дзяцей, і братоў і сясьцёр, а пры тым і само жыцьцё сваё, той ня можа быць Маім вучнем» (Лук. 14:26). Як гэтыя словы зразумець? Ці Збавіцель патрабуе,

каб мы сапраўды ненавідзелі родных і сваё жыцьцё? Я веру, што Ён ужыў слова «ўзьненавідзець» дзеля таго, каб падкрэсьліць думку, што Яго пасьлядоўнікі мусяць любіць Яго больш за ўсіх іншых і дарагіх ім людзей. Калі веруючы любіць каго-небудзь больш за Хрыста, дык гэтым ён не дае Збавіцелю першага і найважнейшага месца ў жыцьці. Словам, Збавіцель тады ня ёсьць сапраўдным Уладаром веруючага. Ісус Хрыстос не патрабуе, каб мы на самай справе ўзьненавідзелі родных і само жыцьцё, але каб мы любілі і былі паслухмяны Яму больш, чымся іншым людзям. Гэтым мы паказваем, што Ён – наш Уладар. На падставе ўсяе Хрыстовай навукі, якую мы знаходзім на старонках Евангельля, відаць даволі выразна, што Ён загадвае нам любіць родных і іншых людзей, нават і ворагаў, але найбольшую любоў мы павінны праяўляць Яму.

Якімі ж наяўнымі спосабамі можам мы паказваць, што любім Хрыста больш за ўсіх і што Ён займае першае месца ў нашым жыцьці, што Ён – сапраўдны Уладар нашага жыцьця? Дзеля гэтага мы прапануем наступныя крокі:

1. Рэгулярная сустрэча з Госпадам. Гэтае пытаньне мы ўжо абмеркавалі, але тут жа я хацеў бы паўтарыць думку, што мы паказваем сваю адданасьць Збавіцелю Хрысту, калі штодня сустракаемся з Ім чытаньнем Яго Слова і малітвай да Яго. Дзе толькі мы ні былі б, нам трэба прысьвяціць адпаведную частку дня асабістай сустрэчы з Госпадам. Падумайце толькі аб гэтым: калі б мы пакінулі есьці нармана ці елі б замала, дык пачалі б страчваць вагу і фізічна слабець. Веруючы павінен расьці ў духоўным жыцьці, а гэта адбываецца праз штодзённае чытаньне Слова Божага і праз малітву Збавіцелю. Аўтар Ліста да яўрэяў заахвочвае чытачоў пакінуць пачаткі Хрыстовай навукі – такія пытаньні як: пакаяньне ў грэшных учынках, увераваньне ў Бога, вучэньне аб хрышчэньнях, ускладаньні рук, уваскрэсеньні мёртвых і аб апошнім Божым судзе. Ён кажа, што трэба ісьці далей. Тыя, хто пакаяўся, увераваў у Бога і Хрыста ды атрымаў настаўленьне ў гэтых справах, павінны цяпер імк-

нуцца да хрысьціянскай дасканаласьці, як сьцьвярджае аўтар ліста (Яўр. 6:1-2). Інакш кажучы, мы не павінны заставацца духоўнымі малечамі, але разьвівацца і імкнуцца да духоўнай сьпеласьці. Гэта адбываецца ў нашым жыцьці, калі мы рэгулярна чытаем і вывучаем Слова Божае і сумленна молімся паводле Божай волі. Не забудзьма, што недастаткова толькі чытаць і вывучаць зьмест Бібліі. Трэба прыстасаваць вучэньне Сьвяшчэннага Пісаньня ў нашым штодзённым жыцьці, і з дапамогай Духа Сьвятога гэта магчыма, калі мы будзем прасіць Яго дапамогі і спадзявацца на Яго.

Сапраўдны пасьлядоўнік Ісуса Хрыста прысьвячае адпаведную частку дня чытаньню Слова Божага і малітве. Але гэта не якая-небудзь фармальнасьць. Пры чытаньні Бібліі і малітве веруючы сустракаецца са сваім Збавіцелем і Госпадам Хрыстом. У сшытку ён запісвае новыя праўды і настаўленьні, якія датычаць яго асабіста і якія трэба прыстасаваць да свайго жыцьця. Такая сустрэча можа працягвацца ад некалькіх хвілін да гадзіны ці нават больш часу. У малітве веруючы дзякуе Богу за ўсе блаславеньні, спавядаецца ў грахах і просіць Гасподняга кіраўніцтва і дапамогі ў тых справах, пра якія Бог загаварыў яму праз Сьвяшчэннае Пісаньне і Духа Сьвятога. Такім спосабам ён праводзіць час у прыемнай брацкай лучнасьці са сваім Збавіцелем і Госпадам, Ісусам Хрыстом.

2. Разьвіцьцё ў жыцьцёвай праведнасьці. Чытаньне і вывучэньне Слова Божага неабходна нам таму, што яно вядзе нас да праведнага жыцьця. Як ужо было сказана, Ісус Хрыстос становіцца Уладаром нашага жыцьця тады, калі мы пачынаем слухацца Яго. Чытаючы Яго Слова, мы даведваемся, у якіх справах мы паступаем толькі так, як асабіста нам падабаецца, але гэта не адпавядае Хрыстовай волі. Праз Слова Божае і Духа Сьвятога ў нас Збавіцель адкрывае нам, у чым мы не падпарадкуемся Яго волі. Даведаўшыся аб сваіх недахопах і правіннасьцях, мы мусім паспавядацца перад Збавіцелем у грахах і папрасіць Яго

моцы, каб у далейшым слухацца Яго і выконваць Яго волю.

Чалавек, адроджаны Духам Сьвятым, праяўляе большую непрыхільнасьць да граху і грэшнага жыцьця, чымся няверуючы. Некаторыя старыя грэшныя жаданьні, магчыма, застаюцца ў нас, але з дапамогай Духа Сьвятога, Які жыве ў нашых сэрцах, мы можам перамагчы іх. Апостал Павал напісаў, што грэх не павінен панаваць над намі, бо мы «пад Божай ласкай» (Рым. 6:14). Гэта значыць, што ў змаганьні з грахом Дух Гасподні нам дае сілу вытрымаць спакусу і не грашыць. Ласку мы тут жа прымаем у сэньсе Гасподняй дапамогі не паддавацца спакусам. У Лісьце да Ціта апостал успомніў Божую ласку і яе ролю ў жыцьці веруючага такімі словамі: «Зьявілася ласка Божая, якая прыносіць збаўленьне ўсім людзям, навучаючы нас адцурацца бязбожнасьці і сьвецкіх пажадлівасьцяў ды жыць цнатліва, праведна і пабожна ў цяперашнім веку» (Ціт. 2:11-12). Сапраўдны вучань Ісуса Хрыста заўсёды імкнецца да пабожнага жыцьця. Мы ня можам сьцьвярджаць, што Ісус Хрыстос ёсьць Уладаром нашага жыцьця, і адначасова сьвядома грашыць. Чым больш мы знаёмімся са зьместам і навукай Слова Божага, тым больш разумеем, што іменна трэба рабіць, каб расьці ў духоўным жыцьці і ўзмацняцца ў праведнасьці.

Сваёй чалавечай моцай мы ніколі не дасягнем сапраўднай праведнасьці. Вось таму і трэба нам спадзявацца на Духа Хрыстовага, Які жыве і дзейнічае ў нас. У сувязі з гэтым апостал Павал растлумачвае нашую адказнасьць перад Духам Сьвятым, каб жыць праведна. А гэта адбываецца не праз нашую ўласную моц або мудрасьць, а праз Божую. У Лісьце да эфесцаў мы чытаем: «І не ўпівайцеся віном, бо ў ім распуста, а напаўняйцеся Духам, павучаючы самі сябе псалмамі і гімнамі і песьнямі духоўнымі, пяючы і ўсхваляючы Госпада ў сэрцах вашых, дзякуючы заўсёды і за ўсё Богу і Айцу ў імя Госпада нашага Ісуса Хрыста» (Эфес. 5:18-19).

Што здараецца з чалавекам, які ўпіваецца віном? Ён страчвае ўладу над самім сабой. Ап'яненьне пераважна да-

водзіць да дрэнных вынікаў. Веруючаму забаронена гэтым займацца. Усё-такі паміж ап'яненьнем віном і напаўненьнем Духам Божым мы заўважаем падабенства. Як п'яніца знаходзіцца пад уладай алкаголю, так і веруючы павінен быць пад кіраўніцтвам Духа Сьвятога. Зразумела, напаўненьне веруючага Духам Сьвятым прыносіць куды лепшыя вынікі: радасьць, удзячнасьць, спакой і г. д.

У сувязі з гэтым пытаньнем адзначым яшчэ адну цікавую рэч. Дзеяслоў «напаўняйцеся» даецца ў загадным ладзе і незакончаным трываньні, і гэта паказвае, што веруючы напаўняецца Духам Божым ня толькі аднаразова, а шматразова. Інакш кажучы, мы штодня павінны прыходзіць да Духа Сьвятога, каб нанова напаўняцца Ім. Бяз Духа Сьвятога жыць праведным жыцьцём было б немагчыма. Вось чаму і павінны мы стала зьвяртацца да Яго. Калі мы будзем стала прыходзіць да Хрыста і прасіць, каб Ён напаўняў нас Сваім Духам, дык тое ж і збудзецца з намі.

Апрача таго, трэба і слухацца Духа Сьвятога. Пішучы да галацкіх веруючых, апостал Павал кажа: «Хадзіце Духам і пажадлівасьцяў цела вы ня будзеце выконваць» (Гал. 5:16). Што значыць «хадзіць Духам» ? Гэта жыцьцё пад кіраўніцтвам Духа Сьвятога. Інакш кажучы, мы слухаемся Яго. У восьмым разьдзеле мы ўжо закранулі гэтае пытаньне, але тут жа добра толькі яшчэ раз запытацца ў сябе: ці я часта прашу ў Хрыста напаўненьня Духам? Ці я жыву пад кіраўніцтвам Духа Сьвятога? Калі не, дык трэба паспавядацца перад Хрыстом і папрасіць Яго кіраўніцтва ў нашым жыцьці. Той, хто жыве пад кіраўніцтвам Духа Сьвятога ў паслухмянасьці Яму, праяўляе такія ўласьцівасьці характару як: любасьць, радаснасьць, памяркоўнасьць, доўгацярплівасьць, дабрыню, міласэрнасьць, даверлівасьць, ціхасьць, стрыманасьць. Апостал Павал называе такія якасьці характару пладом Духа (Гал. 5:22-23). А гэта нішто іншае, як праведнае жыцьцё паводле Божай волі.

3. Сьведчаньне пра Хрыста і збаўленьне у Ім. Ісус Хрыстос ня толькі заклікае няверуючых да ўвераваньня і прыняцьця Яго. Ён таксама заклікае веруючых да прапаведаваньня аб Ім сярод тых, хто Яго ня ведае. Большасьць няверуючых па некаторых прычынах Бібліі не чытае, таму пра Ісуса Хрыста і збаўленьне ў Ім яны могуць пачуць толькі ад веруючых, з якімі бываюць у кантакце. Адказнасьць за сьведчаньне пра Хрыста кладзецца на тых, хто спазнаў Яго і цяпер знаходзіцца ў блізкай лучнасьці з Ім. Сапраўдны пасьлядоўнік Хрыста заўсёды гатовы засьведчыць пра свайго Збавіцеля, калі зьяўляецца такая магчымасьць.

Якраз перад Сваім узьнясеньнем да Бога Айца ў неба Ісус Хрыстос сабраў вучняў і загадаў ім застацца ў Ерусаліме ды пачакаць зьяўленьня Духа Сьвятога. «Вы прымеце сілу, калі зыдзе на вас Дух Сьвяты, – сказаў Збавіцель, – І будзеце Маімі сьведкамі і ў Ерусаліме і ва ўсёй Іудзеі і Самарыі ды ажно па край зямлі» (Дзеянь. 1:8). І так сталася. У дзень Пяцідзесятніцы Дух Сьвяты зышоў на апосталаў і іншых веруючых, якія былі з імі, і моцай Духа яны пачалі расказваць пра Хрыста тым, хто амаль што нічога ня ведаў пра Яго. Апостал Пётр стаўся галоўным прапаведнікам і ў выніку ягонага казаньня аб Збавіцелю Хрысьце каля трох тысяч чалавек пакаялася, уверавала ў Яго ды прыняло сьвятое вадзяное хрышчэньне. Пасьля яны пачалі зьбірацца дзеля таго, каб слухаць тлумачэньні апосталаў пра Хрыста, маліцца і ўспамінаць Яго ахвярную сьмерць сьвяткаваньнем Вячэры Гасподняй. Як апосталы, так і навstaнаверненыя сьведчылі пра Хрыста і збаўленьне ў Яго імя тым, хто ня чуў пра Яго. За гэта тадышнія рэлігійныя ўлады пачалі прасьледаваць апосталаў. Яны забаранілі ім прапаведаваць пра Хрыста, а калі сьведкі Хрыста гэтай дзейнасьці не спынялі, дык апостал Пётр быў арыштаваны і пасаджаны ў турму. Бог праз анёла вызваліў яго, і ён з іншымі працягваў душапастырскую службу сярод духоўна галоднага народа. Праз некаторы час улады зноў пачалі пра-

сьледаваць іерусалімскіх хрысьціян і то так, што многія веруючыя, апрача саміх апосталаў, перасяліліся ў іншыя мясцовасьці Іудзеі і Самарыі.

Аўтар кнігі Дзеяньняў апосталаў, Лука, адзначае, што «тыя, што расьсеяліся, хадзілі і абвяшчалі Слова (Божае)» (Дзеянь. 8:4). Яны сталіся галоўнымі сьведкамі Ісуса Хрыста. Ня толькі апосталы і прапаведнікі абвяшчаюць Слова Божае і гэтым сьведчаць пра Хрыста і збаўленьне ў Ім, але і простыя звычайныя веруючыя карыстаюцца гэтай прывілеяй. Словы Хрыстовы, запісаныя ў Евангельлі паводле Мацьвея 28:19-20, датычаць ня толькі першых вучняў, але ўсіх пасьлядоўнікаў Ісуса Хрыста: «Ідзіце і навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца і Сына і Сьвятога Духа, навучаючы іх выконваць усё, што Я загадаў вам; і і вось Я з вамі ва ўсе дні да скканчэньня веку». Мы, сучасныя пасьлядоўнікі Хрыста, паказваем, што Збавіцель Хрыстос – Уладар нашага жыцьця, калі сьведчым аб Ім усім знаёмым, якія дагэтуль не навярнуліся да Яго для атрыманьня збаўленьня праз веру і паслухмянасьць Яму.

Апостал Пётр напісаў, што веруючыя заўсёды павінны быць гатовымі даць прадуманы адказ людзям, якія пытаюцца пра нашую хрысьціянскую надзею. Ён піша так: «Хрыста пастаўце за Госпада ў сэрцах вашых, з лагоднасьцю і глыбокай павагай заўсёды будзьце гатовымі даць адказ кожнаму, хто запытае вас пра вашу надзею» (1 Пятр. 3:15). Мы можам быць гатовымі даць прадуманы адказ двумя спосабамі: добрым асабістым сьведчаньнем аб дзеяньні Хрыста ў нашым жыцьці і падрыхтаваным тлумачэньнем сутнасьці евангельскай весткі і патрабаваньняў Евангельля да чалавека, які жадае стацца хрысьціянінам.

Апосталы былі першымі сьведкамі Ісуса Хрыста. Апостал Іаан піша, што ён і іншыя жылі і бачылі Хрыста. Тое ж, што яны даведаліся аб Ім, яны перадалі і нам. Вось Іаанавы словы: «Аб тым, што было спачатку, што мы чулі, што бачылі сваімі вачыма, што разглядалі і да чаго дакра-

наліся нашы рукі, аб Слове жыцьця... аб тым, што мы бачылі і чулі, абвяшчаем вам, каб і вы мелі лучнасьць з намі, а нашая лучнасьць з Айцом і Сынам Яго, Ісусам Хрыстом» (1 Іаан. 1:1-3). Апосталы перадалі тое, што даведаліся аб Хрысьце, ня толькі сваім сучасьнікам, але таксама і нам, сучасным веруючым. Хаця мы з Хрыстом не былі ў целе, мы маем ў Евангельлі верагоднае і дакладнае апісаньне Яго жыцьця, словаў і характару. Да таго ж, Хрыстос адкрыўся нам, калі мы аддаліся ды прынялі Яго. Ён зьмяніў нашае жыцьцё Сваёй моцай, якая цяпер знаходзіцца і дзейнічае ў нас. Інакш кажучы, мы пазналі Яго праз штодзённую лучнасьць з Ім чытаньнем Яго Слова і малітвай. Таму, як апосталы, так і мы можам расказаць іншым, якія ня ведаюць Яго, усё, што Ён зрабіў для нас асабіста і для тых, хто навярнуўся да Яго.

Мы можам засьведчыць іншым пра Хрыста, бо самі пазналі Яго ды адчуваем Яго дзейнасьць у нашым жыцьці. Добра падрыхтаваць кароткае слова сьведчаньня аб тым, як мы пазналі Хрыста, як Ён зьмяніў нас і даў нам новае жыцьцё. Сьведчаньне аб дзейнасьці Збавіцеля ў нашым жыцьці пакажа іншым, што мы гаворым не пра нейкія непрактычныя ўзвышаныя ідэалы, а пра надта практычныя і дзейсныя захады. Раскажыце няверуючаму, у якім духоўным стане вы былі перад тым, як сустрэліся з Хрыстом, як вы пачулі пра Яго і што здарылася з вамі, калі ўверавалі ды прынялі Яго. Раскажыце пра вынікі вашага навярненьня да Яго. Што менавіта зьмянілася ў вашым жыцьці пасьля прыняцьця Яго? Якое значэньне Ён мае для вас сёньня? У якіх справах жыцьця адчуваеце вы Яго дапамогу і ўзмацненьне? Абдумайце гэтыя пытаньні і складзіце з іх кароткае слова сьведчаньня аб Хрыстовай дзейнасьці ў вашым жыцьці.

Затым, будзьце гатовы растлумачыць няверуючым сутнасьць евангельскай весткі аб збаўленьні праз увераваньне і прыняцьце Збавіцеля Хрыста. Найлепш падрыхтаваць кароткае тлумачэньне, у якім вы ўпамінаеце такія пункты

як: Божую любоў да чалавека; нашу адарванасьць ад Бога з прычыны грахоў; ахвярную сьмерць і ўваскрэсеньне Хрыста; неабходнасьць пакаяньня, увераваньня, прыняцьця Хрыста як свайго асабістага Збавіцеля, вызнаваньня Яго за Госпада Уладара і вадзяное хрышчэньне. Для кожнага пункта давайце ключавыя біблейныя вершы, якія вылучаюць тое, што вы гаворыце. Ужываць біблейны тэкст у сьведчаньні пра Хрыста і Яго збаўленьне зусім неабходна таму, што Дух Сьвяты карыстаецца Словам Божым як мячом (Эфес. 6:17). У Лісьце да яўрэяў мы чытаем: «Слова Божае жывое і дзейснае ды вастрэйшае за ўсякі меч двухбакававостры; яно пранікае нават да разьдзяленьня душы і духа, суставаў і мазгоў, і судзіць думкі і намеры сэрца» (Яўр. 4:12).

Раю пераглядзець першы разьдзел гэтай кнігі, дзе даюцца самыя галоўныя пункты евангельскай весткі і патрабаваньні для атрыманьня збаўленьня праз веру і паслухмянасьць Хрысту. Варта было б і глыбей спазнаць зьмест другога разьдзела кнігі, бо ў ім падрабязьней растлумачваюцца тыя самыя пункты. Вядома заўсёды трэба быць гатовым да растлумачэньня евангельскай весткі. Таму раю вам або вывучыць на памяць галоўныя пункты з іхнімі адпаведнымі біблейнымі тэкстамі, або запісаць іх на паперы і трымаць пры сабе, каб пры нагодзе перадаць іх тым, хто цікавіцца Евангельлем. Але перад тым, як гаварыць з няверуючым аб Хрысьце і збаўленьні ў Яго імя, добра і карысна памаліцца, каб Дух Сьвяты ўжо загадзя дзейнічаў у ягоным сэрцы. Хрыстос сказаў, што Дух Сьвяты адкрывае і абвінавачвае сьвет у граху, праўдзе і судзе (Іаан. 16:9). Гэта Яго роля, дадзеная Богам Айцом, таму і павінны мы спадзявацца на Духа Сьвятога ў гэтай справе.

Пры сустрэчы з няверуючым папрасіце ў яго дазволу растлумачыць, што Біблія гаворыць пра Божае збаўленьне для чалавека і як яго можна атрымаць. Растлумачце яму галоўныя пункты евангельскай весткі і патрабаваньні Слова Божага ў навярненьні чалавека да Хрыста. Згодна з на-

перад абдуманым вамі плянам растлумачце евангельскую вестку коратка, ясна і бяз лішніх затрымак. Не забудзьце даць вашаму размоўцы магчымасьць зьвярнуцца да Хрыста ў малітве, калі вам ясна, што ён да гэтага гатовы і праяўляе жаданьне. Ён можа за вамі паўтарыць простую малітву, у якой выказваецца ягонае пакаяньне ў грахах і веру ў Хрыста ды прыняцьце Яго за Сына Божага, Збавіцеля і Госпада Уладара.

Што рабіць, калі няверуючы нейкім пытаньнем затрымае вас у тлумачэньні? Мая прапанова такая: ацаніце ягонае пытаньне, ці мае яно першараднае ці другараднае значэньне для галоўных пунктаў евангельскай весткі або пляна збаўленьня, які вы растлумачваеце яму. Калі значэньне пытаньня першараднае, дык пастарайцеся адразу адказаць на яго. А калі яно другараднае, дык папрасіце ў размоўцы дазволу адкласьці адказ на паднятае пытаньне да канца вашага тлумачэньня. Такім чынам вы перадасьце галоўныя пункты евангельскай весткі і пляна збаўленьня. Скончыўшы тлумачэньне, трымайце дадзенае слова. Дайце размоўцы магчымасьць паставіць пытаньні адносна таго, што вы сказалі яму. Колькі зможаце, пастарайцеся адказаць на іх. Калі вы самі ня ведаеце, як правільна адказаць на зададзеныя пытаньні няверуючым, скажыце яму, што вы цяпер ня маеце адказу, але перадумаеце паднятую ім справу і ў свой час пастараецеся адказаць на яе.

Напрыклад, няверуючы можа паставіць вам пытаньне пра сёньняшняе вучэньне наконт эвалюцыі. У сапраўднасьці гэта другараднае пытаньне, калі вы перадаяце галоўныя пункты евангельскай весткі і пляна збаўленьня. Лепш адкласьці адказ да канца вашага тлумачэньня. Перадаўшы галоўныя пункты евангельскай весткі, вы можаце адказаць на пытаньне размоўцы аб эвалюцыі і стварэньні чалавека. (У такім выпадку я растлумачыў бы яму, што тэорыя эвалюцыі складзена з цэлага шэрагу недаказаных дапушчэньняў, і кораценька растлумачыў бы біблейнае вучэньне аб Божым стварэньні сусьвету і жыцьця). Такім спосабам вы перадась-

це няверуючаму галоўныя вучэньні евангельскай весткі і патрабаваньні чалавеку ў прыняцьці збаўленьня, але таксама зьвернеце ўвагу і на пытаньні, пастаўленыя размоўцам.

Трэба тут жа дадаць яшчэ адно слова. Растлумачыўшы плян збаўленьня, як ужо было сказана, веруючы можа і павінен даць размоўцы магчымасьць зьвярнуцца да Хрыста ў малітве. Ён можа на гэта згадзіцца або не згадзіцца. Мы павінны быць чулымі да гэтага. Ці пажадае размоўца памаліцца ці не – гэта залежыць ад яго самога. Сваімі аргументамі веруючы не павінен прымушаць няверуючага навярнуцца да Бога і Хрыста. Веруючы толькі можа запрасіць яго да малітвы і ўвераваньня ў Хрыста. Калі на гэта размоўца не згаджаецца, бо або ня хоча, або не гатовы прыняць Хрыста за свайго асабістага Збавіцеля і Госпада, дык проста падзякуйце яму за ўвагу і скажыце, што вы будзеце маліцца за яго. А калі ён пакажа, што хоча навярнуцца да Бога і Хрыста, дык, як ужо было сказана, вы можаце дапамагчы яму ў выказваньні простай малітвы пакаяньня і ўвераваньня. Адна такая малітва даецца ў канцы першага разьдзела гэтай кнігі. Пасьля малітвы размоўцы вы самі таксама можаце з ім памаліцца за яго.

4. Дапамога і служэньне іншым. Сталаму веруючаму даюцца магчымасьць і прывілея ня толькі прывесьці няверуючых да ўвераваньня ў Хрыста, але таксама дапамагчы нованаверненым у іхнім духоўным росьце. Мы памыляемся, калі лічым, што такая духоўная праца даручана толькі прапаведнікам і прэсьвітэрам. Хаця прапаведнікі і прэсьвітэры выконваюць вельмі важную ролю ў павучаньні нованаверненых, звычайныя сталыя веруючыя таксама адказны перад Госпадам за такую працу. У апостальскіх часах ня толькі апосталы, але таксама і звычайныя веруючыя сьведчылі аб Хрысьце, заклікалі людзей да Яго і дапамагалі нованаверненым усталёўвацца і ўзмацняцца ў веры. Як было ў апостальскія дні, так павінна быць і ў нашы часы: сталыя веруючыя абавязаны дапамагаць маладзейшым у веры расьці духоўна.

Калі дзіця нараджаецца на сьвет, бацькі яго не пакідаюць, каб яно само па сабе расло і ўзмацнялася. Даглядаць само сябе нованароджанае дзіця ня можа, і калі бацькі не пачнуць яго карміць і апранаць, то яно ў хуткім часе памрэ. Больш-менш тое самае мы можам сказаць пра нованаверненага. Без заклапочанасьці сталых веруючых нованавернены можа духоўна памерці. Калі ён навярнуўся да Хрыста і прыняў яго, дык быў духоўна адроджаны Духам Сьвятым. Гэтым чынам ён стаўся дзіцём у Хрысьце і цяпер мае патрэбу ў клапатлівай дапамозе сталага веруючага ці веруючых. Нехта сярод старэйшых веруючых павінен узяць гэтую адказнасьць на сябе і дапамагаць нованаверненаму ўзмацняцца ў веры. Прымаючы такую адказнасьць на сябе, сталы веруючы доказвае сваю паслухмянасьць Ісусу Хрысту і пацьвярджае, што Хрыстос сапраўды Уладар ягонага жыцьця.

Апостал Павал прадставіў, як евангельская навука пераходзіць з аднаго пакаленьня ў другое, калі напісаў да свайго маладога супрацоўніка, Цімафея, такія словы: «Сын мой, узмацняйся ў ласцы, якая ў Хрысьце Ісусе, і тое, што ты чуў ад мяне пры многіх сьведках, перадай верным людзям, якія былі б здольны і іншых навучыць» (2 Цім. 2:1-2). З гэтых словаў відаць, што сталыя спрактыкаваныя веруючыя павінны навучаць маладзейшых у веры. Мы ведаем, што ў апостальскія дні хрысьціяне мелі толькі старазапаветныя Сьвяшчэнныя Пісаньні , таму яны больш спадзяваліся на апосталаў і іхніх памочнікаў у спазнаньні евангельскай весткі і Хрыстовай навукі. Цяпер мы маем і карыстаемся апостальскімі запісамі, гэта значыць евангельлямі і лістамі апосталаў, і можа здацца, што ўсе веруючыя, у тым ліку і нованаверненыя, могуць самі разабрацца ў духоўных праўдах, чытаючы Біблію, і ў свой час такім спосабам дасягнуць хрысьціянскай сьпеласьці. На самай жа справе выходзіць нешта зусім іншае. Асабліва для нованаверненага шмат што ў Бібліі найчасьцей застаецца незразуме-

лым. У яго ўзьнікаюць усялякія пытаньні аб прачытаным і сталыя веруючыя маглі б даць правільныя адказы на іх.

Як сталы веруючы можа дапамагчы нованавернена му ў зразуменьні біблейнай навукі і ў ягоным духоўным росьце? Ён можа гэта зрабіць праз рэгулярныя сустрэчы з нованаверненым для сумеснага вывучваньня Бібліі, настаўленьня і малітвы. Часта так здараецца, што веруючы прыводзіць другога да Хрыста, а пасьля таго пакідае яго без далейшага духоўнага павучаньня і дапамогі ў хрысьціянскім росьце. Не забудзьма, што нованавернены – гэта нованароджанае дзіця ў Хрысьце, якому патрэбны клапатлівы догляд старшых, больш вопытных веруючых. Пры кожнай сустрэчы сталы веруючы можа задаваць нованаверненаму асаблівы біблейны тэкст для чытаньня і вывучэньня. Неабходна абодвум узгодніць, калі найлепш рэгулярна сустракацца. У пачатку можна спатыкацца раз у тыдзень ці часьцей, калі адчуваецца патрэба ў гэтым. Кожны раз нованавернены дома прачытвае і вывучае зададзены біблейны тэкст і пры сустрэчы са старшым веруючым ён абмяркоўвае прачытаны матэрыял. Старшы веруючы адказвае на пытаньні нованаверненага і яны разам моляцца адзін за аднаго. Яны вызначаюць да вывучэньня новы біблейны тэкст для наступнай сустрэчы. Вось такім спосабам сталыя веруючыя могуць і павінны дапамагаць маладзейшым веруючым і нованаверненым. Можа, дарагі чытач, вы ніколі ня думалі пра гэта і вам ўжо пара папрасіць у Госпада магчымасьці засьведчыць няверуючаму аб Хрысьце і, калі ён навернецца ды прыме Збавіцеля, дык ці ж не маглі б вы дапамагчы яму ў духоўным росьце? Калі мы жывём для іншых і дапамагаем ім разьвівацца ў духоўным жыцьці, у лучнасьці з Хрыстом і з іншымі веруючымі, дык гэта прынясе нам вялікую радасьць.

Справа ня толькі ў тым, што, калі мы дапамагаем іншым у іхнім духоўным росьце, мы служым ім, але і ў тым, што, робячы гэта, мы служым і ўсёй царкве. Калі мы слу-

жым іншым, дык робім так, як рабіў Сам Збавіцель. Пра Сябе Ён сказаў: «Сын Чалавечы прыйшоў не дзеля таго, каб Яму служылі, але каб паслужыць і аддаць душу Сваю дзеля адкупленьня многіх» (Марк. 10:45). Веруючы заўсёды павінен ужываць свае Богам дадзеныя здольнасьці на служэньне іншым у царкве. Ці вы гэтак робіце, дарагі чытач? Калі так, то слава Богу. А калі не, то ў малітве папрасіце, каб Гасподзь адкрыў Сваю волю адносна вашага жыцьця і служэньня. І калі станецца ясным, чым іменна вы павінны займацца ў Царкве Хрыстовай, дык слухайцеся Госпада. Гэтым вы пакажаце, што Хрыстос — сапраўдны Уладар вашага жыцьця.

# РАЗЬДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ:
# ПЛЁННАСЬЦЬ У ХРЫСЬЦІЯНСКІМ ЖЫЦЬЦІ

У Бібліі мы часта чытаем, што веруючаму трэба расьці духоўна. Напрыклад, у шостым разьдзеле Ліста да яўрэяў мы знаходзім такія словы: «Таму, пакінуўшы пачаткі Хрыстовага вучэньня, пасьпяшаймася да дасканаласьці, не кладучы зноў падставы дзеля пакаяньня ад мёртвых учынкаў і веры ў Бога, навукі аб хрышчэньнях, і аб ускладаньні рук, і аб уваскрэсеньні мёртвых і аб судзе вечным» (Яўр. 6:1-2). Прыняўшы Ісуса Хрыста за асабістага Збавіцеля і Госпада, мы павінны імкнуцца да хрысьціянскай дасканаласьці і сьпеласьці. Бог хоча, каб мы ў духоўным жыцьці расьлі і сталелі. Ён заклікае нас разьвівацца і ўдасканальвацца ў нашай лучнасьці з Госпадам Ісусам Хрыстом.

Да таго ж, Бог шукае тых, праз якіх Ён можа праявіць Сваю моц і ласку. У Старым Запавеце адзін прарок сказаў цару наступнае: «Вочы Гасподнія аглядаюць усю зямлю, каб падтрымліваць тых, чыё сэрца цалкам аддана Яму» (2 Лет. 16:9). Бог шукае мужчын і жанчын, якія давяраюцца Яму, ідуць усьлед за Ім і гатовы аддаць сваё жыцьцё за Яго. Ён шукае тых, чыё сэрца поўнасьцю належыць Яму, – тых, хто скажа: «Госпадзі, я гатоў служыць Табе. Я хачу быць Тваім сапраўдным сьведкам і служыцелем сярод маіх суседзяў, супрацоўнікаў, аднакласьнікаў і г. д. Адкрый мне Тваю волю, каб я мог выконваць яе».

Бог хоча, каб у нас было плённае хрысьціянскае жыцьцё. Ён хоча карыстацца намі і дапамагчы нам у служэньні іншым людзям у імя Хрыстова. Ён хоча, каб наша хрысьціянскае жыцьцё было шчасьлівым і мэтанакіраваным. Калі мы пастановім ня жыць згодна з Божай воляй, гэта значыць не паводле загадаў Слова Божага, дык мы страцім шчасьце, духоўную перамогу над грахом і блаславеньні поўнага і шчасьлівага хрысьціянскага жыцьця. Бог тады ня зможа карыстацца намі ў закліканьні і прывядзеньні няверуючых

да Ісуса Хрыста. Бог хоча, каб усе мы, якія ведаюць Яго асабіста, былі ўдзельнікамі ў распаўсюджваньні евангельскай весткі па ўсім сьвеце. А дзеля таго трэба разьвівацца ў блізкай лучнасьці з Госпадам. Вось чаму ў канцы свайго другога ліста апостал Пётр заклікае веруючых узрастаць у ласцы і пазнаньні Госпада і Збавіцеля Ісуса Хрыста (2 Пятр. 3:18). Гэтае духоўнае ўзрастаньне неабходна дзеля таго, каб нам стацца карыснымі Госпаду.

Бог дае нам неабходную моц і мудрасьць для пабожнага жыцьця. Апостал Пётр кажа, што «Божай сілай дадзена нам усё патрэбнае для жыцьця і пабожнасьці праз пазнаньне Таго, Хто паклікаў нас Сваёй славай і дабрынёй» (2 Пятр. 1:3). Пабожнасьць – гэта жыцьцё паводле Божай волі. Здольнасьць на такое жыцьцё прыходзіць ад Госпада. Ён дае веруючаму, які імкнецца да такога жыцьця, неабходную моц і мудрасьць, каб такім жыцьцём веруючы сьведчыў аб вялікай вартаснасьці і блаславеньнях нашага пазнаньня Яго.

Апостал Пётр піша далей: «Нам дадзены вялікія і каштоўныя абяцаньні, каб вы праз іх сталіся ўдзельнікамі Божае прыроды, ухіліўшыся ад тленьня ў пажаданьні, што ў сьвеце» (2 Пятр. 1:4). Калі мы прынялі Хрыста, дык прынялі Яго на падставе Яго абяцаньняў. Бог Айцец зьвярнуўся да нас з такімі словамі: «Калі ты навернешся да Мяне, дык ачышчу цябе ад грахоў праз кроў Майго Сына, Ісуса Хрыста. Яператвару цябе ў новую істоту і дам табе вечнае жыцьцё ў небе». Значыцца, Бог даў нам абяцаньні, каб на падставе іх мы маглі жыць тут на зямлі тым жыцьцём, якое адпавядае Яго волі. Такія абяцаньні мы знаходзім у шматлікіх месцах Сьвяшчэннага Пісаньня. Калі мы прымаем Божыя абяцаньні і верым у іх, то яны дапамагаюць нам жыць пабожна ў грэшным сьвеце.

Апостал Пётр дадае яшчэ такое павучэньне: «Дык вы, прыкладаючы да гэтага ўсё стараньне, пакажыце ў веры вашай дабрыню, у дабрыні знаньне, у знаньні самавалоданьне, у самавалоданьні цярплівасьць, у цярплівасьці пабожнасьць,

у пабожнасьці браталюбства, а ў браталюбстве любоў. Калі гэта ў вас ёсьць і памнажаецца, дык вы не астанецеся бязьдзейнымі і бязплённымі ў пазнаньні Госпада нашага Ісуса Хрыста. У кім жа гэтага няма, той сьляпы па сваёй блізарукасьці, ён забыўся пра ачышчэньне ад сваіх ранейшых грахоў» (2 Пятр. 1:5-9).

Уся справа ў тым, што Бог мае асаблівы плян духоўнага ўдасканальваньня Сваіх пасьлядоўнікаў. Ён дае ім ўсё патрэбнае, каб яны ў тым узрасталі. Да нашай веры трэба дадаць гэтыя якасьці пабожнасьці. І калі мы ідзём усьлед за Хрыстом, Яго абяцаньні ажыцьцяўляюцца ў нашым жыцьці і мы атрымліваем ад Яго сілу і здольнасьць жыць так, як Ён хоча, каб мы жылі. Як апостал Павал напісаў да калосскіх веруючых: «Бо ў Ім (Хрысьце) знаходзіцца ўся паўната Бажаства цялесна, і вы маеце паўнату ў Ім, Які ёсьць Галава ўсякага начальства і ўлады» (Кал. 2:9-10).

Мы, веруючыя, можам жыць на адной з трох стадыяў хрысьціянскай духоўнасьці: бясплённай, пасрэднай або плённай.

Пры першай стадыі мы бескарысныя Богу. Перад тым, як мы сталіся хрысьціянамі, мы былі бескарыснымі для Царства Божага. На жаль, у некаторых веруючых пасьля прыняцьця Хрыста ніякага росту ў лучнасьці з Госпадам не наступае. Няма ў іх ніякага росту ў лучнасьці з Госпадам, ніякага паглыбленьня ў пабожнасьці. Яны застаюцца дзецьмі ў Хрысьце, таму і бескарысны Госпаду.

Пры другой стадыі веруючы задаволены тым, што ў нядзелю ходзіць на багаслужбу, але сваім знаёмым, з якімі жыве ці працуе, ён ня сьведчыць аб Хрысьце. Найчасьцей ў некаторых пытаньнях ён застаецца непаслухмяным Госпаду Богу, таму і мае розныя цяжкасьці, якія ня ў стане пераадолець. Можна сказаць, што ў Госпада ён верыць, але застаецца «халодным» да Яго, таму і ягонае хрысьціянскае жыцьцё не зусім шчасьлівае.

На трэйцяй стадыі мы сустракаем сур'ёзных плённых веруючых. Бог можа карыстацца любым веруючым, які

поўнасьцю аддаўся Яму, таму Гасподзь учыніў яго дзейсным і плённым вучнем Хрыстовым. Ісус Хрыстос сказаў: «Гэтым уславіцца Мой Айцец, калі вы прынесяце багаты плён, гэтым паказваючы сябе Маімі вучнямі» (Іаан. 15:8).

Выбар за намі, паважаны чытач. Мы штодня павінны паставіць сабе пытаньне: ці я сёньня буду поўнасьцю аддадзены Хрысту і Яго справе на зямлі? Ці хачу я быць плённым хрысьціянінам або хрысьціянкай ці не? Кожны з нас можа стацца плённым хрысьціянінам ці хрысьціянкай, калі гэтага хоча і шлях паслухмянасьці Богу выбера для сябе. Мы можам знайсьці час на сустрэчу з Госпадам або прапусьціць яго. Мы можам сказаць Госпаду: «Госпадзі, я хачу выканаць Тваю волю сёньня і жыць толькі для Цябе».

Аб псалмасьпеваку Давідзе было сказана, што ён паслужыў свайму пакаленьню (Дзеянь. 13:36). У канцы свайго жыцьця ці мы, браты і сёстры ў Хрысьце, зможам сказаць, што мы паслужылі свайму пакаленьню паводле Божай волі? Так можа стацца, калі на гэта мы згодзімся і будзем жыць у паслухмянасьці Богу. Ісус Хрыстос часта гаварыў Сваім вучням аб тым, як трэба жыць і служыць Богу. У апостальскіх лістах і евангельлях даюцца і растлумачваюцца абавязкі веруючых. Успомнім і коратка разгледзім самыя галоўныя з іх.

1) Нам трэба пазнаваць Бога і Хрыста штораз глыбей. З усіх абавязкаў гэта абавязак найважнейшы. Хрыстос сказаў: «Гэта ж і ёсьць жыцьцё вечнае: каб спазналі Цябе, адзінага праўдзівага Бога, і Ісуса Хрыста, Якога Ты пасалаў» (Іаан. 17:3). Вечнае жыцьцё даецца чалавеку ў выніку таго, што ён пазнаёміўся і асабіста знае Бога Айца і Бога Сына. Сутнасьць сапраўднага хрысьціянства ня ў тым, што чалавек выконвае вядомыя царкоўныя абрады, але ў тым, што ён знаходзіцца і расьце ў лучнасьці з Богам. У кнізе прарока Ярэмы запісаны наступныя словы Госпада Бога: «Той, хто хваліцца, няхай хваліцца тым, што разумее і ведае Мяне, што Я – Гасподзь (Уладар), Які чыніць міласэрнасьць, суд і справядлівасьць на зямлі, бо толькі гэта пада-

баецца Мне, кажа Гасподзь» (Яр. 9:24).

Калі мы ўверавалі ды прынялі Хрыста, дык ўвайшлі ў блізкую лучнасьць з Ім. Ён стаўся нашым дарагім Збавіцелем і Прыяцелем. Чым больш мы пазнаём Яго, тым больш становімся падобнымі да Яго. Апостал Павал больш за ўсё хацеў спазнаць Хрыста. Аб гэтым ён напісаў: «Усё лічу стратай для вышэйшага пазнаньня Хрыста Ісуса, Госпада майго... каб пазнаць Яго і моц уваскрэсеньня Яго і ўдзел у пакутах Яго, упадабляючыся сьмерці Яго» (Філ. 3:8-10). Хрыста і Бога мы пазнаём чытаньнем Яго Слова і малітвай. Хрыстос сказаў, што Сьвятое Пісаньне сьведчыць аб Ім. Ня можа быць сумненьня ў тым, што Бог і Хрыстос хочуць адкрывацца нам усё больш і больш ды бласлаўляць нашае жыцьцё, але дзеля таго мы павінны шукаць Госпада на старонках Сьвятога Пісаньня. Бог праз Сваё Слова гаворыць да нас, а мы праз малітву зьвяртаемся да Яго.

2) Нам трэба спадзявацца на Бога ды слухацца Яго. Мы ня толькі прынялі Хрыста верай, але таксама і павінны жыць верай, гэта значыць поўным спадзяваньнем на Яго. У кнізе прарока Ісаі сказана, што бываюць такія моманты, калі стамляюцца юнакі і падаюць, але Гасподзь дае стомленаму моц. «Тыя, хто спадзяецца на Госпада, абновяцца ў сіле; падымуць крылы, як арлы, пабягуць і ня зморацца, пойдуць і ня стомяцца» (Іс. 40:31). Мы самі па сабе ніколі не маглі б жыць удачным хрысьціянскім жыцьцём. Толькі Бог можа даць нам неабходную моц і мудрасьць для такога жыцьця. Таму ў гэтай справе мы мусім спадзявацца на Госпада. Апостал Павал жадаў, каб усе веруючыя спазналі бязьмерную веліч магутнасьці Гасподняй, якая дзейнічае ў іх. Гэта тая самая моц, як сказаў ён, якою Бог уваскрэсіў Хрыста з мёртвых і пасадзіў Яго па правай руцэ Сябе на нябёсах (Эфес. 1:19-20).

3) Каб атрымліваць моц ад Госпада Бога і карыстацца ёю, нам трэба жыць у паслухмянасьці Яму. У старазапаветныя часы Бог таго ж жадаў і чакаў ад ізраільскага народа.

У першай кнізе Царстваў мы чытаем гэтакія словы: «Няўжо Гасподзь жадае ўсеспаленьні і ахвяры больш, чымся паслухмянасьць голасу Госпадняму? Паслухмянасьць лепш за ахвяру і падпарадкаваньне лепш за тук барана» (1 Цар. 15:22). У якой меры мы слухаемся Госпада, у той жа меры Ён дзейнічае ў нас і робіць нас падобнымі да Хрыста, што і праяўляецца ў нашым характары і паводзінах.

Бог заклікае нас да праведнага жыцьця і сапраўднае набожнасьці. Апостал Павал напісаў пра тое гэтакімі словамі: «Ведаем, што любячым Бога, пакліканым па Яго волі, усё ідзе на дабро, бо каго Ён наперад пазнаў, тым прадвызначыў быць падобнымі да вобраза Сына Свайго» (Рым. 8:28-29). З таго часу, калі мы прынялі Хрыста, Бог пачаў дзейнічаць у нас, каб учыніць нас больш падобнымі да Свайго Сына. Духам Сьвятым Ён дапамагае нам прыпадабняцца да Яго Сына, а мы даведваемся, якім быў Яго Сын чытаньнем Сьвяшчэннага Пісаньня. Бог карыстаецца таксама іншымі спосабамі ўзьдзеяньня на нашае жыцьцё, каб садзейнічаць нашаму духоўнаму росту. Цяжкасьці і непрыемныя абставіны часта прыбліжаюць нас да Хрыста. У такія моманты жыцьця мы хутчэй зьвяртаемся да Яго з просьбамі дапамогі і ўзмацненьня. Хаця жыцьцёвыя перажываньні мы лічым непрыемнасьцямі, Бог найчасьцей ужывае іх для нашага дабра. У Лісьце да яўрэяў мы чытаем: «Усякае ж караньне цяпер здаецца ня радасьцю, а смуткам, але пасьля дае навучаным праз яго мірны плод праведнасьці» (Яўр. 12:11). Да Хрыстовай праведнасьці Бог нас заклікае і вядзе, а і мы, са свайго боку, павінны да гэтага імкнуцца.

4) Мы абавязаны выконваць даручаную нам ролю ў Царкве Хрыстовай. Мы ўжо разглядзелі пытаньне Божага надзяленьня веруючых дарамі і гэтым падрабязна займацца тут ня будзем. Скажам толькі, што Дух Сьвяты дае кожнаму дзіцяці Божаму дар ці дары на служэньне іншым людзям у Царкве і ў сьвеце.

Як можам мы распазнаць свае дары? Перш за ўсё малітвай. Трэба ў малітве прасіць, каб Гасподзь адкрыў нам,

у чым заключаюцца нашыя дары служэньня. Апрача таго, пастарайцеся займацца людзьмі, гэта значыць дапамагаць тым, хто таго патрабуе. Гэта паможа вам даведацца, у якіх дарах служэньня вы наймацнейшыя. Затым прызнавайце, што вашыя дары і здольнасьці служэньня цесна зьвязаны з тым, што вас цікавіць і вам ня цяжка выконваць. Папрасіце знаёмых братоў і сёстраў, якія добра ведаюць вас, сумленна ацаніць вашыя здольнасьці служэньня. Як толькі станецца вам ясным, у якім дары ці дарах вы наймацнейшыя, ужывайце іх у служэньні іншым.

5) Нам трэба заклікаць і прыводзіць іншых да Хрыста. Калі мы прынялі Хрыста і расьцём у Ім, дык кожны з нас павінен быць удзельнікам у справе евангелізацыі чалавецтва. Сваім першым вучням Хрыстос загадаў распаўсюджваць евангельскую вестку па ўсім сьвеце і заклікаць людзей з усіх народаў да прыняцьця Евангельля і ўвераваньня ў Хрыста. Кожны з нас ведае і бачыцца з людзьмі, якія самі па сабе ніколі ня пойдуць у царкву, каб там жа пачуць Слова Божае. Але яны ведаюць вас і толькі вы можаце расказаць пра Хрыста і растлумачыць ім біблейнае вучэньне аб збаўленьні праз увераваньне і асабістае прыняцьце Хрыста. А тых, якія прымуць Хрыста ў выніку нашага засьведчаньня, мы адказны таксама прывесьці да духоўнай сьпеласьці.

Гэтым сучасныя вучні Хрыстовы павінны займацца. Ці вы выконваеце волю Божую, дарагі чытач, брат ці сястра ў Хрысьце? Будзем прасіць у Госпада Бога моцы і мудрасьці, каб жыць праведна ў грэшным сьвеце як Яго паслухмяныя дзеці і сьведкі перад тымі, хто пакуль што Яго не спазнаў. Хрыстос сказаў, што калі мы будзем зьвяртаць увагу людзей на Яго і навучаць іх Яго Слова, дык Ён нас не пакіне, але будзе з намі і ў нас да сканчэньня веку. Хай дапаможа нам Гасподзь у гэтай вялікай справе. Амін.

# РАСКЛАД ШТОДЗЁННАГА ЧЫТАНЬНЯ БІБЛІІ:

## СТУДЗЕНЬ:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Быць. 1-2 | Маць. 1 |
| 2 | Быць. 3-5 | Маць. 2 |
| 3 | Быць. 6-8 | Маць. 3 |
| 4 | Быць. 9-11 | Маць. 4 |
| 5 | Быць. 12-14 | Маць. 5:1-26 |
| 6 | Быць. 15-17 | Маць. 5:27-48 |
| 7 | Быць. 18-19 | Маць. 6 |
| 8 | Быць. 20-21 | Маць. 7 |
| 9 | Быць. 22-23 | Маць. 8 |
| 10 | Быць. 24 | Маць. 9:1-26 |
| 11 | Быць. 25-26 | Маць. 9:27-10:15 |
| 12 | Быць. 27-28 | Маць. 10:16-42 |
| 13 | Быць. 29-30 | Маць. 11 |
| 14 | Быць. 31 | Маць. 12:1-21 |
| 15 | Быць. 32-33 | Таць. 12:22-50 |
| 16 | Быць. 34-35 | Маць. 12:22-50 |
| 17 | Быць. 36-37 | Маць. 13:24-52 |
| 18 | Быць. 38-39 | Маць. 13:53-14:21 |
| 19 | Быць. 40-41 | Маць. 14:22-15:20 |
| 20 | Быць. 42-43 | Маць. 15:21-39 |
| 21 | Быць. 44-45 | Маць. 16:1-20 |
| 22 | Быць. 46-47 | Маць. 16:21-17:13 |
| 23 | Быць. 48-50 | Маць. 17:14-18:9 |
| 24 | Вых. 1-3 | Маць. 18:10-35 |
| 25 | Вых. 4:1-5:21 | Маць. 19 |
| 26 | Вых. 5:22-7:24 | Маць. 20:1-19 |
| 27 | Вых. 8-9 | Маць. 20:20-21:11 |
| 28 | Вых. 10:1-12:30 | Маць. 21:12-32 |
| 29 | Вых. 12:31-14:31 | Маць. 21:33-22:14 |
| 30 | Вых. 15-16 | Маць. 22:15-46 |
| 31 | Вых. 17-18 | Маць. 23 |

ЛЮТЫ:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Вых. 19-20 | Мацьь. 24:1-35 |
| 2 | Вых. 21-22 | Мацьь. 24:36-25:13 |
| 3 | Вых. 23-24 | Мацьь. 25:14-46 |
| 4 | Вых. 25-26 | Мацьь. 26:1-30 |
| 5 | Вых. 27-28 | Мацьь. 26:31-56 |
| 6 | Вых. 29:1-30:16 | Мацьь. 26:57-75 |
| 7 | Вых. 30:17-33:6 | Мацьь. 27:1-31 |
| 8 | Вых. 33:7-34:35 | Мацьь. 27:32-61 |
| 9 | Вых. 35-36 | Мацьь. 27:62-28:20 |
| 10 | Вых. 37-38 | Марк. 1:1-28 |
| 11 | Вых. 39-40 | Марк. 1:29-2:12 |
| 12 | Лев. 1-3 | Марк. 2:13-3:6 |
| 13 | Лев. 4:1-6:7 | Марк. 3:7-31 |
| 14 | Лев. 6:8-7:38 | Марк. 4:1-34 |
| 15 | Лев. 8-9 | Марк. 4:35-5:20 |
| 16 | Лев. 10-11 | Марк. 5:21-43 |
| 17 | Левб 12-13 | Марк. 6:1-29 |
| 18 | Лев. 14 | Марк. 6:30-56 |
| 19 | Лев. 15-16 | Марк. 7:1-23 |
| 20 | Лев. 17-19 | Марк. 7:24-8:13 |
| 21 | Лев. 20:1-22:16 | Марк. 8:14-30 |
| 22 | Лев. 22:17-23:44 | Марк. 8:31-9:13 |
| 23 | Лев. 24-25 | Марк. 9:14-37 |
| 24 | Лев. 26-27 | Марк. 9:38-10:16 |
| 25 | Лікі 1 | Марк. 10:17-52 |
| 26 | Лікі 2-3 | Марк. 11:1-26 |
| 27 | Лікі 4 | Марк. 11:27-12:12 |
| 28 | Лікі 5 | Марк. 12:13-27 |
| 29 | Лікі 6 | Марк. 12:28-44 |

САКАВІК:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Лікі 7 | Марк. 13 |
| 2 | Лікі 8-9 | Марк. 14:1-26 |
| 3 | Лікі 10-11 | Марк. 14:27-52 |
| 4 | Лікі 12-14 | Марк. 14:53-72 |
| 5 | Лікі 15-16 | Марк. 15:1-20 |
| 6 | Лікі 17-18 | Марк. 15:21-47 |
| 7 | Лікі 19-20 | Марк. 16 |
| 8 | Лікі 21-22 | Лук. 1:1-25 |
| 9 | Лікі 23-25 | Лук. 1:26-56 |
| 10 | Лікі 26 | Лук. 1:57-80 |
| 11 | Лікі 27-28 | Лук. 2:1-20 |
| 12 | Лікі 29-30 | Лук. 2:21-52 |
| 13 | Лікі 31 | Лук. 3:1-20 |
| 14 | Лікі 32-33 | Лук. 3:21-38 |
| 15 | Лікі 34-36 | Лук. 4:1-30 |
| 16 | Друг. 1 | Лук. 4:31-5:11 |
| 17 | Друг. 2-3 | Лук. 5:12-39 |
| 18 | Друг. 4 | Лук. 6:1-26 |
| 19 | Друг. 5-6 | Лук. 6:27-49 |
| 20 | Друг. 7-8 | Лук. 7:1-35 |
| 21 | Друг. 9-10 | Лук. 7:36-8:15 |
| 22 | Друг. 11-12 | Лук. 8:16-39 |
| 23 | Друг. 13-15 | Лук. 8:40-9:9 |
| 24 | Друг. 16-17 | Лук. 9:10-27 |
| 25 | Друг. 18-20 | Лук. 9:28-50 |
| 26 | Друг. 21-22 | Лук. 9:51-10:24 |
| 27 | Друг. 23-25 | Лук. 10:25-42 |
| 28 | Друг. 26-27 | Лук. 11:1-28 |
| 29 | Друг. 28 | Лук. 11:29-54 |
| 30 | Друг. 29:1-31:13 | Лук. 12:1-34 |
| 31 | Друг. 31:14-32:52 | Лук. 12:35-13:9 |

КРАСАВІК:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Друг. 33-34 | Лук. 13:10-35 |
| 2 | Іс. Н. 1-2 | Лук. 14 |
| 3 | Іс. Н. 3:1-5:12 | Лук. 15 |
| 4 | Іс. Н. 5:13-7:26 | Лук. 16 |
| 5 | Іс. Н. 8-9 | Лук. 17 |
| 6 | Іс. Н. 10-11 | Лук. 18:1-34 |
| 7 | Іс. Н. 12-13 | Лук. 18:35-19:27 |
| 8 | Іс. Н. 14-15 | Лук. 19:28-20:19 |
| 9 | Іс. Н. 16-18 | Лук. 20:20-21:4 |
| 10 | Іс. Н. 19-20 | Лук. 21:5-38 |
| 11 | Іс. Н. 21-22 | Лук. 22:1-38 |
| 12 | Іс. Н. 23-24 | Лук. 22:39-65 |
| 13 | Судзь. 1:1-3:6 | Лук. 22:66-23:25 |
| 14 | Судзь. 3:7-4:24 | Лук. 23:26-56 |
| 15 | Судзь. 5-6 | Лук. 24:1-35 |
| 16 | Судзь. 7-8 | Лук. 24:36-53 |
| 17 | Судзь. 9 | Іаан. 1:1-18 |
| 18 | Судзь. 10-11 | Іаан. 1:19-51 |
| 19 | Судзь. 12-14 | Іаан. 2 |
| 20 | Судзь. 15-16 | Іаан. 3:1-21 |
| 21 | Судзь. 17-18 | Іаан. 3:22-36 |
| 22 | Судзь. 19:1-20:17 | Іаан. 4:1-26 |
| 23 | Судзь. 20:18-21:25 | Іаан. 4:27-54 |
| 24 | Руф 1-2 | Іаан. 5:1-15 |
| 25 | Руф 3-4 | Іаан. 5:16-30 |
| 26 | 1 Цар. 1-2 | Іаан. 5:31-47 |
| 27 | 1 Цар. 3-5 | Іаан. 6:1-24 |
| 28 | 1 Цар. 6-8 | Іаан. 6:25-59 |
| 29 | 1 Цар. 9-10 | Іаан. 6:60-71 |
| 30 | 1 Цар. 11:1-13:22 | Іаан. 7:1-24 |

ТРАВЕНЬ:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | 1 Цар. 13:23-14:52 | Іаан. 7:25-44 |
| 2 | 1 Цар. 15-16 | Іаан. 7:45-8:11 |
| 3 | 1 Цар. 17 | Іаан. 8:12-30 |
| 4 | 1 Цар. 18-19 | Іаан. 8:31-47 |
| 5 | 1 Цар. 20-21 | Іаан. 8:48-59 |
| 6 | 1 Цар. 22-23 | Іаан. 9:1-23 |
| 7 | 1 Цар. 24-25 | Іаан. 9:24-41 |
| 8 | 1 Цар. 26-28 | Іаан. 10:1-21 |
| 9 | 1 Цар. 29-31 | Іаан. 10:22-42 |
| 10 | 2 Цар. 1:1-3:5 | Іаан. 11:1-37 |
| 11 | 2 Цар. 3:6-4:12 | Іаан. 11:38-57 |
| 12 | 2 Цар. 5-6 | Іаан. 12:1-19 |
| 13 | 2 Цар. 7-9 | Іаан. 12:20-36 |
| 14 | 2 Цар. 10-11 | Іаан. 12:37-50 |
| 15 | 2 Цар. 12-13 | Іаан. 13:1-17 |
| 16 | 2 Цар. 14-15 | Іаан. 13:18-38 |
| 17 | 2 Цар. 16-17 | Іаан. 14:1-14 |
| 18 | 2 Цар. 18:1-19:8 | Іаан. 14:15-31 |
| 19 | 2 Цар. 19:9-10:16 | Іаан. 15:1-17 |
| 20 | 2 Цар. 21-22 | Іаан. 15:18-16:4 |
| 21 | 2 Цар. 23-24 | Іаан. 16:5-16 |
| 22 | 3 Цар. 1 | Іаан. 16:17-33 |
| 23 | 3 Цар. 2 | Іаан. 17:1-19 |
| 24 | 3 Цар. 3-4 | Іаан. 17:20-26 |
| 25 | 3 Цар. 5-6 | Іаан. 18:1-14 |
| 26 | 3 Цар. 7 | Іаан. 18:15-27 |
| 27 | 3 Цар. 8 | Іаан. 18:28-40 |
| 28 | 3 Цар. 9-10 | Іаан. 19:1-16 |
| 29 | 3 Цар. 11 | Іаан. 19:17-27 |
| 30 | 3 Цар. 12-13 | Іаан. 19:28-42 |
| 31 | 3 Цар. 14:1-15:32 | Іаан. 20:1-18 |

ЧЭРВЕНЬ:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | 3 Цар. 15:33-17:24 | Іаан. 20:19-31 |
| 2 | 3 Цар. 18 | Іаан. 21:1-14 |
| 3 | 3 Цар. 19:1-20:34 | Іаан. 21:15-25 |
| 4 | 3 Цар. 20:35-21:29 | Дз. А. 1:1-11 |
| 5 | 3 Цар. 22 | Дз. А. 1:12-26 |
| 6 | 4 Цар. 1-2 | Дз. А. 2:1-21 |
| 7 | 4 Цар. 3-4 | Дз. А. 2:22-47 |
| 8 | 4 Цар. 5:1-6:23 | Дз. А. 3 |
| 9 | 4 Цар. 6:24-8:29 | Дз. А. 4:1-22 |
| 10 | 4 Цар. 9-10 | Дз. А. 4:23-37 |
| 11 | 4 Цар. 11-12 | Дз. А. 5:1-16 |
| 12 | 4 Цар. 13-14 | Дз. А. 5:17-42 |
| 13 | 4 Цар. 15-16 | Дз. А. 6 |
| 14 | 4 Цар. 17 | Дз. А. 7:1-22 |
| 15 | 4 Цар. 18-19 | Дз. А. 7:23-43 |
| 16 | 4 Цар. 20-21 | Дз. А. 7:44-8:3 |
| 17 | 4 Цар. 22:1-23:30 | Дз. А. 8:4-25 |
| 18 | 4 Цар. 23:31-25:30 | Дз. А. 8:26-40 |
| 19 | 1 Лет. 1-2 | Дз. А. 9:1-19 |
| 20 | 1 Лет. 3-4 | Дз. А. 9:20-43 |
| 21 | 1 Лет. 5-6 | Дз. А. 10:1-23 |
| 22 | 1 Лет. 7-8 | Дз. А. 10:24-48 |
| 23 | 1 Лет. 9-10 | Дз. А. 11 |
| 24 | 1 Лет. 11-12 | Дз. А. 12 |
| 25 | 1 Лет. 13:1-16:6 | Дз. А. 13:1-12 |
| 26 | 1 Лет. 16:7-17:27 | Дз. А. 13:13-52 |
| 27 | 1 Лет. 18-20 | Дз. А. 14 |
| 28 | 1 Лет. 21-22 | Дз. А. 15:1-21 |
| 29 | 1 Лет. 23-24 | Дз. А. 15:22-35 |
| 30 | 1 Лет. 25-26 | Дз. А. 15:36-16:15 |

ЛІПЕНЬ:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | 1 Лет. 27-28 | Дз. А. 16:16-40 |
| 2 | 1 Лет. 29 | Дз. А. 17:1-15 |
| 3 | 2 Лет. 1-3 | Дз. А. 17:16-34 |
| 4 | 2 Лет. 4:1-6:11 | Дз. А. 18 |
| 5 | 2 Лет. 6:12-7:22 | Дз. А. 19:1-22 |
| 6 | 2 Лет. 8-9 | Дз. А. 19:23-20:12 |
| 7 | 2 Лет. 10-12 | Дз. А. 20:13-38 |
| 8 | 2 Лет. 13-15 | Дз. А. 21:1-16 |
| 9 | 2 Лет. 16:1-18:27 | Дз. А. 21:17-36 |
| 10 | 2 Лет. 18:28-21:3 | Дз. А. 21:37-22:29 |
| 11 | 2 Лет. 21:4-23:21 | Дз. А. 22:30-23:11 |
| 12 | 2 Лет. 24-25 | Дз. А. 23:12-35 |
| 13 | 2 Лет. 26-28 | Дз. А. 24 |
| 14 | 2 Лет. 29:1-31:1 | Дз. А. 25:1-22 |
| 15 | 2 Лет. 31:2-32:33 | Дз. А. 25:23-26:32 |
| 16 | 2 Лет. 33-34 | Дз. А. 27:1-26 |
| 17 | 2 Лет. 35-36 | Дз. А. 27:27-44 |
| 18 | Эздр. 1-2 | Дз. А. 28 |
| 19 | Эздр. 3-5 | Іак. 1:1-18 |
| 20 | Эздр. 6-7 | Іак. 1:19-2:13 |
| 21 | Эздр. 8-9 | Іак. 2:14-26 |
| 22 | Эздр. 10 | Іак. 3 |
| 23 | Нег. 1-2 | Іак. 4 |
| 24 | Нег. 3-4 | Іак. 5 |
| 25 | Нег. 5:1-7:3 | 1 Пятр. 1:1-12 |
| 26 | Нег. 7:4-73 | 1 Пятр. 1:13-2:3 |
| 27 | Нег. 8:1-9:37 | 1 Пятр. 2:4-12 |
| 28 | Нег. 9:38-11:36 | 1 Пятр. 2:13-3:7 |
| 29 | Нег. 12-13 | 1 Пятр. 3:8-22 |
| 30 | Эсф. 1-2 | 1 Пятр. 4 |
| 31 | Эсф. 3-5 | 1 Пятр. 5 |

ЖНІВЕНЬ:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Эсф. 6-8 | 2 Пятр. 1 |
| 2 | Эсф. 9-10 | 2 Пятр. 2 |
| 3 | Іёў 1-3 | 2 Пятр. 3 |
| 4 | Іёў 4-7 | 1 Іаан. 1:1-2:14 |
| 5 | Іёў 8-10 | 1 Іаан. 2:15-3:10 |
| 6 | Іёў 11-14 | 1 Іаан. 3:11-4:6 |
| 7 | Іёў 15-18 | 1 Іаан. 4:7-21 |
| 8 | Іёў 19-21 | 1 Іаан. 5 |
| 9 | Іёў 22-25 | 2 і 3 Іаан. |
| 10 | Іёў 26-29 | Іуд. |
| 11 | Іёў 30-31 | Рым. 1:1-17 |
| 12 | Іёў 32-34 | Рым. 1:18-32 |
| 13 | Іёў 35-37 | Рым. 2:1-16 |
| 14 | Іёў 38-39 | Рым. 2:17-3:8 |
| 15 | Іёў 40-42 | Рым. 3:9-31 |
| 16 | Пс. 1-6* | Рым. 4 |
| 17 | Пс. 7-13 | Рым. 5:1-11 |
| 18 | Пс. 14-18 | Рым. 5:12-21 |
| 19 | Пс. 19-24 | Рым. 6 |
| 20 | Пс. 25-30 | Рым. 7 |
| 21 | Пс. 31-34 | Рым. 8:1-17 |
| 22 | Пс. 35-37 | Рым. 8:18-39 |
| 23 | Пс. 38-41 | Рым. 9:1-29 |
| 24 | Пс. 42-47 | Рым. 9:30-10:21 |
| 25 | Пс. 48-52 | Рым. 11:1-24 |
| 26 | Пс. 53-58 | Рым. 11:25-36 |
| 27 | Пс. 59-65 | Рым. 12 |
| 28 | Пс. 66-68 | Рым. 13 |
| 29 | Пс. 69-72 | Рым. 14:1-18 |
| 30 | Пс. 73-77 | Рым. 14:19-15:13 |
| 31 | Пс. 78-79 | Рым. 15:14-33 |

*Кніга Псальмаў – па разьдзелах Луцкевічавага перакладу Новага Запавету і Псальмаў.

ВЕРАСЕНЬ:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Пс. 80-85 | Рым. 16 |
| 2 | Пс. 86-89 | 1 Кар. 1:1-17 |
| 3 | Пс. 90-94 | 1 Кар. 1:18-2:5 |
| 4 | Пс. 95-101 | 1 Кар. 2:6-16 |
| 5 | Пс. 102-104 | 1 Кар. 3 |
| 6 | Пс. 105-106 | 1 Кар. 4 |
| 7 | Пс. 107-110 | 1 Кар. 5 |
| 8 | Пс. 111-118 | 1 Кар. 6 |
| 9 | Пс. 119:1-88 | 1 Кар. 7:1-24 |
| 10 | Пс. 119:89-176 | 1 Кар. 7:25-40 |
| 11 | Пс. 120-134 | 1 Кар. 8 |
| 12 | Пс. 135-141 | 1 Кар. 9 |
| 13 | Пс. 142-150 | 1 Кар. 10:1-22 |
| 14 | Прык. 1-3 | 1 Кар. 10:23-11:16 |
| 15 | Прык. 4-6 | 1 Кар. 11:17-34 |
| 16 | Прык. 7-9 | 1 Кар. 12:1-11 |
| 17 | Прык. 10-12 | 1 Кар. 12:12-31 |
| 18 | Прык. 13-15 | 1 Кар. 13 |
| 19 | Прык. 16-18 | 1 Кар. 14-12 |
| 20 | Прык. 19-21 | 1 Кар. 14:13-25 |
| 21 | Прык. 22-24 | 1 Кар. 14:26-40 |
| 22 | Прык. 25-27 | 1 Кар. 15:1-19 |
| 23 | Прык. 28-29 | 1 Кар. 15:20-34 |
| 24 | Прык. 30-31 | 1 Кар. 15:35-58 |
| 25 | Экл. 1-3 | 1 Кар. 16 |
| 26 | Экл. 4:1-8:1 | 2 Кар. 1:1-11 |
| 27 | Экл. 8:2-12:14 | 2 Кар. 1:12-2:4 |
| 28 | Песь. П. 1-4 | 2 Кар. 2:5-3:6 |
| 29 | Песь. П. 5-8 | 2 Кар. 3:7-18 |
| 30 | Іс. 1:1-4:1 | 2 Кар. 4 |

## КАСТРЫЧНІК:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Іс. 4:2-7:25 | 2 Кар. 5:1-6:2 |
| 2 | Іс. 8-10 | 2 Кар. 6:3-7:1 |
| 3 | Іс. 11-14 | 2 Кар. 7:2-16 |
| 4 | Іс. 15-19 | 2 Кар. 8:1-15 |
| 5 | Іс. 20-23 | 2 Кар. 8:16-9:5 |
| 6 | Іс. 24-27 | 2 Кар. 9:6-15 |
| 7 | Іс. 28-29 | 2 Кар. 10 |
| 8 | Іс. 30-32 | 2 Кар. 11:1-15 |
| 9 | Іс. 33-36 | 2 Кар. 11:16-33 |
| 10 | Іс. 37-39 | 2 Кар. 12 |
| 11 | Іс. 40-41 | 2 Кар. 13 |
| 12 | Іс. 42:1-44:23 | Гал. 1 |
| 13 | Іс. 44:24-47:15 | Гал. 2 |
| 14 | Іс. 48-49 | Гал. 3:1-14 |
| 15 | Іс. 50-53 | Гал. 3:15-4:7 |
| 16 | Іс. 54-57 | Гал. 4:8-31 |
| 17 | Іс. 58-60 | Гал. 5 |
| 18 | Іс. 61-64 | Гал. 6 |
| 19 | Іс. 65-66 | Эфес. 1 |
| 20 | Яр. 1:1-3:5 | Эфес. 2 |
| 21 | Яр. 3:6-5:31 | Эфес. 3 |
| 22 | Яр. 6:1-8:3 | Эфес. 4:1-16 |
| 23 | Яр. 8:4-10:25 | Эфес. 4:17-5:21 |
| 24 | Яр. 11-13 | Эфес. 5:22-6:9 |
| 25 | Яр. 14:1-17:18 | Эфес. 6:10-24 |
| 26 | Яр. 17:19-20:18 | Філ. 1 |
| 27 | Яр. 21-23 | Філ. 2 |
| 28 | Яр. 24-26 | Філ. 3:1-4:1 |
| 29 | Яр. 27-29 | Філ. 4:2-23 |
| 30 | Яр. 30-31 | Кал. 1:1-23 |
| 31 | Яр. 32-33 | Кал. 1:24-2:5 |

ЛІСТАПАД:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Яр. 34-36 | Кал. 2:6-23 |
| 2 | Яр. 37-38 | Кал. 3:1-4:1 |
| 3 | Яр. 39:1-41:15 | Кал. 4:2-18 |
| 4 | Яр. 41:16-44:30 | 1 Фес. 1 |
| 5 | Яр. 45-47 | 1 Фес. 2:1-16 |
| 6 | Яр. 48:1-49:22 | 1 Фес. 2:17-4:12 |
| 7 | Яр. 49:23-50:46 | 1 Фес. 4:13-5:28 |
| 8 | Яр. 51 | 2 Фес. 1 |
| 9 | Яр. 52 | 2 Фес. 2 |
| 10 | Гал. Яр. 1-2 | 2 Фес. 3 |
| 11 | Гал. Яр. 3-5 | 1 Цім. 1 |
| 12 | Іез. 1-3 | 1 Цім. 2 |
| 13 | Іез. 4-6 | 1 Цім. 3 |
| 14 | Іез. 7-9 | 1 Цім. 4 |
| 15 | Іез. 10-12 | 1 Цім. 5:1-6-2 |
| 16 | Іез. 13-15 | 1 Цім. 6:3-21 |
| 17 | Іез. 16 | 2 Цім. 1:1-2:13 |
| 18 | Іез. 17-18 | 2 Цім. 2:14-3:9 |
| 19 | Іез. 19-20 | 2 Цім. 3:10-4:22 |
| 20 | Іез. 21-22 | Ціт. 1 |
| 21 | Іез. 23-24 | Ціт. 2 |
| 22 | Іез. 25-27 | Ціт. 3 |
| 23 | Іез. 28-29 | Філім. |
| 24 | Іез. 30-31 | Яўр. 1 |
| 25 | Іез. 32-33 | Яўр. 2 |
| 26 | Іез. 34-35 | Яўр. 3 |
| 27 | Іез. 36-37 | Яўр. 4:1-13 |
| 28 | Іез. 38-39 | Яўр. 4:14-5:10 |
| 29 | Іез. 40:1-47 | Яўр. 5:11-6:20 |
| 30 | Іез. 40:48-43:12 | Яўр. 7 |

СЬНЕЖАНЬ:

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Іез. 43:13-44:31 | Яўр. 8 |
| 2 | Іез. 45-46 | Яўр. 9 |
| 3 | Іез. 47-48 | Яўр. 10:1-18 |
| 4 | Дан. 1-2 | Яўр. 10:19-39 |
| 5 | Дан. 3 | Яўр. 11:1-16 |
| 6 | Дан. 4 | Яўр. 11:17-40 |
| 7 | Дан. 5-6 | Яўр. 12:1-13 |
| 8 | Дан. 7-8 | Яўр. 12:14-29 |
| 9 | Дан. 9:1-11:1 | Яўр. 13 |
| 10 | Дан. 11:2-12:13 | Адкр. 1 |
| 11 | Ос. 1-4 | Адкр. 2:1-11 |
| 12 | Ос. 5-8 | Адкр. 2:12-29 |
| 13 | Ос. 9:1-11:11 | Адкр. 3 |
| 14 | Ос. 11:12-14:9 | Адкр. 4 |
| 15 | Іаэл. 1-3 | Адкр. 5 |
| 16 | Ам. 1-3 | Адкр. 6:1-7:8 |
| 17 | Ам. 4-6 | Адкр. 7:9-8:5 |
| 18 | Ам. 7-9 | Адкр. 8:6-9:21 |
| 19 | Аўдз. | Адкр. 10 |
| 20 | Іон. 1-4 | Адкр. 11 |
| 21 | Міх. 1-4 | Адкр. 12 |
| 22 | Міх. 5-7 | Адкр. 13 |
| 23 | Нав. 1-3 | Адкр. 14:1-13 |
| 24 | Авак. 1-3 | Адкр. 14:14-15:8 |
| 25 | Саф. 1-3 | Адкр. 16 |
| 26 | Аг. 1-2 | Адкр. 17 |
| 27 | Зах. 1-4 | Адкр. 18 |
| 28 | Зах. 5-8 | Адкр. 19 |
| 29 | Зах. 9-11 | Адкр. 20 |
| 30 | Зах. 12-14 | Адкр. 21 |
| 31 | Мал. 1-4 | Адкр. 22 |

## ЗЬМЕСТ

